# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991 №12 (133) 28 ЧЭРВЕНЯ 1999 Г. http://members.xoom.com/Nasa_Niva




## *20 ліпеня сканчаецца пяцігодка праўленьня Аляксандра Лукашэнкі*

*Пры ўсім аб'ёме і каларыце ягонай пэрсоны ў жыцьці краіны за гэты час не адбылося нічога па-сапраўднаму значнага — добрага ці благога — з чым можна было б зьвязаць імя першага прэзыдэнта РБ. Ні эканамічнага, палітычнага або культурнага ўздыму, ані ўпадку. Нічога. Два рэфэрэндумы, канфлікт у Драздах і «праваслаўны атэізм» — вось, бадай, і ўсё, што запомніцца. З іншага боку, усе гэтыя пяць гадоў амаль увесь палітычны бамонд, культурная эліта і ўся недзяржаўная прэса Беларусі так ці інакш супрацьсталі Лукашэнку ўсімі магчымымі спосабамі і з усіх сілаў, а вынік таксама — нулявы. Змагаліся з ветраком. Такія наступствы мінулых пяці гадоў наводзяць на думку пра фантом ППРБ: Аляксандар Лукашэнка ніколі ня быў тым, за каго яго прымалі — рэальным прэзыдэнтам РБ.*

*Артыкул Сяргея Паўлоўскага «ПЯТРУШКА» чытайце на старонцы 3.*

# НЯКЛЯЕЎ–ЗАГАДКА

Уладзімер Някляеў не вярнуўся ў Беларусь. Апошнія надзеі «дзяржаўнай» інтэлігенцыі на перавыхаваньне прэзыдэнта разьвейваюцца. Улада застаецца пры сваім імкненьні выправіць «гістарычную памылку бальшавікоў» і ліквідаваць беларускае пытаньне. Дзяржаўная інтэлігенцыя застаецца перад выбарам: устаць разам з усім народам ці працягваць удаваць вялікую хітрасьць, трымаючы хвігу ў кішэні.

Эміграцыя Някляева, дэкляраваны крах спробаў недалучанага чалавека «цярпець уладу моўчкі», можа стаць вялікай справай для Беларусі, для дасягненьня нацыянальнага адзінства. Гэта знакавы ўчынак, параўнальны з вяртаньнем Чыгіра. Выходзіць, ніякі чалавек ня можа больш трываць. Лепш ужо няволя, лепш эміграцыя, чым маўчаньне.

Саюзу пісьменьнікаў Някляеў дае адзіны шанец ператварыцца з савецкага бюракратычнага фантому, зь якім ужо даўно ніхто ня лічыцца і ніхто не заўважае, у нешта сапраўднае, з прынцыпамі і пазыцыяй. Мала хто верыць, што гэта магчыма. З вуснаў намесьніцы старшыні СП Вольгі Іпатавай ужо прагучала, што галоўнае – захаваць «асяродак нацыянальнай ідэі». Што, калі адкінуць мэтафары, азначае – захаваць пару пакояў у будынку ля парку Горкага, пераабраўшы Някляева. Іншы ж намесьнік, Навум Гальпяровіч, маўчыць.

У. Някляеў ахінуў сябе таямніцай. Кажуць, што ён сапраўды вельмі хворы – пасьля інсульту. Кажуць, што ён можа нікуды не эмігруе, прыедзе назад і скажа: «А хто прыдумаў усё гэта? Я такога ніколі не казаў, гэта выдумка рэпартэраў». Варшаўская сям'я, у якой ён гасьцюе, нікога да яго не падпускае, нават ягоная жонка ня зь першага разу дазванілася. Ведама, што сустракаўся з Пазьняком, але невядома, пра што гаварылі. Прэс-канфэрэнцыя адкладаецца.

Валянцін Акудовіч, сябар рэдакцыі «Крыніцы», пацьвярджае: «Някляеў, як ніхто, умее трымаць паўзу». Карэспандэнт «Белорусской газеты» Сямён Букчын абураецца ў слухаўку: «Нічога ня ведаю. Я вам не літсакратар Някляева, я не за тым у Варшаве». Віктар Шніп, які працаваў адказным сакратаром «ЛіМу» і за Някляева, усьміхаецца ў вусы: «Някляеў паехаў па Нобэлеўскую прэмію. Шымборская, польская паэтка атрымала ж гэтую прэмію». У беларускай літаратуры была адна энігма – Максім Танк. Мас-мэдыя за тыдзень зьляпілі другую.



Фота В.Жыліна

Згадваюцца даўнія кадры з БТ: калі Лукашэнка ўрачыста адкрываў Тэатар эстрады, ён абыходзіў прысутную «творчую інтэлігенцыю», вітаючы і ціснучы рукі. Падышоў і да Някляева. Той застаўся стаяць рукі ў кішэнях. Лукашэнку скрывіла.

Мы спыталіся, што думае пра ад'езд Уладзімера Някляева Адам Глёбус, які працаваў разам зь ім у часопісе «Крыніца» — тым, наклад якога сягаў 500 тысяч.

## БРЫТВА

*Прыгнечанасьць часу,*
*разгубленасьць часу і страх —*
*Нібыта ў сяброўскіх,*
*нібыта ў варожых вачах.*

*На ранку галюся. Баюся.*
*Прад люстрам стаю —*
*Разгубленасьць мрою,*
*прыгнечанасьць трызьню сваю.*

*Час тахкае ў скроні.*
*Над бітваю дыбіцца бітва.*
*Цяжэе ў далоні*
*Вайсковая бацькава брытва.*

*Шалею ад болю.*
*Ня трэшчына ў часе — разлом.*
*Кроў кліча на волю...*
*Упоперак горла — лязом.*

**Уладзімер Някляеў**

## Адам Глёбус: НЯКЛЯЕЎ БУДЗЕ ВЫДАВАЦЬ «КРЫНІЦУ» ЗА МЯЖОЙ

*«У яго жыцьці наступіў крызыс. Той Някляеў, якога я ведаў быў чалавек экстэр'ерны, эстрадны, пасадны. Ён заўсёды быў навідавоку. Гэта чалавек, які мог чытаць вершы на стадыёне або выступаць на зьездзе камуністаў. Яго заўсёды цікавіла зьнешняя праява мастацтва. І разам з тым гэты чалавек валодаў вялікай здатнасьцю дамаўляцца з усімі. Цяпер, мусіць, гэта першы выпадак, калі ён не дамовіўся з уладамі.*

*Працяг тэмы на старонцы 2.*

# БЯЗЬЛЮДНАЯ БЕЛАРУСЬ

### ПАДАРОЖЖА НА ГАРАДОЧЧЫНУ

Кожнае лета рэдакцыя «Нашай Нівы» выпраўляецца ў вандроўку па Беларусі, каб зьдзейсьніць запавет Францішка Багушэвіча:

*Хай жа ўсе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчынны час ісьці нам*
*Вывучаць свой люд.*

Праўда, падарожнічаем мы не з кійком і не па дарогах, а па рэках, зь якіх звычайна адкрываюцца не фасады гарадоў і вёсак, а наадварот, іхная, так бы мовіць, званіца. Гэта Беларусь такая, якая яна ёсьць насамрэч — не прыхарошаная і не прыхаваная. Яна падыходзіць да рэчак сваімі дварамі і незвычайнымі краявідамі.

Гэтым разам нашай дарогай стала невялікая рэчка Обаль, што цячэ ў Гарадоцкім і Шумілінскім раёнах Віцебшчыны. Урэшце яе воды ўвальюцца ў Дзьвіну, каб даплысьці да Полацка. Мы ж гэтым разам скончылі сваё падарожжа ў Казьянах, у цэнтры заказьніку, дзе, кажуць, найвялікшая шчыльнасьць ласёў у Эўропе. Гэта самы паўночна-заходні кут краіны, мяжа з расейскай Пскоўшчынай, што праходзіць па возеры Езярышчы, у якім ажно 20 астравоў і адкуль уласна распачаўся наш шлях. Унікальнасьць тутэйшых мясьцінаў у тым, што гэта самая малалюдная Беларусь. У іншы дзень мы не сустракалі тут ніводнага чалавека. Асабліва калі патраплялі ў бясконцы край балатоў, дзе абапал ракі цягнуліся бясконцыя прасторы парослых хмызамі кочак ды вытыркаліся ўсохлыя, быццам пагарэлыя або хворыя голыя ствалы бяроз. У такіх мясьцінах і сапраўды можа быць унікальная шчыльнасьць ласёў і ня менш унікальная няшчыльнасьць людзей.

*Працяг тэмы на старонцы 8.*

# З усіх старон

**А.Лукашэнка, можа, праўдзе ў Маскве 20 ліпеня,** свой апошні дзень законнага кіраваньня Беларусяй. У гэты дзень хочуць падпісаць дамову, каб стаў беларуска-расейскі саюз. «Славянскі базар», заплянаваны на тыя дні, ужо адклалі. Расейскі віцэ-прэм'ер Аксёненка абмяркоўваў 26—27-га ў Менску дамову аб ССР. Гэта быццам бы будзе канфедэрацыя, кіраваць ёю будзе прэзыдэнт, будзе адзін парлямэнт: 75 дэпутатаў ад Расеі і 28 — ад Беларусі. Але 25 галасоў будзе досыць, каб накласьці вэта на рашэньне. Праціўнікі Лукашэнкі клянуцца вывесьці ў гэты дзень у Менску на вуліцы на менш за 50 тыс. чалавек.

**Каб зьезд БНФ адбыўся за межамі Беларусі,** выступіла Віцебская рада БНФ. Аргумэнт — так было зь першым зьездам. Цяпер паказваюць на Кіеў, бо ў Літву цяжка трапіць. Віцьбічы, вось жа, падтрымалі ідэю Пазьняка. А Вячорка супраць. Мауляў, працуй пільне, будзе дома Вільня. І шчырує — падрыхтоўку зьезду прыбраў да сваіх рук. Зьезд будзе малым (290 дэлегатаў), дык праехаць ўсім за мяжу — ня штука. Хоць і даражэй, чым аднаму — з-за мяжы.

**На сцэне Купалаўскага загарэліся дэкарацыі** ўсяго праз паўгадзіны пасьля прэм'еры «Смаку яблыка» — кажуць, замыканьне. Пажар загасілі, але пагарэла рэквізыту на многа мільёнаў. Аб прадстаўленьні — на с. 4.

**Польскі перакладчык «Новай зямлі» Чэслаў Сэнюх** правёў творчую сустрэчу на філфаку. Было чалавек 20. Ён чытаў пераклады, прывёз і свой уласны, вельмі сардэчны твор — «Размовы зь мёртвым бацькам». Сэнюх нарадзіўся ў навагрудзкай Любчы, бацька ў яго з Падольля, маці — беларуска. Бацьку ў 1940-м вывезьлі ў Сібір, там і забілі.

**Сэрб-адзіночка з калашнікавым албанскай вытворчасьці** напаў на амэрыканскі патруль, але нікога не пасьпеў забіць — яго застрэлілі. Сядзеў ён на версе трохпавярховага дому. Радыкальная партыя і Сэрбская царква не прызнаюць «акупацыі НАТО» і бунтуюць народ на вайну.

**Калюмбійскага пісьменьніка Габрыэля Гарсія Маркеса паклалі ў бальніцу са «зьнясіленьнем».** Маркесу 72 гады, ён праходзіў абсьледаваньне, бо ў 1992-м яму рабілі апэрацыю, выразалі рак зь лёгкіх (ён курыў дужа).

Знакам тым

# БЕДАРУСЬ

Вольга Караткевіч



*Гэтае слова прыйшло ў мой лексыкон праз уменьне друкаваць так званым «сьляпым мэтадам» — калі не глядзіш на клявіятуру. Мая найчасьцейшая памылка — блытаньне літараў л і д. Яны побач. Вось і йдзе спрэс у навінах — Бедарусь. Калі я з разумным выглядам прапаноўваю палітыку-апазыцыянэру па дарозе са Страсбургу завітаць у Жабінку, я думаю, што адчуваю рэаліі лепш за палітыка, які дзівіцца рэйтынгу Аляксандра Рыгоравіча. Кожнаму з нас трэба дома бываць часьцей. І, калі магчыма, ня госьцем. Тады Беларусь і шляхі ейнага разьвіцьця становяцца больш зразумелымі.*

Што абсалютна ня ёсьць пачаткам аптымізму. Восем гадзінаў язды з Мазыру да Менску ў аўтобусе «Лельчыцы—Менск» азадачылі мяне пытаньнямі, на якія ці ня варта шукаць адказаў, ці загадка адказаў ужо знойдзеная, таму народ беларускі малаперамоўны ў сваёй закансэрваванасьці.... З пасадкай мяне папрасілі пачакаць, бо ў салёне трэ было вымыць кроў — вынік бойкі абпітых маладзёнаў, якія пачалі паміж сабой, а пасьля дачапіліся да кіроўцы. А пасьля пачаўся журналісцкі інвэстыгейшэн. Чаму пасажыры пруць усе свае баулы ў салён? Чаму багажня пустая, а салён перапоўнены кактэйлем пахаў сала, клубніцы, сыравэнджанай, піва... Ці мыла з часоў вайны засталося стратэгічным таварам? Чаму пасажыры пачынаюць апантана паглынаць засмажаныя на камбітлушчы пончыкі, беляшы, чабурэкі адразу пасьля адпраўленьня аўтобуса з чарговай зь бясконцых і аднолькавых станцыяў? Чаму недастаткова зьесьці гэты сьмярдзючы тлушч яшчэ на пэроне? Каб запіць цёплым і сьмярдзючым півам? Чаму ня мыюць рук пасьля яды? Чаму жуйкі налепліваюць на падлокатнік? Чаму кашляюць так, што хочацца адкрыць парасон? Чаму пасьля заўвагі, што, маўляў, ня варта штурхаць мяне ў сьпіну, бо я й так старанна прабіралася праз навалы валізаў, накрытых газэтамі і перавязаных брудным бінтом, я займела ганебнае акрэсьленьне «гэткая інжынэрка».

Аўтобус варожа ўзіраўся ў чытанае мной. У гэты момант на старонках кніжкі цытаваўся Бярдзяеў, які заўважыў, што расейскі народ — «народ откровений и впечатлений». Цікава, як далёкія людзі з аўтобуса ад гэтага вызначэньня суседняга народу? Адкрыта на задніх сядзеньнях адзін беларускі мужчына Мележава веку (паспрабуй, вызначы — 30 ці пасьля 40!) распавядаў сябру пра кавярню ў Петрыкаве. Аказваецца, у кавярні працечнай вады няма і стаяць два тазы. У адным талерку мыюць, у другім — палошчуць. Так каля дваццаці талерак. Пасьля ваду ў тазох мяняюць.

Ня ведаю, ці праўда, а вось на аўтастанцыі ў горадзе Бабруйску пасьля парады кіроўцаў вырашыла пад'есьці. Апроч абрыдлых за апошнія 5 гадоў прыгатаваных з незразумелага мешыва кілбасак памагілеўскі, мэню прапанаваць нічога не магло. Асарці з гародніны не адпавядала найменьню, бо яно складалася з мух, што патанулі ў залітай алеем капусьце. У бары са сьвежых сокаў мне прапанавалі адкаркаванае раніцай цёплае шампанскае... Я ніколі не прэтэндавала на арыстакратызм, але да дэгенэрацыі трэ пачакаць... Альбо таўсьценная бабка ў кофце зь люрэксам раве на маладую студэнтку ў шорціках: «Чаго лыткі расставіла?» Ну, прабачце за тое, што маладыя. Як вядома, гэты недахоп хутка зьнікае...

А тым часам другая частка краіны — надбудова — віруе. Усе стараюцца зрабіць са старшыні Рады Саюзу пісьменьнікаў Уладзімера Някляева палітэмігранта. Прэсынгуюць. Пушчаюць дэзы. Толькі сябра Някляева, старшыня Дзяржкамдруку Беларусі Міхаіл Падгайны, цьвяроза ацаніў сытуацыю і праз папярэджаную ім жа газэту «Навіны» перадаў Някляеву, «каб ён хутчэй папраўляўся, перастаў маяцца дур'ю і прыязджаў на радзіму». З дысыдэнцтвам Беларусь яўна запазьнілася. У шасьцідзясятых Аляксандар Салжаніцын доўга змагаўся і вызначаўся, ці быць яму барацьбітом, які высмактаў афіцыйныя рэсурсы, а пасьля запратэставаў, ці быць яму пісьменьнікам, выкінутым у дысыдэнцтва.

Міжнародныя спартовыя гульні адбыліся ў Менску. Аляксандар Рыгоравіч station ацаніў ідэю. Любая шыльда «міжнародныя» цяпер каштоўная. Супэр — прадстаўнікі 11 краінаў — былых рэспублік СССР і... Туніс. Якая вы думаеце любімая гульня ў беларусаў? Дартс. Кіданьне драткоў у каляровую мішэнь. Аказваецца, нацыянальная фэдэрацыя дартсу існуе з 1988 году, а на МСГ людзі з рэгіёнаў сем'ямі з Воршы, Баранавічаў, Маладэчна прыехалі пакідацца драткамі. І адзначаючы, што робіць гэта зь вялікай асалодай...

Па сталіцы на мінулым тыдні яшчэ прабегся Бег Міру. Таксама міжнародны. Калі найбольш аптымістычныя бегуны запрашалі панурых мінакоў далучацца, апошнія адно зьдзекліва цікавіліся: «А прэзыдэнт дзе?» Прэзыдэнт даўно маральна разам: «Бяз спорту няма краіны, няма нацыі». Аказалася, што й масавыя спартовыя мерапрыемствы можна дыскрэдытаваць, калі іх арганізоўвае сіла, якая падзяліла грамадзтва.

Ледзьве не забылася пра Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Сабраліся яны сабе абвесьціць чарговага разу ППРБ злачынцам. Нагадаць яму пра 20-га ліпеня. І месца сустрэчы абралі арыгінальнае — менскі рэстаран «Новолуние». Напярэдадні ў мэтах канспірацыі паведамлялася, што ВС будзе вырашаць кадравыя пытаньні, а паседжаньне адбудзецца недзе ў Менскай вобласьці. Ды там іх прасьцей было б журналістам знайсьці, як тое «Новолуние». Паабураліся ў камэры і фотаапараты. Пашыпелі для дыктафонаў. І паабяцалі адстаяць сваю родную Бедарусь. Далібог, так і выдрукавалася. Бо што тычыцца БеДарусі — ім я веру.



Фота IREX-Pramedia

*Амонаўцы выкурылі дэпутатаў з рэстарацыі «Маладзік»: ня зьем, то пакусаю.*

# Адам Глёбус: НЯКЛЯЕЎ БУДЗЕ ВЫДАВАЦЬ «КРЫНІЦУ»

*Працяг са старонкі 1.*

На маю думку, чалавек такога складу здольны да суіцыдальных жэстаў. Ён захварэў. А як не захварэць, калі цябе прадалі, прычым прадалі не тыя людзі, што лічыліся ворагамі, а людзі, калегі, зь якімі ты прапрацаваў усе лепшыя гады. Яны не зразумелі, што часопіс «Крыніца», і тая старая, і новая — гэта вяршыня творчасьці Някляева, ягоная вялікая заслуга. Тыя, хто хацеў выгнаць Някляева з «Крыніцы», пралічыліся. Някляеў зробіць — у Польшчы, у Парыжы, дзе заўгодна, — новую, будучую «Крыніцу», нармальны літаратурна-мастацкі часопіс. Я ўпэўнены, што ён зробіць там часопіс. Гэта адзінае, што можа вывесьці яго і з дэпрэсіі, і зь няяснага палітычнага стану. Тым больш што за межамі Беларусі жыве дастаткова творчых асобаў, якія маглі б удзельнічаць у такім часопісе — Быкаў, Дубавец, Мінкін, Шупа, Максімюк, Лукашук, Сокалаў-Воюш, амэрыканская й ангельская эміграцыя. Някляеў — таленавіты арганізатар. Ён зможа зьяднаць усіх. У абноўленай менскай «Крыніцы» ж усе друкаваліся!

Ніводзін з тых людзей, што прэтэндавалі і прэтэндуюць на пасаду галоўнага рэдактара «Крыніцы», ня маюць маральнага права так рабіць ды й ніводзін зь іх проста ня здатны рабіць часопіс. Яны могуць ствараць добры верш, напісаць добры артыкул, зрабіць добры пераклад, але кіраваць працэсам ніводзін зь іх ня здатны.

Жэст Някляева — гэта жэст не палітыка, а чалавека і паэта.»

*Застаецца нагадаць, што пісаў Адам Глёбус пра У.Някляева ў сваіх «Суайчыньніках» год таму: «РЭДАКТАР Някляеў любіў папалохаць беларускіх патрыётаў наступным чынам: «Вы тут героі, а зойдзе чалавек з маленькім пісталетам, і геразм прападзе».*

## † ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ГАНЬКА

20 траўня 1999 году пахавалі мы Міколу Ганька, доўгагадовага старшыню Згуртаваньня Беларусаў Канады. Памёр Мікола ў веку безь сямі дзён 75-ці гадоў. Нарадзіўся ён 23 траўня 1924 году ў беларускай сялянскай сям'і на хутары Каляндзіно, што каля Маладэчна. Бацькі ягоныя — Аўхім і Марыя, заможныя собсьнікі хутару, узгадоўвалі сына на добрага гаспадара ў хрысьціянскім духу. Ён удзельнік тварэньня ў Таронта першае беларускае нацыянальнае арганізацыі — Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Ён удзельнік арганізацыі прыходу БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Ён у царкве псаломшчык, кіраўнік хору, у розных часох старшыня Царкоўнай Рады. Як сябра Рады БНР, ён старшыня Канадыйскага Сэктару Рады БНР, а ад 22-й Сэсіі Рады БНР у 1997 годзе — сябра Прэзыдыюму Рады БНР. Сяньня яго між нас бесьпаваротна ня стала. На канадыйскім могільніку «Сасновая гара» ля дамавіны вялі й плакалі ахінутыя белчырвона-белымі істужкамі кветкі. Жалобным «Сьпі пад курганам героя» разьвіталіся беларусы Канады зь Міколам. «І так памалу неўзаметкі й нашы зьвянуць жыцьця кветкі».

*Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады*

## † Сымон Шаўцоў

(1911, Беларусь — 8.05.1999, Аўстралія)

Пайшоў з жыцьця таленавіты журналіст і пісьменьнік Сымон Шаўцоў. Пахаваны на могілках прадмесьця Руты Гіл (Rooty Hill), Сыднэй, Аўстралія. Ён пражыў вельмі цяжкае жыцьцё, зьведаў зьверствы сталінскага і фашысцкага тэрору, але гэта яго не зламіла. Усюды, дзе б ён ні жыў, дзе ні працаваў, заставаўся беларусам высокага гарту, думаў пра Бацькаўшчыну, працаваў на яе карысьць і змагаўся за яе Незалежнасьць. Усюды карыстаўся заслужаным аўтарытэтам і пашанай. Заўсёды быў вялікім аптымістам, верыў у будучыню Беларусі, такім ён і застанецца ў нашых сэрцах.

*Сябры зь Менску*

Сяргей ПАЎЛОЎСКІ

# ПЯТРУШКА

Працяг са старонкі 1.

Беларускай дэмакратыі па вялікім рахунку пашанцавала толькі аднойчы — калі разваліўся саюз і краіна атрымала незалежнасьць. З тых часоў дэмакратыя стала закладніцай сваёй веры ў цуд. Цуд мусіў адбыцца ў 94-м, 95-м, 96-м... Але кожнага разу не адбываўся. Заставалася горкае расчараваньне і вера ў новы цуд. Ня меншая яна і сёньня, напярэдадні 20 ліпеня.

Адныя ўжо цяпер махаюць рукою, маўляў, нічога ня будзе. Другія эйфарычна прагназуюць самае неверагоднае, маўляў, існуе таемны план, паводле якога на наступны дзень пасьля сканчэньня прэзыдэнцкае пяцігодкі ў рэзыдэнцыю ўвойдзе генэрал Захаранка і надзене на ППРБ наручнікі. Шарэцкі абвесьціць новыя выбары, а натоўп з кветкамі будзе вітаць выхад на волю палітычных вязьняў.

Надзея на цуд невыкараняльная. Вера ў чарговае фантастычнае выратаваньне не пакінула як тых, хто чакае, так і тых, ад каго чакаюць. І нішто не пераконвае ў іншым — трэба працерці вочы і пабачыць нашмат больш складаную, але сапраўдную рэальнасьць.

Хто ж такі, гэты першы прэзыдэнт РБ? Яркая шматслоўная постаць з растапыранымі рукамі і полым нізам сядзіць на руцэ лялькавода з самага моманту свайго выбраньня. Фігура батлейшчыка схаваная за шырмай. Погляды гледачоў, нібы гіпнозам, прыкаваныя да лялькі, якая бясконца гаворыць усялякія недарэчнасьці, якія пасьля на розныя лады пераплявае афіцыйная і незалежная прэса.



## ЕЛЬЦЫН ЗА ШЫРМАЙ

Лукашэнка ад самага пачатку быў толькі прадстаўнічай фігурай і ня больш. Але й рэальныя паўнамоцтвы належалі не парлямэнту і ўраду. Рэальную ўладу трымаў і трымае той, хто схаваўся за шырмай. А адзіны, хто мог сабе такое дазволіць, — гэта Барыс Ельцын зь сям'ёю. Гэта ён у 96-м забаўляўся, што ягоную лялькy закідаюць гнілымі памідорамі і нават даслаў у Менск расейскіх амонаўцаў. Гэта ён выбіў сабе на рэфэрэндуме 96-га царскія правы ў Беларусі, дзеля чаго і Селязьнёва са Строевым прысылаў. А Лукашэнка так і застаўся — для тэлекарцінкі і — для апазыцыі. Многія купіліся на тую батлейку...

Сам па сабе Лукашэнка ў гэтай гульні значыць ня больш, чым можа сама па сабе значыць лялька на руцэ лялькавода. Таму было б няслушна прыпісваць яму бясконцыя інтэграцыйныя ініцыятывы. Не ягоная гэта гульня. Ён — добрасумленны статыст. Настолькі добрасумленны, што нават ня верыцца, што статыст. СМІ робяць з яго дыктатара, крывавага тырана і г.д. Сямён Шарэцкі нават тэрмін прыдумаў — лукашызм. А ён і рады б сказаць: рэбята, ды не тыран я. Але як тут скажаш, калі такое кіно. Сядзіш сабе, нічога такога ня робіш, а яны возьмуць ды з Гітлерам параўнаюць! Сьмех дый годзе.

Ён, як толькі сеў, дык і занепца ня ведаў чым. Чым павінен займацца прэзыдэнт? Чорт яго ведае. Чым дырэктар саўгасу Гарадзец займаецца, ён ведаў. Вось і правёў пару сялектарных нарадаў на пасяўной і на жніве, паспрабаваў заданьні на школьных іспытах чытаць, у хакей пагуляў. Што яшчэ? Усё астатняе па пратаколу. Сан Горыч, у вас аўдыенцыя з паслом, Сан Горыч, у вас паездка да Мілошавіча, Сан Горыч, падпішыце... Пры чым тут ён сам? Ну імпульсіўны ён чалавек, але не да такой жа ступені, каб на расейскі трон сядаць. Сядзе, вядома, калі пасадзяць, але толькі тады. З іншага боку, ня скажаш жа ім: рэбята, да я ж ніхто! Мне ж толькі сказалі — агучвай. Ну і братву сваю, карашоў прыкармі. А ў астатнім — толькі агучвай. Твае ініцыятывы вітаюцца адно на фронце змаганьня з апазыцыяй.

Вось ён пяць гадоў і агучвае. Замену ўсяго вышэйшага кадравага корпусу расейскімі таварышамі (часам нават самому дзіўна — можа і ня варта было б так груба — Беларусь усё ж такі), славянскае брацтва, беларуска-расейскі саюз...

## БЕЛАРУСКІ ШТЭКЕР ПАД РАСЕЙСКАЕ ГНЯЗДО

Тым часам краіна паступова страчвае адзнакі адметнай дзяржавы. У візуальным атачэньні чалавека ўсё менш беларускай мовы, ідзе выкараненьне ўсяго беларускага з сыстэмы адукацыі, пяць ці шэсьць «цэнтральных» тэлеканалаў... Ну чым ня Цьвершчына. Урэшце ўсё трэба давесьці да такога стану, каб ні ў кога і думкі ня ўзьнікла пра фармальнасьць далучэньня. Але працэс гэты не імгненны. Таму і не сьпяшаецца Ельцын дагаворы падпісваць. Таму і накінулі ППРБ яшчэ два гадкі. Спраўляецца, значыць, раз яго грызуць, а ня іх, не руку.

Ладна аб'ядналь, грошы памянаць і пашпарты на расейскія. Ладна з заводамі — уключаць у расейскія канцэрны, хай з заробкамі самі разьбіраюцца. Але як пэнсіянэрам і бюджэтнікам па расейскіх тарыфах плаціць — вось праблема. Гэта ж Масква плаціць будзе. Адкуль такія грошы — мільёны даляраў штомесяц? Вось Яўлінскі і бурчыць — хай Лукашэнка спачатку рэформы правядзе. А тут Зюганаў пярэчыць — ППРБ, не сьпяшайся, мы хутчэй у Расеі людзей да такога стану давядзем, як у вас. Час ідзе. Не ўкладаецца Ельцын у пяць Лукашэнкавых гадоў.

Але ж і іншага не шукаюць. ППРБ стаў найлепшым прыкрыцьцём таго, што расейскія інтарэсы ажыцьцяўляюцца сёньня ў Беларусі напрасткі — праз прэзыдэнцкія паўнамоцтвы. Характар жыцьця і інфармацыі паступова падганяецца пад расейскія стандарты — зьехалі Пазьняк і Някляеў; гэта з шэрагу Станкевіча і Сабчака, прадстаўнікоў інтэлігенцыі і таксама — духоўных аўтарытэтаў. Сядзяць Чыгір, Старавойтаў, Лявонаў, Клімаў, Кудзінаў — а колькі такіх асобаў, завязаных на грошах, сядзіць у Расеі! Беларускі «штэкер» падганяецца пад расейскае «гняздо». І гэта яшчэ ня ўсё.

Важная сфэра грамадзка-палітычнага жыцьця — партыі. Тут вам ужо поўны спэктар — і Яблоко беларускае, і ЛДПБ, і камуністы, само сабою, і нават РНЕ. А вось і Отечество лужкоўскае. Для чаго гэта робіцца? А каб пры агульнарасейскіх выбарах (ужо з намі агульных) у партыйныя сьпісы трапілі і нашы таварышы на местах. Зьвярніце ўвагу на склад гэтых партыяў і ўбачыце, што паўсюль пераважаюць рускія таварышы і гаспада. Асабліва праспорэ сёньня Отечество маскоўскага мэра. Каб у партыйным балансе ў Беларусі была адпаведнасьць з расейскім, Отечество накачваюць з усіх сілаў. На чале яго стаіць нехта Макееў, кажуць, грамадзянін Літвы. Ня ведаю пра ягоны пашпарт, а вось пра тое, што былы сакратар ЦК літоўскага камсамолу Валерый Макееў у ноч на 30 траўня 1995 г. быў затрыманы з кантрабандай цыгарэт на трэць млн. даляраў, якую гналі з Беларусі ў Літву — пра гэта ў свой час пісалі газэты, гучная была справа. Цяпер Отечество Макеева — у Беларусі.

Да ўсяго трэба было б дадаць колькасьць мігрантаў з Расеі ў Беларусь за часы Лукашэнкі. Ня толькі Сіваковы, Чумаковы, Латыпавы, Ерыны ды сотні іншых начальнікаў (з сем'ямі і раднёй), але і многія тысячы расейцаў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, і простыя людзі, сяляне з нішчымных расейскіх вёсак, «хімікі», уцекачы ад міліцыі... Думаю, калі ўвосені апублікуюць лічбы перапісу, многія ахнуць. Бо прывыклі лічыць, што карэнная нацыя мае ў нас над усімі рашучую перавагу.

Тым часам, увесь наш дэмакратычны працэс зводзіцца да змаганьня ня з гэтым патопам, не з расейскімі інтарэсамі, а з Пятрушкам, з забаўкай, якая так удала і так надоўга адцягнула ўвагу.

Калі ня думаць пра цуд, дык адзіны рэальны плян дэмакратыі — гэта травеньскія прэзыдэнцкія выбары. І галоўнае ў ім — аб'яднаньне апазыцыі. Больш ніхто нічога сур'ёзнага не прапанаваў. Альтэрнатыва — чаканьне цуду, захаваньне партыйных структураў — сама па сабе нічога ня вартая, бо дзеля чаго тыя структуры?

## «ЭПОХА» ЗАСЛАНІЛА ЖЫЦЬЦЁ

Гарантам нацыянальна-незалежніцкай арыентацыі ўсёй гэтай працы мусіў стаць і стаў БНФ. Праўда, тут заела Пазьняка. Прычым заела асабіста. Як гэта з Захадам будзе гаварыць ня ён, а Чыгір? Але большасьць Пазьняка не падтрымала. Каласальная стваральная праца заталася, але не прапала дарма. Індыкатарам для ўсіх патрыётаў стаў заклік да ўдзелу ў выбарах Рады БНР, які ня быў адкліканы. Рада абсалютнага даверу сказала сваё слова, бо таксама ня бачыла альтэрнатывы паўзучай анэксіі.

Пасьля выбараў аб'яднаная апазыцыя мусіла стварыць у краіне сытуацыю дваеўладзьдзя, гэта значыць, моцны Вярхоўны Савет, падтрыманы ўсёй апазыцыяй, на бок якога маглі б пераходзіць прыхільнікі незалежнай дзяржавы — чынавенства і сілавікі. Беларусы — не расколатыя і не дэзарыентаваныя, не дэмаралізаваныя вакажнечай, заўсёды мелі б маральную перавагу, стоячы на глебе нацыянальных інтарэсаў і лучнасьці. А гэта значыць, што памкненьні расейскіх спэцслужбаў «стварыць прарасейскую апазыцыю» адсочваліся б і спыняліся. Вось дзе рэальны шанец для маральнае палітыкі.

Сёньня мы маем справу з надзвычай каварнай і добра прадуманай палітыкай суседняй дзяржавы. Адзін недахоп гэтай палітыкі, што яна заўсёды пачынаецца «па навуцы» і разважліва, але напрыканцы ўжо коціцца, як ашалелы ком — па інэрцыі, усё больш непрадказальная. І тады непазьбежныя сацыяльныя канфлікты і нават лакальныя войны — чым і жыве сёньняшняя Расея на сваіх ускраінах.

ППРБ быў і яго ня будзе, але рэальныя зьмены ў нашай краіне як рабіліся безь ягонага жаданьня, так і будуць рабіцца. Рана ці позна марыянэтка пакіне свой пост — зноў жа, не самахоць. А мы застанемся каля новай праблемы. Калі, вядома, ня здолеем усім народам аб'ядацца і супрацьстаяць. Бо пры далучэньні да Расеі нікуды ня дзенеш тых дзясяткаў тысяч беларусаў, якія ні за што не пагодзяцца на страту самастойнасьці краіны. Гэта значыць, што пры такім раскладзе падзеяў нас чакае даўно прадбачаны пэўнымі аналітыкамі варыянт ірландызацыі.

«Эпоха Лукашенко» застанецца ў гісторыі недарэчнай паўзай, прабелам, батлейкай, што на цэлыя пяць гадоў засланіла жыцьцё.



*Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку*

*Ураду Рэспублікі Беларусь*

## ЗВАРОТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

20 ліпеня 1999 году скончыцца Ваш канстытуцыйны тэрмін паўнамоцтваў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Па гэтым часе Вы ня можаце ўважацца за дэмакратычна абранага галаву дзяржавы. Пра гэтае ж афіцыйна заявілі эўрапейскія структуры (Рада Эўропы, Паўночнаатлянтычная Асамблея) і Дзяржаўдэпартамэнт ЗША.

Ацэнку Вашай дзейнасьці на пасадзе прэзыдэнта краіны, як і дзейнасьці прызначанага Вамі ўраду, дасьць гісторыя.

Мы падкрэсьліваем, што ў Вас быў шанец пайсьці на сапраўдныя і дэмакратычныя выбары, прызначаныя Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь на 16 траўня 1999 году. Вы ж ня толькі згубілі гэты шанец, але і прадпрынялі ўсё, каб сарваць гэтыя выбары.

Вы ня можаце ня ведаць, што ўтрыманьне ўлады звыш прызначаных Канстытуцыяй тэрмінаў кваліфікуецца як дзяржаўнае злачынства. Больш за тое, такія дзеяньні могуць прывесьці да масавых акцыяў грамадзянскага непадпарадкаваньня ўладам, якія страцілі сваю легітымнасьць. І ўся адказнасьць за такое разьвіцьцё падзеяў ўскладзецца на Вас і на Ваш урад.

Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, два найвышэйшыя дзяржаўныя органы дзяржаўнай улады абіраюцца народам і ў роўнай ступені нясуць адказнасьць за яе выкананьне — Прэзыдэнт і Вярхоўны Савет. Калі Вы адмаўляецеся выконваць патрабаваньні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, то Вярхоўны Савет як найвышэйшы прадстаўнічы і заканадаўчы орган дзяржаўнай улады будзе выконваць свой канстытуцыйны абавязак.

Аданачасова, у сувязі з тым, што выканаўчая ўлада завяла краіну ў тупік, Вярхоўны Савет заяўляе аб неабходнасьці і гатоўнасьці распачаць неадкладна перамовы між Прэзыдэнтам і Вярхоўным Саветам аб парадку вырашэньня канстытуцыйнага крызысу.

Прынята на паседжаньні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь

*23 чэрвеня 1999 году*
*г.Менск*

# ТЭАТАР МАЛЫХ СЦЭНАЎ

У менскіх тэатрах прайшлі апошнія ў гэтым сэзоне прэм'еры. Беларускі тэатар, ці не апошняе «запатрабаванае шырокай публікай» мастацтва, у апошнія часы ўпарта ішоў дарогай крытыкі грамадзкай рэчаіснасьці. Наша амбітная марыянэтка стала галоўным пэрсанажам як лялечных, так і ня лялечных сцэнаў. Безь яе характарнага вобразу абышліся хіба што ў Беларускім балеце — мо таму, што за 5 год прэзыдэнцтва Лукашэнка толькі там і бываў. Не тэатрал ён, а кулачны баец. А было б што яму пабачыць. «Вольная сцэна» іграла «Ўзьлёт Артура Ўі...», пакуль яго не спынілі зьверху, дзецям у ЦЮГу насупраць прэзыдэнцкі паказвалі «Шчасьлівых жабракоў» пад самымі сёньняшнімі сьцягамі, брандмаёр-самі-знаеце-хто пужаў героя «Лысай сьпявачкі» на Малой сцэне Купалаўскага, нават у кандовым Рускім Луцэнка паставіў «Раскіданае гняздо», якое публіка прыняла на «Жыве Беларусь». Пры гэтым тэатры існуюць на дзяржаўныя грошы. І таму лёгка завальваюцца знакавыя праекты, якім магла б стаць, напрыклад, пастаноўка Пінігіным «Народнага альбому». І з-за посьняга казённага пансіёну едуць за мяжу лепшыя (і харашэйшыя).

Ясная рэч, зьяваў кшталту польскіх вандроўных тэатраў або вугорскіх тэатраў на кватэры 70–80-х гадоў у Беларусі няма. Нашы камэдыянты выкарыстоўваюць эзопаву тэатральную мову — балазе з-за мяккасьці рэжыму можна амаль не хавацца, — і рэдка досьвед тэатральнага супраціву Сярэдняй Эўропы.

Што цяпер хочуць паказаць нам тэатры? Актуаліі там ёсьць, але ці ёсьць клясычная веліч, годная клясычнай эпохі, якую мы перажываем? Ці ёсьць пастаноўкі, роўныя па сваёй вартасьці той клясычнай паэзіі або рок-музыцы, якія ствараюцца тут і цяпер? Там ёсьць сэнтымэнтальнасьць кшталту песьні Азнавура «Багема» пры канцы спэктаклю Малога тэатру «Арт», але ці ёсьць там пачуцьцё? Затаіўшы ў сэрцы тугу па ТЭАТРЫ, «нашаніўцы» выправіліся ў тэатры малых формаў і малых грошай.



## СПАРТЫЎНАЯ КЛЯСА КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРУ

Роза ДЫМАЎСКАЯ

*Самаадцэнзураваная рэцэнзія на прадстаўляны цягам месяца (прэм'ера 26-га траўня) спэктакль «СМАК ЯБЛЫКА» — лірычную камэдыю ў 2-х дзеях Анатоля Дзялендзіка (сцэнічны варыянт тэатру імя Янкі Купалы). Рэжысэр-пастаноўшчык Генадзь Давыдзька.*

### 1. ЗЬМЕСТ ВІДОВІШЧА.

У беларускім мястэчку жывуць Зойка ды Ма-а-аша. Першая строчыць абвесткі, каб пазнаёміцца з замежнікам. А раней у яе быў мужык — краснадарскі казачок, які прыраўнаваў ды й кінуў зь дзіцем. Прыгожую ладную беларускую пошла пафарбаваную бляндынку. Другая сьціпла гадуе траіх дзетак, муж яе Ўладзімер — алькаголік, былы міліцыянт, маёр, як пазьней высьветлілася, ліквідатар, аднак усё ж не афганец. Маша — не абы-што, а настаўніца, ведае ангельскую мову.

Раптам у мястэчка прыяжджае наступная сяброўка — Юлька. Яна даўно жыве ў Амэрыцы. Выкарыстала, як гаворыцца ў п'есе, свой шанец: працавала на «хуткай дапамозе», заехала ў гатэль, там падвярнуўся падхварэлы амэрыканскі дзядзя, Юлька скокнула яму ў ложак, Маша, седзячы сьпіной, перакладала сьвінствы, а дзядзька ня вытрымаў выпрабаваньня сэксу з самымі эратычнымі жанкамі сьвету і ажаніўся. Юлька наведала вёску, уся ў сынтэтычных уборах, упэўненая! Ды й абвестку з фатаздымкам сьціплай Машы надрукавала ў нейкім канадыйскім часопісе.

Зьяўляецца паджылы канадыец Майкл Гамон, паходжаньнем з усё гэтага ж беларускага мястэчка — Гамонаўкі, вар'яцее ад рахманасьці й глыбіні Машы, не зважае на адкрытыя заляцаньні Зойкі і пастанаўляе дабіцца Машы. Едзе ў лягер да яе хворых дзяцей і прэзэнтуе лягеру кампутар. Мясцовай мэблевай фабрыцы прапануе інвэстыцыі. Маша чакае разводу з алькаголікам Уладзімерам.

Высьвятляецца, што ў Майкла ёсьць сястра Эн. Эн фатаграфуе беларускія дзівосы і цікавіцца вясковым сэксам. Самым прывабным выступае моцны былы міліцыянт Уладзімер. Дурная канадыйка ўсё сьмяецца ды думае, як зацягнуць у гатэль беларускага волата Валодзю. Ад шчасьця дурэе пасьля сэксу зь ім, нават гатовая плаціць за гэта. Валодзя няўдала ўкладае грошы Эн і ад сораму становіцца чалавекам.

Маша ў дзень разводу згаджаецца ўвечары паплысьць з Майклам у суседнія кусты «па дровы». Пасьля пошук рыфмы да слова каханьне — і выходзіць толькі растаньне. Майкл хоча забраць Машу зь дзецьмі ў Канаду, але Маша ня можа, бо яны пасадзілі садок зь яблыкамі, воцат зь якіх лечыць усе хваробы. Валодзя дае дазвол на выезд Машы і дзяцей, аднак Майкл адчуў смак беларускага яблыка і пастанавіў застацца з каханай. Валодзя разам з Эн едзе мяняць жыцьцё. Зойка, атрымаўшы ліст ад гомасэксуаліста, пастанаўляе вярнуцца да свайго казачка Мішкі. А Юлька едзе да свайго амэрыканца.

На сцэне зьяўляюцца ўсе — нават краснадарскі казачок ды юльчын амэрыканец — «інвалід пятай групы», то бок габрэй. Усе ўсьміхаюцца. Сьпевы.

### 2. ЛІРЫКА.

Увасабляецца ў прасьпяваным у п'есе і надрукаваным у праграмцы вершыку пра пах яблыкаў і ў загадкавай для мяне фразе «Хіба не ад шчасьця адной жанчыны залежыць шчасьце ўсяго сьвету?» ???

### 3. КАМЭДЫЙНАСЬЦЬ.

Гледачы рагаталі, калі «наш» Валодзя ўсё ж спаіў напаўнашага Майкла самагонкай. Пасьля другой шклянкі Майкл зваліўся. Рагаталі, калі Валодзя зьдзекаваўся зь недалёкай распэцканай канадыйкі. Асабліва, калі тая страціла грошы. Рагаталі, калі Валодзя равеў на Майкла — ды валі ты ў сваю Канаду. У іншых момантах усьміхаліся.

### 4. АКТОРЫ.

Бліскучая Алена Сідарава (Эн). Я зразумела, чаму спэктакаль «Крывавая Мэры» так мне спадабаўся — там Зоя Белахвосьцік (тут — Маша) не павінна была шмат ўсьміхацца... Арнольд Памазан (Майкл) побач з «тэхналёгіямі» гаварыў пайсьці за... І — «спартыўнага целаскладу».

### 5. ПУБЛІКА.

Адна жонка так расхвалявалася, што пачала суперажываць Машы і асуджаць Зою ўслых. Прыйшлося нагадаць, што Нацыянальны тэатар — пакуль ня клюб.

### 6. МАРАЛЬ.

Каханьне існуе. Яблыкі можна жэрці толькі пасьля яблычнага спасу. Бо, калі яны круглы год у краме, як у Канадзе, — гэта супраць прыроды. Трэба нарадзіць траіх дзяцей і мець мужа-алькаголіка, каб напаткаць шчасьце. Не, яшчэ трэба быць лагоднай і няшмат хацець ад жыцьця. Беларускую зямлю пакідаць ня можна. Трэба самых сумленных перацягваць сюды, а шваль адпраўляць.

### 7. ШТО РАБІЦЬ?

Тэатру ўсё лета гастраляваць па беларускіх вёсках, а ўвосень, з улікам таго, што ў санта-барбараў крызыс, павітаць удзячную публіку «Смакам яблыка-2». Дзе расказаць, як Маша нарадзіла шчасьліваму Майклу Марыну, а Валодзя, маючы досьвед яблычнага садзіка, зарабіў, прадаючы пладова-ягаднае вінішча ў Канадзе.

## «СТОМЛЕНЫ Д'ЯБАЛ» НА «ВОЛЬНАЙ СЦЭНЕ»

Аляксандар КУДРЫЦКІ



Чарговы абранец д'ябла на беларускай сцэне Анатоль Кот.

Сьвятло згасла. Засталіся толькі бляклыя водблескі ў чорных люстэрках пад нагамі, якія цягнулі ўніз, у глыб апраметнай. Цёмныя сылюэты павольна рухаліся, адчайна шукаючы выйсьця. Сьпёка. Гэта было пекла.

Зрэшты, усё выглядала цалкам лягічна, не зважаючы на тое, што ніхто з прысутных на прэм'еры спэктаклю «Стомлены д'ябал» 8-га чэрвеня ў тэатры «Вольная сцэна» не зразумеў, што робіцца. Сьвятло згасла акурат пасьля таго, як Д'ябал у чорным барэцэ пацягнуў хлопца Яську ў пекла, бо той ня здолеў вытрымаць тры выпрабаваньні, якія б забясьпечылі яму месца ў раі (узгадваеце «Камэдыю» Каэтана Марашэўскага 1787 году?). Думкі пра ўдалы рэжысэрскі прыём здаваліся цалкам натуральнымі. І таму, калі праз адчыненыя ў бяздонначорную залю дзьверы пачуліся радкі вершаў, гучна дэклямаваных кімсьці нябачным, гледачы з фае пацягнуліся да ўваходу, асьвятляючы шлях запальнічкамі. Аднак хутка дэкляматар зьнік, а антракт зацягваўся.

Дарэчы, гледачы былі ўжо падрыхтаваныя да сюрпрызаў: большасьць зь іх мелі на руках квіткі на паказ, які меў адбыцца 6-га. Меў, а не адбыўся, бо не пасьпелі скончыць дэкарацыі.

Наўрад ці стане вядома, хто «заткнуў рот» спэктаклю — невядомы цэнзар ля рубільніка ці просты электрык, які нетрывала спаяў дрот. А можа той самы Д'ябал, які прымусіў маўчаць Яську з п'есы Ўладзімера Кавалёва?

Яська спакусу маўклівасьцю ня вытрымаў. Як і Дзёмка ў п'есе Марашэўскага. Але калі беларус XVIII ст. ня здолеў захаваць маўчаньне, бо трэ было прыйсьці на дапамогу іншым, дык беларус мяжы XXI ст. ратуе словам сябе самога. Яську вабіць рай, дзе так шмат заморскіх страваў ды напояў, і ў якім, галоўнае, ня трэба рабіць *нічога*. Бо там нікога больш няма. І таму Яська маўчыць, трывае. Нават сьвятар, які халерычна кліча Яську «на вялікі сход», ня можа прымусіць яго парушыць дамову з Д'яблам. І толькі двое склізкіх тыпаў у чорнай скуры з мэгафонамі выцягваюць зь Яські з дапамогаю важкага аргумэнту «а то заб'ем да сьмерці» прызнаньне ў тым, кім ён ёсьць: «Я Яська!». Той, хто спадзяецца, што за гэтым пасьледуе галасны воклiч накшталт «я беларус!», моцна памыляецца. Яська, зазіраючы ў вочы сьмерці, крычыць «Я нічога ня ведаю!» Нават Д'ябал, стары і стомлены, жадаючы ўратаваць душу беларуса, сумна ўздыхае ды, згубіўшы надзею, вядзе яго ў пекла.

Валеры Мазынскі, кіраўнік тэатру, запрасіў гледачоў прыйсьці праз дзень, усё-такі дагледзець «Д'ябла».

Яська забіў Д'ябла ў карчме. Натуральна, у пекла пасьля гэтага ён ня трапіў, але і рай згубіў. Застаўся там, дзе і пачыналася дзеяньне — у сваім доме. Мо гэта і ёсьць рай? А мо — пекла?

Калі зірнеш сьвежым позіркам на наш агульны беларускі дом, неяк не паварочваецца язык назваць яго раем. Але ці значыць гэта, што маюць рацыю тыя, хто лічыць жыцьцё навокал суцэльным пеклам? Разважаючы аб гэтым, я прыгадаў фразу Д'ябла: «Каб ты ведаў, як жахліва цяпер выглядае пекла...».

# CLICK HERE

Як робіцца шэдэўр? Бярэцца самы папулярны ў беларускай драматургіі сюжэт — як просты селянін пайшоў у заклад з д'яблам. Заварваецца пунш з даўніх п'есаў Марашэўскага, Купалы й Аляхновіча. Далей бяруцца тры яркія колеры — чырвоны, чорны й белы, на якіх будуецца ўся сцэнаграфія — чорна-белы мур, які, у залежнасьці ад асьвятленьня, можа быць раем ці пеклам, на тле якога шыкоўныя гарнітуры ад мастачкі Інгі Саліты глядзяцца ня горш, чым на подыюме. Пасьля прыгожая карцінка старога, як сьвет, сюжэту асучасьніваецца неўтаймоўнаю й дзёрзкай фантазіяй рэжысэра. Вось і выйшаў спэктакль Рыда Таліпава па п'есе Сяргея Кавалёва на «Вольнай сцэне».

Тры разы выпрабоўвае сумны д'ябал (Ігар Сігоў) хлопца Яську (Анатоль Кот). Спачатку раем, што нагадвае эўрарамантаваную хату з багатым гардэробам й выбарам замежных напояў. Другі раз — сядзеньнем на адным месцы, а пасьля маўчаньнем. І ўсе тры разы герою замінаюць выйграць заклад альбо жонка (Людміла Сідаркевіч), альбо незалежныя ад ягонай волі абставіны. Але ж якія! Часам вядомая гісторыя адыходзіць на другі плян, саступаючы месца фэтышу. Як сэксуальнаму, так і палітычнаму.

О-о! Садамазахісцкія сайты Інтэрнэту тускнеюць перад ланцугамі ды ўменьнем махаць пугаю жарснай Суседкі (Вольга Сізова). А чаго вартыя ўлёткі нашай апазыцыі ў параўнаньні з заклікам Незнаёмага (Уладзімер Іваноў) «ісьці на сход, выганяць з краіны праклятага Цмока». А калі хто бачыў танец вялікага, у чалавечы рост, чэлеса? І куды падавацца менскім путанам пасьля бліскучага эпізоду, сыгранага Тацянай Мархель менавіта ў гэтай іпастасі? Ды й менскія амонаўцы — хутчэй агнцы боскія перад зацягнутымі ў скуру Функцыянэрамі, якія катуюць беднага Яську, шукаючы забароненую літаратуру.

«Вольная сцэна» ў чарговы раз пацьвердзіла свае права на гэтую назву рэдкім разьняволеньнем. Але спаяны тандэм Ката й Сідаркевіч, сьмешны балет у пастаноўцы Міхася Камінскага, ды й сама дзея, здаецца, былі толькі тлом для эпатажу як такога. Ці, можа, я яшчэ маленькі для такога тэатру? Па праглядзе спэктакля я сустрэў знаёмага. Параіў сходзіць. Маўляў, такога ты яшчэ ня бачыў.

Знаёмаму пашанцавала болей. Ён пасьля доўга мне дзякаваў. Перад антрактам у тэатры адрубілася электрычнасьць.

**Няўдзячны слухач**

# ФУТБОЛ ПАД БЕЛ-ЧЫРВАН-БЕЛЫМІ СЬЦЯГАМІ

Павал СЕВЯРЫНЕЦ

У мінулы чацьвер у Лідзе пасьля матчу першай лігі тутэйшай каманды з маладэчанцамі міліцыя затрымала некалькі маладых заўзятараў, што размахвалі нацыянальнымі сьцягамі й крычалі «Жыве Беларусь!» У пастарунку апынуўся і адзін з кіраўнікоў лідзкага Маладога Фронту, рэдактар газэты «Лідэр», старшыня гарадзкога фан-клюбу Алесь Ганевіч.

Традыцыя лідчукоў, якія абавязкова вітаюць перамогу сваёй каманды ўрачыстымі вечаровымі маршамі па вуліцах у суправаджэньні аркестра музычнае вучэльні, на гэты раз перарасла ў масавае шэсьце пад бел-чырван-белымі сьцягамі. Ад стадыёну за аркестрам рушыла больш за тысячу балельшчыкаў. Ужо на падыходах да плошчы Леніна, калі сталі відавочнымі нэрвовыя перамяшчэньні органаў праваапарадку і народ пачаў разыходзіцца, дэманстрантаў засталося 50–60 чалавек. Калёна выйшла на праезную частку, і тут яе сустрэлі амонаўцы з дубінкамі.

Неўзабаве затрыманых маладафронтаўцаў адпусьцілі. Па словах лідчукоў, якія вельмі ганарацца бел-чырвона-белай формай сваёй любімай каманды, гэткія карныя акцыі толькі разахвочваюць моладзь.

Зрэшты, не адзіны Гаўрыла ў Полацку.



Фота IREX-Prometeda

*Беларускія футбалісты вельмі рэдка выйграюць, але фанатаў гэта не засмучае.*

Бел-чырван-белыя сьцягі ў сёлетнім футбольным сэзоне, у адрозьненьне ад леташняга, бывае, зьяўляюцца даволі масава. Прыкладам, на пачатку міжнароднае гульні «Беларусь – Швэйцарыя» 27 сакавіка стадыён «Дынама» расквецілі два дзясяткі нацыянальных палотнішчаў, сярод іх некалькі двухмэтровых і гіганцкі абрус 4 на 2 мэтры. Міліцыі, што спрабавала сканфіскаваць сьцягі, давялося выклікаць на дапамогу АМОН. З тузін балельшчыкаў (сярод якіх і аўтар гэтых радкоў) былі яшчэ да перапынку проста за рукі-ногі вышвырнутыя са стадыёну. А ў 12 сэктары, якраз насупраць прэзыдэнцкае ложы, на абарону сьцяга-гіганта паўсталі ўсе абураныя трыбуны, і пяць хвілінаў усё «Дынама» назірала сутычкі з удзелам дзясяткаў міліцыянтаў і заўзятараў.

Нядаўна ў Барысаве, на гульні мясцовага БАТЭ (дарэчы, лідэра чэмпіянату), тамтэйшая моладзь, згаварыўшыся, дружна ўзьняла адразу 15 бел-чырван-белых, і ахоўнікі парадку, у якіх разьбегліся вочы, так і не змаглі вырашыць, каго ж затрымліваць.

А на апошнім матчы адборачнага цыклю чэмпіяната Эўропы, калі беларусы выяжджалі на сустрэчу са зборнай Даніі, Малады Фронт і «Грамадзянскі Форум» дамовіліся з дацкімі маладымі кансэрватарамі, каб тыя пабалелі за нашых, машучы беларускімі нацыянальнымі сьцягамі. Падзея шырока асьвятлялася ў дацкай прэсе й нават мела статус міжнароднае акцыі салідарнасьці.

Дарэчы, ужо зусім хутка, 18 жніўня, – таварыская сустрэча зборных Беларусі й Расеі ў Менску. Ёсьць сэнс паказаць «таварышам» ня толькі якасную гульню, але яшчэ й сапраўдны беларускі сьцяг.

# «ЖЫЦЬЦЁ ЗЬ ВЯЛІКАЙ АПОШНЯЙ ЛІТАРЫ»

Марыя РОЎДА

*Атол Фугард "Тут жывуць людзі", спэктакль на Малой Сцэне Купалаўскага тэатру. Рэж. Уладзімер Шчэрбань.*

Калі ў мяне пытаюцца, як я стаўлюся да творчасьці Купалаўскага тэатру, я адразу ж узгадваю, як заля плакала на спэктаклях "Гаральд і Мод" і "Тутэйшыя". У першым выпадку — ад захапленьня асобай і гульнёй Стэфаніі Станюты, а таксама праз чысьціню й нетыповасьць лірычных адносінаў галоўных герояў. У другім выпадку, асабліва на прэм'ерных паказах, — ад такой нечаканай для некаторых і раней ня так ярка ўсьвядомленай любові да Радзімы, ад разуменьня прыналежнасьці да "тутэйшых", ад радасьці надзеі. Для мяне асабіста менавіта гэтыя два спэктаклі й сталі ўвасабленьнем творчасьці купалаўцаў.

Канечне, было шмат іншых рэчаў — кананічных, прадказальных, разумовых. Тэатру як такому неабходна было сьвежае паветра, і ім сталася дзейнасьць "Вольнай сцэны". "Вольная сцэна" была адкрыцьцём. Яна прапанавала сучасныя п'есы, маладых аўтараў, у тым ліку беларускіх, пераасэнсоўвала разам з гледачом шэкспіраўскую клясыку. Тэатар "вярнуў на радзіму" Малевіча й падарыў маладому пакаленьню Скарыну як "рэальную асобу сусьветнага маштабу". Акторы тут ня проста добра гралі, але й мелі страсьць граць так, каб маглі атрымаць асалоду і яны самі, і гледачы, г. зн. граць з душой. (І гэта пры тым, што асноўная маса гледачоў на "Вольнай сцэне" — прыгонныя падлеткі, якіх "прасьвяшчаюць" наконт праграмнай клясыкі й беларускай культуры).

Тэатар ізноў стаў падзеяй, якой ён быў, скажам, для аматараў Меерхольда, калі той стаўляў Маякоўскага.

І тутака ад «Вольнай сцэны» думка ідзе да адной з апошніх прэм'ераў малой сцэны Купалаўскага тэатру — спэктаклю па п'есе паўднёваафрыканскага драматурга Атола Фугарда "Тут жывуць людзі".

Перш чым перайсьці непасрэдна да разгляду гэтага спэктаклю, я мушу папярэдзіць чытача, што "Тут жывуць людзі" — рэч даволі небясьпечная. Асабіста я пасьля першага прагляду пастаноўкі знаходзілася ў такім пераўзбуджаным стане, што на наступны дзень трапіла ў лячомніцу (праўда, з атручаньнем). Мой сябра ўпершыню ў жыцьці мяне прыраўнаваў — да майго любімага актора Алега Гарбуза (што ёсьць, тое ёсьць — слова зь песьні ня выкінеш), што яшчэ раз падкрэсьлівае перамогу яднаньня мастацтва з жыцьцём. Рэжысэр спэктаклю Ўладзімер Шчэрбань пасьля аднаго з праглядаў ледзь ня плакаў — настолькі яго, які дасканала ведае тэатральную кухню, кранула ігра актораў.

Што ж такога асаблівага ў гэтым спэктаклі? Па вялікім рахунку, ён мог бы стацца занадта пэсымістычным, калі б ня быў такім камічным — як па зьмесьце, так і па выкананьні.

Тэма спэктаклю — гэта "экзыстэнцыйная туга" няўдачніка, чалавека, на якога забываецца задоўга да яго сьмерці. Усе героі п'есы — людзі выключна адзінокія. Праўда, некаторыя зь іх, за выняткам Дона, пэўны час жывуць ілюзіяй сваёй неабходнасьці бліжняму. Так Мілі аддае дзесяць гадоў жыцьця сужыцелю, каб у дзень свайго пяцідзесяцігодзьдзя апынуцца пакінутай дзеля "старога сябра зь Нямеччыны". — Бывайце, традыцыйныя сасіскі й куфаль піва па суботах! Сісі, жонка Шорці, знаходзіць свае шчасьце ў сяброўстве з (быццам бы) стрыечным братам, але расчароўваецца ў сваіх чаканьнях. Шорці ж, відаць, пачуваецца цалкам сацыяльна запатрабаваным, бо працуе паштаром і баксуе ў клюбе. Праўда, Шорці часта сьніцца, што ён ніяк ня можа даставіць нейкі важны пакет. І як тлумачыць Дон, гэты сон сьведчыць пра тое, што хлопец насамрэч нават ня мае ўяўленьня пра тое, што такое паўнавартаснае сямейнае жыцьцё. Што ж датычыцца самога Дона, то ён задавальняецца пошукам "псыхалягічных кузурак" і назіраньнем за імі.

Мэтафара жыцьця галоўных герояў — гэта бутэрброд у банцы з-пад ледзянцоў, які школьнікам даюць у якасьці лусты. Тамака заўсёды ляжыць альбо кілбаса, альбо сыр, бо ледзянцы зьеў нехта іншы. У будучыні герояў таксама чакаюць толькі пэнсія й сьляпы сабака замест сябра, бо нават зараз, у гэта самае імгненьне, пра герояў ніхто ня памятае.

Мілі намагаецца быць прыстойнай грамадзянкай, якая прыемна бавіць час. Галоўная гераіня хоча быць прынамсі заўважанай людзьмі, калі ўжо няма ўнутранай, натуральнай радасьці жыцьця. Але ж "весялосьці няма ў прынцыпе!" — пераконвае яе Дон. І ў іхным выпадку гэта сапраўды так, калі, канечне, ня ўлічваць блазнаватага Шорці (і гледача, які на прыкладзе дадзенага спэктаклю можа выяўна зразумець, што такое трагі*камэдыя).*

Але нягледзячы на тое, што нават кукалкі, якіх Шорці выкормлівае бацьвіньнем, пераўтвараюцца не ў матылёў, а ў моль, весялосьць прыходзіць да герояў п'есы. І адбываецца гэта пасьля таго, як яны ўжо высьветлілі паміж сабой адносіны й выказалі адзін аднаму ў твар, як яны адзін аднаго ненавідзяць. Менавіта тады, калі яны пакідаюць намер весяліцца, калі прымаюць сваю жыцьцёвую сытуацыю й гатовыя поўнасьцю аддацца смутку. Штучнасьць тутака саступае шчырасьці, а асуджанасьць — мудрасьці.

"Не шукай свайго "я" — выверне, калі ўбачыш", — такую параду дае Мілі Дону. І яшчэ: "Калі хочаш пабачыць сапраўдную псыхалягічную кузурку, уважлівей паглядзіся ў люстэрка". Таму хэпі-энд надыходзіць тады, калі героі зьвяртаюцца адзін да аднаго, але ня з мэтай філязофскага назіраньня, а дзеля таго каб знайсьці свае "я" праз іншую асобу й чалавечнае стаўленьне да яе.

Канечне ж, калі йдзе гаворка пра спэктакаль "Тут жывуць людзі", то трэба ўлічваць той факт, што ўжо сама п'еса ёсьць вельмі ўдалым выбарам. Але нельга й праменшваць надзвычайную таленавітасьць рэжысэра Ўладзімера Шчэрбаня і майстэрства выканаўцы галоўнай ролі Натальлі Качатковай, на якой засяроджаная ўвага залі большасьць часу на працягу спэктаклю. Уражваюць у гэтым спэктаклі таксама Алег Гарбуз і Аляксандар Аўчыньнікаў.

Нельга абысьці тутака ўвагай і сцэнаграфію спэктаклю, зробленую Алесяй Снапок. Мне асабіста прыемна было ўбачыць, што малая сцэна Купалаўскага тэатру перастала разумець выснову "сама заля вымагае мінімалізму" як тое, што яна вымагае абмежаванасьці.

Такім чынам, спэктакаль "Тут жывуць людзі" стаўся сур'ёзнай заяўкай на тое, што, дзякаваць маладым сілам у рэжысуры, сярод актораў і мастакоў, Купалаўскі тэатар ня ёсьць акадэмічным у сэнсе "закасьнелым", а мае жывую душу. А гэта важна. Бо як ноч ня ёсьць прычынай дня, так і прафэсіяналізм, нават высокапрызнаны, сам сабою не гарантуе тэатральнага посьпеху.

ГЕНРЫК ЖАВУСКІ

# ПАН АГІНСКІ

## *КАРЦІНЫ СТАРОЙ БЕЛАРУСІ*



У даўныя часы цярплівы дбайны шляхціц, які меў гаспадарку і статак, заўсёды ў кавалку хлеба мог быць пэўны. Ды й служба па магнацкіх дварах была ня ў крыўду; пан быў апекуном слугі, а калі па-бацькоўску й караў, то па-бацькоўску накіроўваў на жыцьцёвы шлях. Але ня кожны мог даступіцца да двору магнацкага без заслуг бацькі альбо крэўных сваіх ці якіхсьці дабрадзеяў, што ўзяліся б паручыцца. Што да мяне, то на ўсё была Воля Боская, бо прасіць за мяне не было каму. Бацька мой памёр, калі я яшчэ быў пры грудзях матчыных, а калі б і жывы быў ён, шляхціц з засьценку, памяркоўна свайго кавалка ральлі пільнаваўся б; дзе там засьцянкоўцу дастуціцца да магната! Маці мая другі раз выйшла замуж, айчым ня вельмі быў рады трымаць мяне ў доме, бо быў бедны ды й уласных дзетак дачакаўся; але Пан Бог сірат не пакідае. Калі мне сем гадкоў мінула, вуй мой, (ён быў возным у Наваградку, дзе меў двор з кавалкам зямлі), зьлітаваўся нада мной і, хоць былі свае двое дзяцей, забраў да сябе. А ўжо потым я, калі выбіраўся ў людзі, дзецям ягоным, хоць і часткова, але, прынамсі, сплаціў з таго, што быў вінен іхнаму бацьку, і маю невялікую дапамогу Пан Бог так паблаславіў, што ўнукі майго вуя кланяюцца людзям ад ветлівасьці і сардэчнасьці, а не з патрэбы. Вуй жыў з вазьнёўства і штодзень яму які тынф перападаў, а часам і залатоўка ў доме зьяўлялася. Вуенка студэнтаў на кватэру брала. Я ж, то боты дарэктарам чысьцячы, то ў касьцёле з брацтвам сьпяваючы, то гарод полючы, змала з працай звыкаўся, што мне потым вельмі прыдалося. Дарэктар у нас разам са студэнтамі кватараваў, сам жа ён быў студэнтам чацьвертае клясы. Ён так навучыў мяне чытаць і пісаць, што ксяндзы-езуіты прынялі мяне проста ў Infimu, не праходзячы Proformy. Вучыўся я спачатку па кніжцы пана дарэктара, але потым вуенка купіла мне Alwara, і ўжо са свайго я вучыўся паволі і старанна, бо штодня вуй мне казаў: «Севярынку, вучыся, не марнуй часу! Пакуль ты малы — я кармлю і апранаю цябе, але як вырасьцеш, усё гэта самому зарабляць трэ будзе, а не жабраваць». І я, бывала, так ляскаўся, каб дзедам прыкасьцельным ня стаць, што з плачам так вучыў і вучыў Alwara на памяць, што перад вакацыямі атрымаў па граматыцы перавод у наступную клясу. Пазьней наш дарэктар уступіў у закон, а я на ягоным месцы стаў дарэктарам і меў па трыццаць тынфаў у квартал. У хуткім часе апанчу я зьмяніў на грэдутуравы кунтушок і дымчаты жупан з пасам напаўядвабным, вуй аддаў мне бацькоўскі палаш, — так што ў нядзелю ці ў сьвята можна было з годнасьцю выйсьці на вылюдзьдзе. І вуявага хлеба я ўжо дарма ня еў, бо перапісваў яму справаздачы і заўчасна прывыкаў да права, і што з retoryki ў праўнікі не пайшоў, то на тое падзейнічала наступнае здарэньне, якое ў зусім іншы сьвет мяне занесла.

Езуіты ў Наваградку ўжо даўно стварылі Кангрэгацыю Марыі; быў і я кангрэгатам і да сяньня пацеры змаўляю з паляцыю. Пасьля сьмерці князя Радзівіла, ардыната Клецкага і Троцкага кашталяна, прэфэктам Кангрэгацыі стаў Ягамосьці Агінскі, ваявода Віцебскі; мяне ж ксёндз рэктар за тое, што я шмат працаваў і прыслугоўваў прафэсарам, прызначыў маршалкам Кангрэгацыі; маршалкаў нас было двох: адзін з канвікту, другі з пансіённых. У нашыя абавязкі ўваходзіла насіць жэзлы перад прэфэктам і стаяць пры ім пад час набажэнства. Калі Ягамосьці ваявода ў дзень Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны прыбыў у Наваградак, айцы езуіты зь вялікай урачыстасьцю аддалі яму прэфэктуру кангрэгацыі. Я, як маршалак, зьвярнуўся да яго з прывітаньнем на лаціне, якое сам склаў ды потым трохі падправіў ксёндз Нарвойш; я вывучыў яго на памяць, гаварыў сьмела і, як людзі казалі, з добрай дэклямацыяй, так, што адразу быў заўважаны Ягамосьці ваяводам. Ён распытаў пра мяне ксяндза рэктара, які, як аказалася, вельмі мяне хваліў. Пасьля набажэнства ён сказаў мне зайсьці да яго, даведаўся, што я ўмею, а каб праверыць, ці добрую маю руку, прасіў напісаць што-кольвечы. Я напісаў яму колькі вершаў Каханоўскага, а зьнізу з прычыны, што Ягамосьці ваяводы імя было Багуслаў, ад сябе дадаў на лаціне: Ingentem Boguslao detero cultum, a me minimo exselsus tibi honor. Яму гэта так спадабалася, што ён паслаў па майго вуя і сказаў яму, што хоча ўзяць мяне ў свой двор. Пасьля гэтых словаў і вуй, і я ўпалі яму ў ногі і зараз жа з дазволу майго пана пайшлі зьбіраць маё драбноцьце і разьвітацца з вуенкай. Не абышлося гэта бязь сьлёз, асабліва з майго боку, бо ажно два разы я расплакаўся: раз — расчуліўшыся, а другі раз — з болю. Вуек, бласлаўляючы мяне, падарыў чатыры залатоўкі і сказаў наступныя словы: «Севярынку, дбай пра тры ласкі. Па-першае, пра ласку боскую, удругарадзь, пра ласку панскую і, патрэцяе, пра ласку людзкую. Усе мае апякунскія правы я складаю на Ягамосьці ваяводу, пана твайго, а каб, служачы яму, ты не забываўся, што такое ўлада апякунская, то ў астатні раз яе і ўжыю». Ён загадаў мне легчы і трыццаць батагоў мне адлічыў, якіх я ніколі не забудуся, бо так шчыра яны былі дадзеныя. Добра заплаканы, вярнуўся я ў кляштар, дзе спыніўся Ягамосьці ваявода, і які, бачачы мае сьлёзы, уважыў іх за доказ чульлівасьці, хоць яны і не былі адзіна з таго.

Ваявода загадаў падарожнаму канюшаму, каб даў мне каня, на якім я мусіў суправаджаць ягоную карэту. Апроч двох ваяводзкіх разьежджых, якіх я часам, бывала, купаў у рэчцы, ніколі не здаралася мне сядзець на кані, асабліва прыстойна; але дзякуючы крыві польскай мне й за гэтым разам пашанцавала. Бо калі, выехаўшы ўжо з чвэрць мілі за места, Ягамосьці ваявода агледзеўся, што забыўся ў кляштары акуляры, то я завярнуў каня ў места, як укапанага спыніў яго на кляшторным дзядзінцу, адшукаў шкоду, затрымаўся каля ратушы, каб купіць абаранкаў, і, трымаючы ў руцэ акуляры, вярнуўся да пана; а ён мне за гэта падараваў таго самага каня, на якім я меў шчасьце зрабіць яму першую паслугу. Прыбыўшы ў Слонім, дзе Ягамосьці ваявода як стараста Слонімскі часта засядаў, ён загадаў паклікаць пана Шукевіча, маршалка ягонага двору, які тымчасова меў тытул лоўчага Ведэнскага (а памёр падстаростам Слонімскім), і аддаў мяне пад ягоны нагляд як свайго пакайнічага, а таксама паведаміў, што я буду працаваць у ягонай прыватнай канцылярыі. Пан лоўчы Шукевіч паходзіў са старога шляхецкага роду, пад Слонімам меў два спадчынныя фальваркі; ён, як муж разумны і сумленны, часта быў пасярэднікам пана ў ягоных публічных і іншых інтарэсах, а шматлікі двор ў вялікім паслушэнстве ўмеў трымаць. Мне была прызначана плата ў трыста тынфаў у год, аброк на аднаго каня, кватараваньне з двума іншымі пакайнічымі, сынамі абывательскімі, і месца ля столу маршалкавага. Паводле дваровага звычаю, прынятага на пакайнічага шляхціца маршалак прыбіраў у мундзір дому Агінскіх: у кунтуш з саеты пэрловай, зялёны атласны жупан, гэткі ж ядвабны пас з залатымі кваткамі і фрэндзлямі, зялёную шапку з рудой аўчынкай і чырвоныя боты. У гэтым строі трэба было заўсёды знаходзіцца ў пакоях, а надалей абнаўляць яго за свой кошт. Але на ўетупнай пачостцы з дваровымі і пакайнічымі собіла мне абліць свой мундзір чымсьці так, што з чатырох залатовак, якія даў мне вуй, я мусіў адразу выдаткаваць ажно тры.

Укаротцы я асвойтаўся ў магнацкім двары і хутка зразумеў сваю службу; спаміж прыдворных і пакайнічых быў я найбяднейшы, бо ўсе яны былі панскімі дзецьмі, той-сёй жа і сам панам і, угаджаючы кожнаму, быў я ўва ўсіх у ласцы, пачынаючы ад пана лоўчага Ведэнскага, які часта калегаў маіх выклікаў на кабэрца, ды на мяне ані разу нат голасу ня ўзвысіў. А гэта ўсё таму, што аднаго разу, калі я быў зь ім на кірмашы ў Сталовічах — мы куплялі сукно на лібэрыі прыдворным, — і адзін таварыш панцэрнага з харугві Ягамосьці князя Сапегі, ваяводы Троцкага, прычапіўся да яго і пачаў шукаць прычыны ў маёй прысутнасьці дзеля бойкі, я кінуўся на абарону майго зьверхніка. Пачаў быў ён яго ўгаворваць, ды той нахабнік у запале не задаволіўся тым і яшчэ больш напорыста лез яму ў вочы. Я, хоць таварыш панцэрнага званьня і большага, чымся пакайнічы, няхай сабе й бедны слуга, але ўважаў сябе за шляхціца і, адчуваючы моцную падтрымку, — агаліў шаблю. Нашу на твары памятку па тым, але й той дастаў добра па руцэ. Пан лоўчы не забываўся, як я ягоны гонар абараніў, і таму як найвыгодней заўсёды выстаўляў мяне перад панам. Адшукаў я гэтым павагу і ў маіх калегаў; бачачы мяне з патыліцы, як я налягаў на пяро, доўга думалі, што шаблю я маю толькі для аздобы, а сам сябе паставіў я так, што ні ў якія зьвягі пры двары не ўступаў ні з кім і почасту цярпліва зносіў іхныя папікі, але выпадак з панцэрным засьведчыў, што я ня з тых, хто кідаецца з матыкай на сонца, — пачалі паважаць мяне як чалавека спакойнага зь перакананьняў, а ня з боязі.

Гэтак, ня маючы незычліўцаў, працуючы пад апекай Ягамосьці ваяводы, змоладу маючы ў яго давер, мог бы і я выйсьці ў паны яснавяльможныя, каб не ягоная сьмерць на пачатку Барскай канфэрэнцыі. Штодня малюся за душу майго першага пана, бо ведаю, што ён думаў зрабіць для мяне; а перадусім яму павінны я за тое, што дзяржаўным мужам служыў. Памяць пра першую паслугу ім ніколі не перастане цешыць мне душы, і няхай гэтая мая рэляцыя зацікавіць калі-кольвечы ўнукаў маіх, распаліць у іхных сэрцах тую любоў да свайго, якою да сяньня палаць я ні на хвілю не перастаў.

Пасьля сьмерці Аўгуста III мой пан, як і ўсё сумленнае панства і мы, шляхта, уважаў за лепшае для сябе, каб каралём быў абраны каралевіч. Паўсюль цяпер пішуць, што Аўгустоўцы былі гультаяватыя, спаілі Польшчу, што нашае мовы ня ведалі і што ўсё-ткі нам лепей мець Пяста, чымся чужога... Зараз і я з гэтым згодны; але тады шляхта прывыкла да роду, які больш за шэсьцьдзесят гадоў над ёй панаваў. За каралямі Сасамі была свабода; было кепска, але было й добра, ды галоўнае, што за іх былі ўсе. Больш прыстойна было шляхце і панам блудзіць са сваімі, чымсьця ісьці слушна з чужымі. Дык вось, значыцца, стольнік літоўскі на трон уступаў; усё сумленнае панства, ня доўга радзячыся, змовілася на ўсім краі распачаць канфэдэрацыю. Зьяжджаліся, высылалі адзін да аднаго патаемных ганцоў, і ўсё йшло да выбуху. Але няпроста было распачаць гэта, бо край быў наводнены чужымі войскамі так, што нельга было прашчаміцца з аднаго ваяводзтва ў другое праз шматлікія заставы, якія праезджых затрымлівалі і шукалі лістоў. Патрэбна была асьцярожнасьць, а тут князь ваявода Віленскі Радзівіл і Ягамосьці Пан староста Зёлаўскі падганялі й падганялі майго пана, каб пачынаў як мага хутчэй, бо прызначылі яго першым міністрам і забавязваліся дапамагаць кіраваць. І слушна абралі, бо гэта была вялікая галава. Але ён усё марудзіў, каб дачакацца вестак з Украіны і ад крымскага хана, якія спадзяваўся атрымаць кожнае хвілі. А пан Богуш, які потым быў генэральным сакратаром Барскай канфэдэрацыі, усё заседжваўся ў майго пана, дзе міжсобку яны радзіліся, і хоць я быў за пісара — ледзьве праз дзясятае даўмеўся пра што, — гэткія былі асьцярожныя. Аж тут аднойчы зрана, а чацьвёртай на досьвітку ў перадпакой спальні пана, дзе я быў на варце, прыходзіць нейкі казак і просіць у мяне неадкладнай сустрэчы зь Ягамосьці ваяводам. — Скажы ж, браце, а што ў цябе за справа да яго?

— Ото везу ему гостынъца од пана моёго Потоцкого, подчашого Літоўского; він ему присылае дві фуры слывок. На сылу тут привіз, бо по дорозі всякі задэржуе, а пытаецца: маеш пісьмо? Ото ест лыст од моёго пана. То відбірают ліст, да старшыны нэсуць, а після віддают. Того было зэ двадсат раз, а шчо мэні слыв покралы! і половыны іх нэма.

— Ну то пачакай жа троху, хай пан прачнецца.

— Панычу! Пусьцітэ мэне до Ягомосьці, бо я нэ могу ждаты.

— Ты што, мой каханы, ашалеў ці што, каб я з-за нейкіх

сьліў будзіў пана? Пачакай гадзін пару, а калі хочаш, то выпі гарэлкі і пасьнедай, і не настойвай, каб я пану адпачынак перарываў.

— Спасібі за вашу мылосць, але ані пыты, ані істы нэ буду, покі нэ подывлюся на воеводу. Бытэся Бога, пусціть; мыні трэба зараз ехаты до Боцёк. Збудзітэ пана, бо прысяйбогу, жэ он на вас сэрдытысь будэ, колы ся дознае, шчо вы мэнэ зараз нэ пустылы; а колы я брэшу, то поцім бытэ мэнэ в смэрт, сам ся навіт положу.

Тады я адважыўся ўвайсьці ў спальню пана.

— Што за пільнасьць? — запытаўся ён.

— Нейкі казак прыбыў з Украіны да Вашамосьці і мае ліст ад Ягамосьці падчашага Літоўскага.

На што пан:

— Зараз жа вядзі яго сюды, — а сам усхапіўся, халат на плечы накінуў, але з гэткім посьпехам, што нават перажагнацца, устаючы з ложку, забыўся.

Я паклікаў казака, той, увайшоўшы, упаў у ногі ваяводзе і падаў яму ліст у шапцы.

— Севярыне, вазьмі ліст і чытай уголас.

Я чытаў, але там нічога такога не было, а толькі просьба, каб Ягамосьці ваявода вярнуў ягоную ўласнасьць старосства Бабруйскае ці грошы за яго; а ніжэй у постскрыптум былі гэткія словы: "Адпаведна з тваім жаданьнем пасылаю табе дзьве фуры сьліў-вэнгерак з Мурафы".

Ягамосьці ваявода загадаў мне:

— Ідзі па Богуша і варачайся назад, — а сам застаўся з казаком.

Пан Богуш быў ужо апрануты і пісаў нешта пры канторцы. Неадкладна мы вырушылі разам і засталі нашага пана, калі ён наліваў келіх гарэлкі казаку. Ягамосьці ваявода і пан Богуш адышліся ад вакна і пачалі пра штосьці міжсобку шаптаца, раз-пораз пазіраючы на мяне. Потым пан сказаў мне:

— Севярыне, пайдзі ў той кабінэт і прынясі вады, мыла, пэндзаль і брытву і падрыхтуйся галіць.

Я быў зьдзіўлены, але загад панскі хутка выканаў і, чакаючы, калі пан сядзе на крэсла, пачаў падпраўляць на дзязе брытву; было мне страшнавата, бо ні разу ў жыцьці я яшчэ нікога не галіў.

Але тут пан сказаў:

— Пакладзі брытву на стол і прысягніся на сьвятым Эвангельлі, што нікому ня скажаш пра тое, што зараз убачыш і пачуеш.

Я прысягнуў, пасьля чаго пан даў знак казаку, і той укленчыў пасярод пакою, дзьверы ў які тым часам пан Богуш пазамыкаў знутры, а Ягамосьці ваявода загадаў мне:

— Севярыне, пагалі галаву гэтаму казаку.

Зь яшчэ большым подзівам я пачаў галіць, аж як паказалася скура, я ўбачыў напісаныя сэрвасэрам літары. Ягамосьці ваявода і пан Богуш наблізіліся і прачыталі наступнае: "Справу нашую пачнем першага верасьня. Порта дасьць помач".

Неадкладна Ягамосьці ваявода паслаў пана лоўчага Ведэнскага зь нязначным лістом, але з грунтоўнай інструкцыяй у Нясьвіж. Пан Богуш раз за жыда, раз за цыгана, а то зноў у сваёй асобе аб'яжджаў шляхту; не прайшло і трох тыдняў, а рух пачаўся амаль па ўсяе Літве.

Ды што з таго? Порта помачы ня дала, а мы за ўсё мусілі самі й расплачвацца. Ды цуды мужнасьці не маглі супрацьстаяць сіле і абставінам. Часам, аднак, шанцавала і нам. У Сьвіслачы, дзе я першы раз трапіў пад кулі, мы напалі на полк пяхоты; ім даводзіў генэрал Н.; ён капітуляваў і заручыўся подпісам і гонарам, што ані ён сам, ані хто зь ягонае каманды да канца вайны ў Польшчы ваяваць ня будзе. Мы паверылі і дазволілі яму адысьці, а ён праз колькі дзён зноў біўся з намі. Быў я і пад Клецкам, дзе мы з радзівілаўскім аддзелам і зборнай шляхецкай дружынай восем гадзін трымаліся супроць цэлага корпусу; там абедзьве сястры князя Радзівіла з шаблямі нагола атакавалі на чале коньніцы, але непрыяцельская артылерыя была такой моцнай, што ўсё сталася намарна. У гэнай бітве пад Аляксандрам Адынцом, мечніковічам Ваўкавыскім, які пазьней загінуў пад Сталовічамі, забіла каня, а карцеччу адарвала тры пальцы на правай руцэ. Калі б Адынец не загінуў у маладосьці, то зь яго атрымаўся б вялікі военачальнік. За колькі дзён да таго пад Стоўпцамі ён напаў быў на цэлую брыгаду і ў пух разьбіў яе, захапіў абедзьве гарматы, якія закляпаў, бо ня мог забраць. Пан Тадэвуш Рэйтан, які камандаваў ім пад Стоўпцамі, там і навучыўся яго цаніць. Калі пад Клецкам ён убачыў, што ён ляжыць пад канём, то заклінаў усіх, каб далі яму каня і ўратавалі ад палону; а калі ніхто не асьмеліўся паахвяраваць сабою, пан Рэйтан пад лютым агнём падаў яму свайго каня, а сам, у рукі свайго лёсу аддаючыся, сказаў:

— Ён вам больш патрэбны, чымся я, бо ніхто вам не дапаможа, а мяне калі схопяць ці заб'юць — ня так важна.

Калі б па тры пальцы страцілі ўсе прадажныя рукі, заместа пачцівага Адынца, лёс быў бы справядлівейшы.

Потым зьнянацку як сыпанулі па нас карцеччу, што мы, страціўшы палову нашых, бязладна сталі адыходзіць. І то яшчэ шчасьце, што, апасаючыся менскага паўстаньня, перасталі нас даганяць, і мы атрымалі пару дзён адпачынку, а князь ваявода — час, каб нас сабраць і павесьці на Ўкраіну дзеля злучэньня з падчашым Літоўскім.

**Пераклаў з польскай Алег Дышлевіч**

**Генрык Жавускі (1791–1866) — буйны пісьменьнік XIX ст. Адама Міцкевіча, зь якім Жавускі спаткаўся ў Рыме, захапілі ягоныя аповеды пра часы Станіслава-Аўгуста. Ён і перакапаў свайго земляка ўзяцца за пяро, прадказваючы велізарны посьпех. Дзякуючы гэтаму і зьявіліся знакамітыя «Паментнікі Пана Сэвэрына Сапліцы, чэсьніка парнаўскега» (Рым, 1832; СПб, 1839) — шэраг выдатных паводле маляўнічасьці і задушэўнасьці тону карцін старашляхецкага побыту. У нумары 8 «НН» за гэты год мы друкавалі апаваданьне Г.Жавускага «Рэйтан».**

# ЛАСАСЬНЯНСКІЯ ТАТАРЫ-КАЗАКІ

Апанас ЦЫХУН,

*Заслужаны настаўнік Беларусі, Горадня*

***Цюркскае насельніцтва Беларусі напачатку складалася з трох элемэнтаў: аселых наёмнікаў, саюзных воінаў татарскіх ордаў з улусаў, што трапілі ў палон, і выхадцаў з Залатой Арды й Крыму, што, стаміўшыся ад нязгоды й смутаў у сваёй дзяржаве, самі добраахвотна перасяляліся ў ВКЛ.***

***Татараў пасялялі ў Вялікім Княстве Літоўскім, бо цанілі іх ваенны досьвед, баявыя якасьці, імкнуліся прыцягнуць стэпавых коньнікаў на службу. Яшчэ ў XIV ст. існавалі пасяленьні татараў, але найбольш татараў асела ў Беларусі ў эпоху княжаньня найслаўнейшага з усіх тагачасных валадароў Паўночнай Эўропы, князя Вітаўта. Беларускія татары захавалі добрую памяць пра яго. Вітаўта яны праслаўлялі ў сваіх песьнях, за яго здароўе маліліся, лічылі яго "наймацнейшым з усіх князёў". Большасьць з татараў, што прыйшлі за Вітаўтам, былі нежанатымі, і Вялікі князь дазваляў ім жаніцца з тутэйшымі дзяўчатамі, але з умовай, што кожны зь іх павінен мець адну жонку. Так і павёўся ў беларускіх татараў звычай аднашлюбнасьці.***

Татары дапамагалі абараняць дзяржаву. Татары-казакі разьмяшчаліся ў ваколіцах нашай краіны, мелі сваіх атаманаў і падпарадкоўваліся харунжым. Цюркскае слова "казак" азначала ў ардзе людзей, што, парваўшы сувязь са сваім родам і ўласным князем, займаліся ваеннай справай як вольныя найманьнікі. Яны знаходзіліся нібы за рамкамі фэадальна-уласнай структуры ардынскай супольнасьці. У іх атрадах былі ня толькі простыя воіны, але й выхадцы са знаці, княжычы. У Попісах войска татарскага 1528-1567 гадоў упамінаюцца такія атаманы, якія ўзначальвалі слаўныя сьцягі ласасьнянскіх татараў-казакоў.

Татары-казакі разьмяшчаліся ў ваколіцах цяперашняй вёскі Ласосна Баранавіцкага сельсавету Гарадзенскага павету, у басэйне ракі Ласасянкі й яе прытокаў з правага боку — Прорвы, Падліпкі, Каменкі, і зь левага боку — Круцішкі і Таркі (раней званай Нурцом) з Нуркай, або Папіляй. Даўжыня ракі Ласасянкі —45 км. Татарскіх пасяленьняў тут было шмат. Гэта былі пераважна селішчы хутарскога тыпу на адну-дзьве сям'і. Усе землі ўваходзілі ў Гарадзенскую каралеўскую эканомію. У тыя часы да пасяленьняў хутарскога тыпу адносіліся Кульбакаўшчына, Абярдоўшчына, Багдашчына, Качаноўшчына, Казакоўшчына, Жыдоўшчына, Ласосна Алінская і іншыя. Недалёка ад ракі Ласасянкі знаходзіліся і большыя татарскія вёскі: Дайлідкі, Караліно, Тарусічы (цяпер Баранавіцкага с/сав.) і вёска Гневеншчызна (цяпер Каробчыцкага с/сав.). Найбольш старымі татарскімі пасяленьнямі на тэрыторыі сёньняшняга Гарадзенскага раёну былі вёскі Чортак і Кадыш на рацэ Чорная Ганча й вёска Малое Дзіміткава ля Ласасянкі, а таксама Сьвяцк (Сапоцкінскага сельсавету).

У архіўных паперах значацца й прозьвішчы былых жыхароў паселішчаў: Ізмаіл Сяхновіч, Кульзіман Аразовіч, Кульзіман Касімовіч, Джанчук Фатлыговіч, Асан Бузіновіч, Урус Алан і іншыя. Значацца прозьвішчы князёў, якія займалі адказныя пасады, мулаў былога Ласасьнянскага мячэту, якія паходзілі з прадстаўнікоў княжаскага роду — Фатлагодзічаў і Бузуловічаў.

Ніжэйшыя за князёў пасады займалі "Уланы", у тым ліку Ахмет Улан Асанчуковіч, Чумбай Улан Малошыцкі й Дзімідаўскія.

У тыя часы ў татараў-казакоў адзіным вымярэньнем быў "конь", гэта значыць, надзел зямлі або маёнтак, зь якога ўладальнік, у адпаведнасьці з тагачаснымі нормамі, мусіў выстаўляць аднаго коньніка. Памеры ўчасткаў не былі дакладна вызначаны, асабліва ў ваколіцах ракі Ласасянкі. Першыя зямельныя дараваньні татараў-казакоў адносяцца да часоў Вітаўта. Зямля давалася адразу на цэлыя групы татараў.

Ласасьнянскія татары-казакі ў асноўным займаліся земляробствам, конегадоўляй, кушнерствам, агародніцтвам і гадоўляй рыбы, асабліва ласося і стронгі (якую даўней называлі "лох", адкуль назвы рэчак і населеных пунктаў — Лоша, Лаша і інш.). Для гадоўлі гэтых рыбаў дужа надавалася чыстая, крынічная вада Ласосны й прытокаў. Апроч гэтага асобныя з татараў-казакоў служылі ў тыя часы ў канцылярыях вялікіх князёў талмачамі, татарскімі пісарамі, езьдзілі з даручэньнямі ў Вялікую Арду і Крым.

Ужо ў сярэдзіне XVI ст. беларускія татары, у тым ліку і ласасьнянскія татары-казакі, ня ўмелі размаўляць па-татарску, сталі карыстацца іншымі мовамі, у асноўным беларускай. Яны ўжо не маглі кантактаваць з жыхарамі мусульманскіх краінаў. Адбыліся працэсы моўнай асыміляцыі татараў па прычыне, галоўным чынам, мяшаных шлюбаў: многія татары бралі беларусак. Але ўсё ж, нягледзячы на гэта, беларускія татары, у тым ліку і татары-казакі ласасьнянскія, яшчэ доўгі час зьберагалі свае спэцыфічныя рысы, не зьнікалі ў агульнай масе насельніцтва ВКЛ, бо па-ранейшаму вызнавалі іслам.

Апроч ваеннай службы, татары Ласосны выконвалі і іншыя функцыі. У кнізе Ю.Ядкоўскага "Гродна" (1928) пазначана, што татары ў 1508 годзе зьвярнуліся да караля з просьбай, каб ён іх вызваліў ад нясеньня вартаўнічай службы ў Горадні, да якой іх прымушаў староста Аляксандар Юр'евіч, князь Гальшанскі. Кароль задаволіў просьбу татараў.

Беларускія татары настолькі зжыліся зь мясцовым насельніцтвам, што часта нават выступалі супроць сваіх адзінаверцаў — крымскіх татараў. У актах Літоўскай Мэтрыкі знаходзім цікавы адказ беларускіх татараў, які быў дадзены імі адзінаверцам, што чынілі тады рабункі на граніцах: "Ні Аллаг, ні прарок, — пісалі яны, — не прадпісвае вам грабіць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас драпежнікамі і шаблямі нашымі паражаем рабаўнікоў, а не братоў нашых".

Паводле перапісу 1989 году ў Беларусі жыло 12,5 тысячаў татараў. Шматлікія беларускія прозьвішчы нагадваюць нам былых татараў: Шайбак, Ажгірэй, Салей, Бут-Гусаім, Чабановіч і іншыя. Неабходна сказаць, што і ў маёй вёсачцы Кунцаўшчызна Індурскага сельсавету Гарадзенскага раёну больш як палова жыхароў маюць прозьвішча Салей. Можна меркаваць, што і яны далёкія нашчадкі былых татараў, хаця ўсе пішуцца беларусамі.

XX ст. было цяжкім для гарадзенскіх татараў — рэпрэсіі, разбурэньне мячэтаў, асыміляцыя. Яго можна ў нечым параўнаць з XVII ст., калі рост неталерантнасьці, войны, неўрадлівасьць земляў вакол Ласосны, судовыя прэтэнзіі магнатаў і буйной шляхты на татарскія землі — усё разам выклікала масавы выезд татараў у Турцыю, а таксама ў іншыя месцы Вялікага Княства Літоўскага, у прыватнасьці, у Слонім. Пазьней, па падзелах Рэчы Паспалітай іншая частка тутэйшых татараў пераехала зь вёсак у Горадню на вуліцу Баніфратэрскую, пазьней перайменаваную ў Татарскую (цяпер вуліца Сьвярдлова). Так паступова зьніклі татары з раёну ракі Ласасянкі.

Я пацікавіўся ў самай старэйшай жыхаркі вёскі Ласосны, 80-гадовай Ганны Гарасімовіч, ці яна што ведае пра татараў, якія жылі тут, але яна ўжо нічога пра іх ня чула.

Вясной 1996 году мусульманская суполка Горадні запланавала распачаць у лесапарку Румлёва будаўніцтва мячэту. Узьнікае пытаньне, чаму гэта будзе рабіцца ў Румлёве, якое ня зьвязана з татарскай гісторыяй, а не ў Ласосьне, дзе да 1915 году і стаяў мячэт.



*Старая сядзіба пад Горадняй. Паводле гравюры 19 стагодзьдзя*

Працяг са старонкі 1.

*Аднак працяглыя балаты ўсё ж рана ці позна зьмяняюцца ўзгоркамі, на якіх пасьвяцца статкі пярэстых кароваў і сям-там пракідаюцца хаты.*

*Тутэйшыя вёскі маленькія — дзясятак ці два дамоў, і тое шмат зь іх — пакінутыя. Людзей мала. Аднак дастаткова, каб мы пераканаліся ў іхнай шчырасьці і дабрыні. І ў тым, што яны жывуць далёка ад менскіх палітычных закалотаў, якімі, як лічаць у сталіцы, жыве ўся Беларусь.*

*Відавочна за апошнія дзесяць гадоў тут нічога не зьмянілася. Хіба што сьляды русіфікацыі за ўсе часы сталі больш кантраставаць з адзнакамі ўласна беларускімі. Як, напрыклад, у назвах паселішчаў. Назвы, якія таяць у сабе загадку і не паддаюцца хуткай расшыфроўцы — як помнікі мовы, мэнтальнасьці, як напластаваньні культурных слаёў, зь якіх чэрпаем мы і будуць чэрпаць веды і пачуцьцё патрыятызму нашыя далёкія нашчадкі. Сама Обаль, Сьвіна, якая ў яе ўпадае, Казьяны і проста прыгожая Ставіца. А побач — Ламаносава, Мішуціна і брутальны Пралетарск, які, дарэчы, тутэйшыя людзі называюць Іванаўкай. Назвы, як правіла, адпавядаюць характару паселішчаў. І гэта асабліва тычыцца новазбудаванага з сілікатнае цэглы сяла Пралетарск, жыхары якога ціха сьпіваюцца, так і ня ўзвысіўшы сваё сяло да вобразу Гораду Сонца. Зрэшты, хто б ім дазволіў...*

*Знаёмства зь вёскай было б няпоўным без наведваньня мясцовых могілак. Калі ў паселішчы пяць хат і жывуць, як той казаў, два з паловай чалавекі, дык менавіта могілкі ўбіраюць у сябе функцыю і царквы, і архіву, і калектыўнага партрэту некалькіх пакаленьняў вяскоўцаў. Могілкі ў гэтых мясьцінах не такія як паўсюль. Па-першае, на іх адчуваецца клопат, яны выглядаюць нібы пасьля генэральнай прыборкі. Жывыя магілы, на якія яшчэ прыходзяць людзі, усе паднаўленыя, помнікі нядаўна пафарбаваныя, зоркі на стандартных савецкіх слупках заменены крыжамі. Але ўразіла ня гэта. Магілы не падпісаныя. Працэнтаў на 90. Прычым не тое, каб нехта сьцер ці адарваў таблічкі. Так было задумана ад пачатку. Стаяць доўгія шэрагі безыменных крыжоў, а паміж іх помнікі, часта са здымкамі, але таксама бяз прозьвішчаў. Высокія надмагільлі, іншы раз ці не ў паўмэтра, абнесеныя дошкамі і нагадваюць дзіцячыя пясочніцы. Вакол — па пэрымэтры — лаўкі. Надмагільле выконвае ролю стала, калі сям'я зьбіраецца сюды на Радуніцу або на Дзяды. Вось яны ядуць, выпіваюць пры дарагім нябожчыку. Навошта пісаць ягонае прозьвішча? Яны і так ведаюць свайго Івана ці бабулю Маньку. А каму тыя яшчэ патрэбныя, акрамя іх, сямейнікаў? Пакуль яны сюды прыходзяць, ёсьць памяць, перастануць хадзіць — і памяць вычарпаецца. Сэрца не падманеш. Паваліцца крыж, зарасьце магілка... Надпісы — для чужых, для сваіх — пачуцьці. А падпісалі б Івана, дык ужо б і сваякі прыходзілі да яго як да чужога. Ёсьць у гэтай лёгіцы шмат прыроднага розуму. Хоць гарадзкому чалавеку, каб прыняць такое, трэба абавязкова ў сабе нешта зламіць.*

*Аднак хопіць пра могілкі, пара пра жывых.*

*Жывыя людзі сваімі лёсамі таксама паўтараюць тапаніміку краю. Тут шмат расейцаў — тых, што пераехалі на заробкі або ратуюцца ад міліцыі і турмы. І шмат беларусаў, перамешчаных зь іншых раёнаў краіны. Карэнных, менавіта з гэтых вёсак жыхароў мала, бо ўся моладзь пакінула край.*

*Тут сапраўды найлепей думаецца пра будучыню краіны. Бо няма тых праблемных вузлоў, якія даводзілася б разблытваць у гарадах, а зьдзічэлы і пасьвяжэлы край выглядае як чыстая старонка паперы, на якой можна лёгка крэсьліць свае паветраныя замкі плянаў і мараў. Прыгожыя краявіды толькі падахвочваюць на самыя сьмелыя ідэі.*

*Па шляху нам сустрэліся каменныя падмуркі колішняй панскай сядзібы. Пра тое, што гэта была менавіта панская сядзіба, сьведчылі яшчэ й прысады вербаў, і прадуманая пляніроўка тэрыторыі ў злучыне ракі Абалянкі.*

*Стаўшы лягерам у гэтай бязьлюднай мясьціны, мы доўга разважалі пра лёс усходнебеларускіх паноў, сьляды якіх сьцерліся нашмат болей, чым сьляды заходнебеларускай шляхты. Драматычны лёс гаспадароў зямлі, так заманліва апісаных у Марцінкевічавай «Ідыліі». Што з гэтага ўсяго магло б быць, мы бачылі ў паездках па так званых цывілізаваных краінах Эўропы. Традыцыя, парадак і ўраджай. Гэтак міжволі хада нашых развагаў каторы раз прывяла да высновы пра рэстытуцыю — вяртаньне зямлі колішнім уласьнікам, альтэрнатывы чаму проста не існуе. Дзяржава мусіць прынамсі дэкляраваць, што ўся маёмасьць будзе вернутая колішнім гаспадарам. Толькі з гэтага і можа пачацца адраджэньне беларускай вёскі. Зразумела, што няпростае адраджэньне, але рэальнае і пэрспэктыўнае.*

*Мне згадаліся словы Фёдара Дастаеўскага пра тое, што менавіта зь землеўпарадкаваньня пачнецца парадак ва ўсім — і ў палітыцы, і ў эканоміцы, і ў культуры краіны. Які парадак на зямлі, пісаў ён, такі і ў сыстэме адукацыі.*

*А яшчэ думалася пра свабоду, якой так шмат у бязьлюднай Беларусі. Гэткае ні з чым не параўнанае пачуцьцё птушынае вольнасьці, якое перажываеш на прасторах роднае зямлі. І побач — яшчэ адным кантрастам — калгасны прыгон, калі трактарыст атрымлівае 6 мільёнаў рублёў і тое нерэгулярна. Прыгон, з-за якога людзі і пакінулі гэты прыгожы край.*

**Сяргей Паўлоўскі**

# БЯЗЬЛЮДНАЯ

## ГІСТОРЫЯ З ГЕАГРАФІЯЙ

Генадзь САГАНОВІЧ

Землі цяперашніх Гарадоцкага і Шумілінскага раёнаў уваходзілі калісь у Полацкае княства, а потым Гарадок быў у Віцебскай зямлі і паўсталым зь яе Віцебскім павеце, а тэрыторыя Шумілінскага засталася ў павеце Полацкім. У іх дэмаграфічным лёсе цесна перапляліся гісторыі з геаграфіяй.

Наколькі стае гістарычных сьведчаньняў, абшары гэтыя былі заўжды малалюднымі. І першую прычыну таму стварыла прырода: тут ці ня самы халодны раён Беларусі з кароткім вегетатыўным пэрыядам, а глебы неўрадлівыя. Прыродныя ўмовы не спрыялі разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, а значыць і росту насельніцтва. Падобна, хлеба тут ніколі не было ў раскошу. Гісторыкам добра вядомы ліст полацкага мітрапаліта да рыжанаў з просьбай прыслаць у Полацак жыта. У 1520-х на забесьпячэньне тутэйшых замкаў збожжа звозілі з іншых раёнаў Беларусі, у прыватнасьці з Панямоньня.

Памежнае становішча гэтай зямлі абярнулася тым, што гэткім жа адмоўным стаў для яе і фактар гістарычны – суседзтва з Маскоўскай дзяржавай, якая вякамі вяла войны. Блізкасьць мяжы стала сапраўдным няшчасьцем. Тут і

## КРАІНА ДУРНЯЎ

Зьміцер БАРТОСІК

«Няўжо табе ахвота лезьці ў гэты бруд?» — адна менская пані ніяк не магла зразумець маю радасьць напярэдадні вандроўкі на балоцістую рэчку Обаль. «Дурніца, — адказаў я, — у тым і справа, што ў балоце няма бруду. Вада ёсьць, чараты там усялякія з гадзюкамі. А бруду — нуль. Бруд ствараецца людзьмі, а не прыродаю. І чорнае ад глею дно самай балоцістай рэчкі значна чысьцейшае за тваю бэтонную плітку менскага праспэкту». Яна мяне, вядома ж, не зразумела. А пра галоўнае, што мяне каторы ўжо раз цягне ў беларускія нэтры, я даводзіць ня стаў.

Нідзе й ніколі так лёгка й радасна не разважаецца пра будучыню, як у нашых байдарачных вандроўках. І чым больш дзікім і неабжытым выглядае краявід навакол, тым больш радаснаю ўяўляецца тая будучыня. Сакрэт тут просты. Кідаючы сябе ў поўнае няведаньне таго, што адбываецца ў сьвеце, мы ўсё ж ведаем дату канца нашага маршруту. Жыцьцё напаўняецца іншымі падзеямі. Якія ўдалечыні ад чалавечага жытла набываюць незвычайную важкасьць. Як, напрыклад: нечаканая сустрэча з ласём, спуджаная нашымі вёсламі чародка забаўных качанятаў, ці пільны й цікаўны позірк савы зь цямрэчы дупла. Ад разуменьня банальнай ісьціны, што тут, у гэтых балатах, жыцьцёвы лад ніякім чынам не залежыць ад рэжымаў і ўладаў, сапраўды, як піша Адамовіч, «банальна хочацца жыць».

Абпальваць сьпіну пад сапраўдным сонцам, не шкадаваць уласнай скуры злым авадням, як паратунак сустракаць залеву з маланкамі, насалоджвацца купаньнем у каламутнай вадзе, не захінацца ад гаючай крапівы. А разьбіўшы лягер, стомлена ляжаць на зямлі, зачаравана пазіраючы, як іскры ад вогнішча перамешваюцца з зоркамі ў нашым небе.

Чужымі й недарэчнымі на працягу маршруту мне здаваліся менавіта стварэньні рук чалавечых. Жалезабэтонныя масты, разбураныя часам жывёлагадоўчыя фэрмы, іржавыя воданапорныя вежы, адзіным упрыгожаньнем якіх былі бусьлянкі. Але ніколі ня мог падумаць, што мне так будзе рэзаць слых расейская мова. Якую мне давялося пачуць падчас вечаровай выправы па сялянскую гарэлку ў вёску Обаль.

Вёска больш нагадвала п'яную ўскраіну якога-небудзь Кемерава.

Шырока раскіданыя ўздоўж гразкай, бязьлюднай вуліцы двухпавярховыя бэтонныя баракі. Самагонам мы, вядома, не разжыліся. Па падказцы сустрэчнага забулдыгі з пранонсам пецярбуржца, мы знайшлі дзьверы

## НАВАКОЛЬЛЕ З АБРЫСАМІ РОЗУМУ

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Вандруючы па Гарадоцкім раёне, мы бачылі ў самых гожых мясьцінах падмуркі закінутых сядзібаў, нежылыя хаціны, амаль зруйнаваныя плаціны на рэках. Аднойчы, шпацыруючы ў лугах на другім беразе ад вёскі з адметнай назвай Вясьніцкія, я натрапіў на дзіўную карціну... Адзін за адным зь зямлі падымаліся вялізарныя каменныя падмуркі, на якіх у золку палымнелі хвалі скрыпеню. Наваколле, якое спачатку ўдавала на неруш, набыло абрысы розуму: сталі яснымі лініі прысадаў, межы колішняга ворыва. Зьдзічэлыя няплодныя ігрушы ды сьлівы шапацелі пра род, што некалі тут пражываў...

Гарадоччына — найменш населены раён Беларусі і адзін з самых буйных па плошчы. Тут, на тэрыторыі больш як у 3 тысячы км. жыве толькі 36 тысячаў чалавек. Альбо блізу 12 чалавек на квадратны кілямэтар. Гэта адзін з самых нізкіх паказчыкаў у Эўропе. Для параўнаньня: у самай «прасторнай» Фінляндыі на квадратны кілямэтар прыпадае ўсё ж 15 чалавек. Альбо ўзяць, напрыклад, які Ганцавіцкі раён, там шчыльнасьць утрая большая.

Беларусь наогул — адна з найменш урбанізаваных дзяржаваў Эўропы. У нашых вёсках жыве амаль 30 % насельніцтва. Столькі ж вяскоўцаў, напрыклад, у Калюмбіі і ў самай аграрнай краіне Заходняе Эўропы — Партугаліі. Але тэндэнцыя да павелічэньня долі гарадзкога насельніцтва паўсюдная і няўхільная на ўсіх кантынентах. Таму сытуацыя на Гарадоччыне — мадэль нашае блізкае будучыні па ўсёй краіне.

Старыя, яшчэ савецкія, даведнікі падаюць, што ў гэтым раёне пад ворывам 23 % земляў. Сёньня гэтая лічба нашмат меншая. Палі задзірванелі і можна прадбачыць, што да ўзнаўленьня тут пасадак справа ня дойдзе. Ня хопіць рук. Жывёлагадоўля, якой жыве гэты край, не патрабавала ані вя-



# БЕЛАРУСЬ






шляхта не жадала браць зямлі — не толькі беднай, але і небясьпечнай.

Што да колькасьці жыхароў, дык да сярэдзіны XVI ст., мяркуючы па рэвізіях і рэестрах, гэтыя землі былі сярэднезаселенымі. Праўда, ёсьць факты, што ўжо ў 1520-х жыхары папросту ўцякалі ад вайны, нават з добра ўмацаванага Полацка. Але радыкальная дэмаграфічная зьмена зьвязаная з вайной Івана Жахлівага і шаснаццацігадовай акупацыяй паўночнай Беларусі. Край тады папросту вылюдне́ў. Жыхары, калі не загінулі і ня трапілі ў палон, самі разьбягаліся. Царскія ўпаўнаважаныя наракалі, што, вызначаючы мяжу занятых земляў, яны ня мелі ў каго спытацца пра назвы тых мясьцінаў.

І ў гады Смуты зноў ад Масквы асабліва даставалася Віцебшчыне. Невыпадкова ўжо на сярэдзіну XVII ст. поўнач Беларусі была адным з самых малалюдных раёнаў. Калі на захадзе нашага краю жыло тады па 15—19 чалавек на адным квадратным кілямэтры, дык тут, у Віцебскім павеце – адно крыху больш за 7 асобаў. А на канец Маскоўскай вайны ў Віцебскім павеце не засталося і па 3 чалавекі на квадратны кілямэтар. Фактычна, за гады ўладараньня маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча найбольшыя людзкія страты панесьлі тры памежныя паветы – менавіта Віцебскі і Полацкі, ды яшчэ Мсьціслаўскі, у якіх насельніцтва скарацілася на дзьве трацiны і ў два-тры разы было меншым, чым у цэнтры і на захадзе Беларусі.

Застаецца згадаць, што і ў Паўночнай вайне найперш цярпелі нашы паўночныя раёны, дзе стаяла вялізная армія Пятра І. Пазьнейшыя часы нічога істотна не мянялі, і на XX ст. гэтыя землі заставаліся своеасаблівай дэмаграфічнай ямай. Улады ж БССР не займаліся справамі народазасяленьня. Хутчэй наадварот, палітыка бальшавікоў і асабліва апошняя вайна спрычыніліся да яшчэ большага вылюдненьня паўночных раёнаў Беларусі.

тутэйшай бізнэсмэнкі, начной перапрадавачкі мясцовай амброзіі — напітку «Залацісты моцны».

Хвілінаў пяць цётка вывучала позьніх гасьцёў, нібы прыбышоў зь іншае плянэты, ніяк не даючы веры, што нехта можа заплысьці сюды ў якасьці турыста. У яе абдзёртым жытле мяне зацікавіў «дызайн» падлогі — на брунатных дошках былі намаляваныя рамонкі. Цётка нам давяла, што: «В деревне только пара человек из местных». «А астатнія?» «Остальные из страны дураков». Як высьветлілася, у ваколіцах атабарылася шмат расейцаў — перасяленцаў, уцекачоў ды былых зэкаў. Якія ў беларускіх джунглях знайшлі сабе месца пад сонцам і такі-сякі заробак.

У гэты момант мне рашуча закарцела апынуцца на менскім праспэкце. Дзе няма першароднасьці, але ёсьць ілюзія стварэньня чысьціні.

лікае адукацыі ані вялікае колькасьці работнікаў. Гэта і стала прычынаю ад'езду адсюль моладзі.

Але сам па сабе край, густа зарослы травою, існаваць ня зможа. Пляціны на рэках, як, напрыклад, на вялікім Ключагорскім вадасховішчы, неўзабаве зруйнуюцца ўшчэнт і могуць парушыць той рэжым, што склаўся тут за дзясяткі гадоў. Зьвяры, без нагляду лясьнічых, пакрысе выбіваюцца наежджымі браканьерамі з Расеі, пра што кажуць тутэйшыя людзі, са скрухаю згадваючы, колькі было дзічыны раней. Рыбаў, таксама з-за несупыннага браканьерства, становіцца штогод меней. Чысьціня ды неруш таксама патрабуць штодзённага клопату!

Ды й жывёлагадоўля пры цяперашнім ладзе становіцца нерэнтабэльнай: няма куды здаваць прадукцыю, з-за бездарожжа яна псуецца раней, чым яе куды давязуць. У жывёлагадоўчым куце Беларусі ня знойдзеш сыру!

Што тут будзе і што можа быць у наступным тысячагодзьдзі? Ці ёсьць сэнс канкураваць з Эўропай у бульбаводзтве ці жывёлагадоўлі? Замест таго, каб лавіць апошнюю рыбу, можа варта яе разводзіць? Замест таго, каб дабіваць апошнюю дзічыну, можа варта гадаваць на мяса аленяў, як, дарэчы, гэта ўжо робяць у іншых раёнах? Замест таго, каб гвалціць гліну, спрабуючы выціснуць зь яе кволы ўраджай, мо пара аднавіць былую славу выбітнай гарадоцкай кэрамікі, якая некалі шырака экспартавалася? Заняцца тым, чым ня могуць заняцца іншыя... Калі ёсьць лясы ды азёры — трэба запрашаць турыстаў, якія паядуць тутэйшую гадаваную рыбу, пап'юць лішняе малако, накупляюць гліняных ды льняных сувэніраў, пафатаграфуюць буслоў ды ласёў. Цывілізаваны турызм прынясе з сабою, бадай, самае істотнае — людзкія кантакты, з-за браку якіх адсюль некалі ўцякала моладзь. І грошы. Грошы, за якія будуць пракладзены добрыя дарогі, дагледжаныя лясы й рэкі. Будуць пабудаваныя дамы й гатэлі на тых самых падмурках, дзе сёньня вецер гойдае цыбукі скрыпеню. І дасканаласьць прыроды будзе прымножаная гаспадарскімі рукамі, мо і з тых самых радзінаў, што некалі ўраблялі гэты куток.



Бытавуха

# ГАРАЧЫНЯ

Славамір Адамовіч

Ужо болей за месяц нас даймае сьпёка. У правінцыі гнюс гоніць скаціну і лясных зьвяроў у ваду. У горадзе плавіцца асфальт, і няма чым дыхаць ад перагару задрыпаных аўто. Гараць лясы і тарфянікі, чаўрэюць прыватныя гародзікі і калгасныя палі. Кароткачасовыя градабойныя дажджы не прыносяць палёгкі – $H_2O$ тут жа і выпараецца.

Горача. Разьліўное піва ў Менску цяпер па сто тысяч, але й такога не хапае. Не хапае добрага марозіва і звычайнай, каб зь лядоўні, вады. Выбары 16 траўня настолькі нічога не зьмянілі, што сёлета ізноў у маім стаяку адключылі халодную ваду. Ужо паляцелі нейкія мошкі і тхне з прыбіральні.

Студэнт палітэхакадэміі, ашалелы ад піцьця, экзамэнаў, сьпякоты і ўласнай дураты, дзікім голасам раве ў бок плошчы Бангалор. Яму ня хочацца быць проста закінутым у жыцьцё, як пра тое даводзіў Гайдэгер. Яму хочацца ў сьвет, на людзі, і таму, сарваўшы голас, ён выстаўляе ў вакно калёнку на 200, можа быць, ват, і ўключае Высоцкага – а трэцяй гадзіне ночы.

У пасёлку Пралетарск, які пекліцца дзесьці паміж Езярышчам і Казянамі, таксама душна і смажыць. Маладая прадаўшчыца ў нядзелю краму не адчыняе, а набываць самагнёт – дык жыць хочацца. Могуць прапанаваць яшчэ нейкую танную чачу, якую называюць напіткам пладова-ягадным, але з гэтых сікаў таксама толку мала. І толькі напісанаму алейнымі фарбамі трохмэтроваму Леніну нядрэнна стаіцца ў старшынёвым пакоі разбуранай калгаснай канторы.

Побач значна меншыя фарматам халадаюцца на сакратарчыным стале члены савецкага палітбюро ў стандартным чорнабелым выкананьні.

У будынку праўленьня сканалага калгасу цэлымі засталіся бібліятэка і пошта, але і яны не працуюць. Так што ў гэтыя сьпякотныя дні пасёлак Пралетарск можа паслужыць файнай пляцоўкай для натурных здымкаў якога-небудзь футурыстычнага фільму пра апошнія дні прэзыдэнцтва Лукашэнкі.

Ня вытрымаў гарачыні і рэзка адваліў на адпачынак у Польшчу старшыня праўленьня Саюза беларускіх пісьменьнікаў Уладзімер Някляеў. Незразумела толькі, чаму нехта Падгайны настойліва раіць свайму даўняму таварышу Валодзю не дурніцца і хутчэй ехаць назад у Беларусь?

16 чэрвеня ў Саюзе пісьменьнікаў Рада галасавала за новых сяброў арганізацыі. Прынялі пяцёх. І ўжо 23-га адзін з навадалучаных, дзяціны бацька і аўтар жоўтай кніжачкі з рыфмаванымі тэкстамі, на вечарыне, прысьвечанай 75-гадоваму юбілею Васіля Быкава, спрабаваў перайма́ць п'яныя рыканьні Анатоля Сыса. На жаль ці на шчасьце, але пераймацца ўжо позна, ды і няма таго галоўнага, што прарастае з душы, «як жоўты дзьмухавец абапал тыну, як лапухі і лебяда».



Асабліва дастаецца сёлета ад сонца тым, хто падахвоціўся на заробкі ў Шклоў. *Сей малый град* беларускай зямлі рабочыя марафэцяць пад чарговыя «шклоўскія дажынкі». Праўда, пакуль «вэртыкаль» завіхаецца камандаваць марафэтам, «гарызанталь» калгасных палёў сыходзіць пад пякельным сонцам апошнімі сокамі, таму дажынаць прыйдзецца асабліва пільна. І вельмі важна не забыцца пра кантроль над шафярнёй: па маршруце «поле – *закрома Ціцянкова*» трэба выставіць пікенэраў, якія дзе-кольвек яшчэ ўзгадоўваюцца, і кадры Янчэўскага з чырвонымі кніжачкамі правяральшчыкаў. Няхай сабе дапільноўваюць, каб ніводнае зернейка ня ўпала з кузава долу, ніводны мяшэчак каб ня сьцёг брыгадзір і каб ніводная тона з гектару не заехала на прыватны элеватар якога-небудзь Старавойтава-Кудзінава.

Сьпёка, халера на яе. Цела назызае гарачынёй. Тры прастытуткі п'юць піва за чырвоным столікам. Адна з наколкай на костачцы, другая прэе ў чорных калготках, а трэцяя, без асаблівых прыкметаў, пільнуе плястыкавыя куфлі з вадкасьцю, пакуль дзьве першыя, – відаць, надта сіклівыя, – уцяць хоць раз адлучаюцца ў бясплатны клязэт, што каля крамы «Акіян», у якой днямі паставілі новы піўны апарат з двума жоўта-блішчастымі кранікамі.

25 чэрвеня 1999г., Менск

## Алекс

* * *

Сьвітанак блізка.
Зблытаныя сны
Зьляцелі долу
Пакамечанай прасьцінай.
Зьмяшаліся
Сэкунды ды хвіліны
З адбіткам месяца
На роўнядзі сьцяны.

Я безь цябе,
Нібыта безь сябе.
На вейках мрояў
Залатое павуціньне.
Маўчыць, ізноў маўчыць
Стары гадзіньнік,
Забыўшыся на час
У варажбе.

## Аліцыя

***

«I save my world...»

Я ратую свой сьвет ад цынічнай ілжы,
Ад нахабных людзей, брудных рук.
Пад нагамі сьмяецца засьнежаны брук.
Сябра, дапамажы...
Я ратую свой сьвет ад самоты, нуды
Кожны дзень васямнаццаты год,
Ад нападаў сьляпых, неразумных істот,
Сябра, дапамажы.
Я ратую свой сьвет. А навокал крыжы,
Стогн і енк, злыя твары, віно.
На аскепкі пабіта старое вакно.
Сябра, дапамажы!

## Андрэй Аляксандраў

КАЛІ Б Я НАЛЕЖАЎ ТАБЕ

калі б я належаў табе
як той замак зь пяску
што ты пабудавала
ў ружовым паветры
ты б магла лёгка
запхнуць мяне ў шуфляду
пакласьці пад шкло
апусьціўшы маё сэрца
ў халодны фармалін
і паказваць сваім сябрам
сяброўкам
былым і будучым каханкам
і ўсяму беламу сьвету
з самазадаволенай усьмешачкай
на сваіх салодкіх вуснах
але твае рукі
занадта слабыя
каб утрымаць мільёны сусьветаў
твая скура занадта далікатная
каб стрываць войстры зьдзек
маіх незьлічоных калючкаў
твой музычны слых
будзе абражаны
маімі вусьцішнымі енкамі
й вар'яцкім рогатам
твой арыстакратычны густ
будзе прагнуць суіцыду
каб выратавацца ад майго нігілізму
ты нават ня ведаеш
праз якое пекла
прайшла б ты
калі б я належаў табе.

## Мікола Адам

***

Піжама газавая ночы
прыкрыла грудзі цішыні,
маланкі нечытэльны почырк
згубіўся ў восеньскім даждах.

## Арцём Арашонак

ЛЕТНІ СОН

Стаміўся доўгім вандраваньнем,
Я прыхілюсь да старай ліпы.
Мне будзе сном вясёлых птушак граньне
І пах чаромхі ціхі, ціхі...



Фота Дзяніса Раманюка

***

...І праз шырокія разлогі,
Пад гоман чэрвеньскага лесу
Плывуць у снах мае дарогі
На водар яблыняў і бэзу.

## Алесь Бакач

БАРАНАВІЧЫ

У горадзе маім
Дамоў кардонкі шэрыя,
Калекі-дрэвы, мэрыя,
Чыгункі брэх над ім.
Курыцца пыл і дым
Над котлішчам містэрыі,
Што мы наяве сьнім.

Пустыя дзень і лёс.
Будзь хоць сьвятым, хоць грэшнікам,
Бамжом ці мэрам ты, –
Паказвае заўжды
Тут з плошчы ідал вернікам
Дарогу ў нікуды.

## Ярына Берасьцейская

***

А ранак успыхне сьвятлом,
І ціхі птушыны клёкат
Разбудзіць над сонным сялом
Мяжу нерухомых аблокаў.
Між небам і між зямлёй,
Як між чалавекам і Богам,
Халоднай, нястомнай тугой
Так многа і так нямнога
Я буду дзяцінства сьніць:
Таполяў пух срэбна-белы...
Я столькі павінна зрабіць
І столькі ўжо не пасьпела.

## Юрась Жалезка

***

Як веснавы праменьчык,
Прыйшла ты ў гэты сьвет,
Бог запаліў агеньчык
Тваёй душы навек.

Каб у чароўнай казцы
Ты шчасьцейка знайшла,
Каб па квяцістым полі
Ты да мяне прыйшла.

***

Пайшоў неяк у лясок,
Каб знайсьці там каласок
І пачуць сьпяваньне птушкі,
Чараўніцы-весялушкі.

Але выйшаў я зь ляску,
Не пачуўшы галаску.
Птушка час увесь маўчала,
Смачна зьеўшы каласок.

## Натальля Ермаліцкая

ЗНАЙДУ

Я вочы свае закрываю
І бачу – бягу па траве,
У кроў свае ногі зьбіваю,
Прашу: не шукайце мяне!
Знайду я такую краіну,
Дзе сэрца ніколі ня плача,
Дзе радасьць, як матылі,
Дзе сьмех у прасторы скача.
Там такая стаіць цішыня,
Не чуваць там крокаў агіды,
Ад якой набягае сьляза,
Нібы мы ўсе жывём дзеля крыўды.
Там зямлю засьцілаюць кветкі,
Сьпевы птушак бароняць душу,
І здаровыя бегаюць дзеткі...
Я знайду гэты край! Я знайду!

## Стась Карпаў

ПІВА

Мне часам хочацца кавы,
Каб утульна было і ціха,
Перад сном прашаптаць ласкава:
«Божа, ты забяры ліха...»
Ну а часам хочацца піва,
Гурт сяброў і зьлева і справа,
Каб над небам узьняць імкліва
Сьцяг бяскрыўдна-бела-крывавы.
Толькі ўвечары п'ю гарбату,
Дзе ў варыўні крэсла старое,
І іду пасьля на канапу,
Ды пад коўдру, каб з галавою.
Я люблю, калі сплянавана,
А, галоўнае, каб ня сумна,
Якасьць думак, і розных самых,
Але, каб не заўсёды разумных.
Я люблю патрэбныя сьвяты
І калі не заўсёды шчасьліва...
Аднаму лепей піць гарбату,
Ды зь сябрамі, вядома, піва!

## Марыля Лагодзіч

***

Гук набліжаецца, набліжаецца,
гук невыразны і выпадковы.
Некуды крочу і ператвараюся
ў белую птушку, воблака, слова.

Птушкай зраблюся – ляту над Сусьветам –
восень пакутуе сьлёзна.
Дзень дагарае апошнім куплетам

боль невыносны.

Воблакам стану – за ветрам ганюся,
сьлед яго не адшукаю.
Сонцу ўсьміхнуся і... растваруся
зь вечным словам «кахаю».

З вуснаў пяшчотным словам зьлятаю
толькі адно імгненьне.
Грэшная я і заўсёды сьвятая
побач з тваім адценьнем.

## Вера Ліпская

ДУМКІ (змрочны вэрлібр)

Думкі,
Шэрыя, як лістападаўскае неба,
Прыціскаюць душу да зямлі,
Не дазваляюць ёй вырвацца
З абрыдлае абалонкі
І паляцець у жаданы край.

Думкі,
Крыштальныя, як дыханьне сьнежня,
Студзяць зьнямоглае сэрца,
Кідаюць яго ў палон рэчаіснасьці,
Адбіраючы апошняе цяпло.

Думкі,
Няпэўныя, як сакавіцкае надвор'е,
Абыякава шпурляюць у бездань адчаю
Шматкі абяскрыленых надзей,
Пазбаўляючы іх права на вяртаньне.

Думкі,
Бязьлітасныя, як сонца ў жнівеньскі поўдзень,
Выпальваюць дашчэнту сьвет маіх мараў,
Пакідаючы ў ім толькі попел,
Зь якога ўжо ніколі не адродзіцца каханьне...

## Алег Нікулін

***

Заўтра я пайду
за мора.
Можа там знайду
ня гора,
а сваю любоў
зямную.
каб сказаць ёй зноў:
раўную.

Але ж раўнаваць –
ня значыць
ёй не дараваць
і бачыць,
як мужчыны ўсе
даруюць,
абдымаюць і
цалуюць.

***

Падумаць можна і пра славу,
калі ня сорамна сядзець
сур'ёзным пнём на п'едэстале
і ў далеч з зайздрасьцю глядзець.

## Вадзянік Няміскі

***

Як у люстэрка – на Балканы
Гляджу – і сорамна глядзець.
Як хлусяць нам тэлеэкраны,
А мы гурмою, як бараны,
Ужо гатовы ў партызаны,
Каб быў «агрэсар» пакараны,
Ужо й аркестры граюць медзь!

У галаве адно шматкроп'е,
Кляну наш лёс і ўладу ў маць.
Тзарэтычна – мы ў Эўропе,
Фактычна – трэба зрыфмаваць!

Так і заснуў, як у палоне.
І сьніцца... Хлопцы! Ё-маё!
У Івацэвіцкім раёне
Ў нас ёсьць Косава! Сваё!

Там будзе з краю наша хата.
Абвесьцім ціха БНР.
Хай галава баліць у NATO,
А мы пасядзем у партэр.

Хай там зімоўскія сарокі,
Як зь перапуду, верашчаць.
Дайшло – ня вывучым урокі –
За вушы будуць моцна драць!

А для няўцямных ёсьць і розгі –
Няма надзеі прагуляць.
Як у народзе кажуць: мозгі
Праз ср...у прыйдзецца ўстаўляць!

Прачнуўся. Думаю: ну зараз.
Усе зьяднаюцца па-перш...
Але – пісьменьнік піша нарыс,
Паэт – «славянскі» гнеўны верш!

Пра панславянства камуністы
Вярзуць «братэрскую» лухту.
Зноў правакуюць атэісты
Душы славянскай шырату.

Ад праваслаўнага алею
Запахла порахам у нас.
Я сапраўды не разумею,
Чаму мы зноў марнуем час?

Схавалі вочы, быццам дзеці
(Да дошкі будуць выклікаць).
Ня ведаем, ці месьці сьмецьце,
Ці можа, праўда, пачакаць?

Балканскі злодзей пакараны,
Ды падабенства ёсьць у нас:
Шлях, беларусамі абраны,
Таксама ўсё ж не ананас!

Пакуль што «Стэлсы» не над намі,
Таму нам разумець пара.
Я спадзяюся: зможам самі
Пазбыцца сьмецьця са двара!

Тут справа нават не ў тыранах.
Мо хопіць клёпак, балазе,
Пакуль «суботнік» на Балканах,
Ня трэба нудзіцца ў чарзе!

## Юрась Півуноў

***

Зь лябірынту вулак гарадзкіх
На волю рвецца непрыкаянае Слова
Маёй душы, майго жыцьця.
Такія простыя й няпростыя высновы.

І рыфме цесна ў мройлівых дамах,
І белы верш іврецца прэч на волю,
І невялічкі празаічны абразок,
Як птушка-фэнікс, нараджаецца ў прасторы.

## Сьвятлана Пчолкіна

***

Завітай да мяне ў госьці!
Прыгатую табе гарбаты,
І душу тваю адагрэю,
Пастараюся даць параду.
Падтрымаю ў цяжкую хвіліну,
Пацалую ў любыя вусны.
Ты прыходзь да мяне, мой мілы,
Безь цябе так на сэрцы пуста.

## Алёна Шарэпа-Лапіцкая

УСПАМІНЫ ПРА КРЫМ

Як прыпомню горы Ай-Петры –
Ўраз драбнее любое гора!
Чайка крыламі рве паветра,
Чайка падае строма ў мора.

Ў сіняй высі – ніводнае рыскі,
Да ўзьбярэжжа зьбягаюць тропы –
Там, у засені кіпарысаў,
Сум нямее і нікне клопат.

Там – натхненьня майго крыніца.
І прызнаюся – не паверыце:
Крыму можна зьдзівіцца
Й памерці!

## ЛІТАРАТУРНЫ СЭМІНАР «ВАРШТАТЫ»

**Яну Дануту.** Радкі «карфаген цішынёю руінаў...», «вока рублёва і вершы айгі...» — матэрыял для работы. Пригожа — правільна расстаўленыя знакі прыпынку і ўласныя імёны, напісаныя зь вялікай літары.

**У.Гарачку.** Чым больш значная тэма, тым больш трывіяльнага. Лепей напішыце, як жывуць і працуюць сёньня беларускія рабочыя, інжынэрна-тэхнічныя кадры альбо «зьвеньнявыя» мясцовай «вэртыкалі».

**У.Рэвуту.** *Патыхаць* можа здрада, а шчырасьць адчуваецца неяк інакш. Будзьце асьцярожныя з эфірамі.

**Аўтару зь в.Чудзевічы.** Гневаецеся, што не друкуем Вашых тэкстаў. А ўявіце сабе, як разгняваліся мы, атрымаўшы адзін Ваш твор, напісаны на адвароце нам, старшыні партыі ВНФ С.Папкова да кіраўнікоў рэгіянальных радаў партыі БНФ, а другі на... бюлетэні па надоях малака работнікамі малочна-таварнай фэрмы!..

**Славамір Адамовіч**

# І ДУШЫ, І РОЗУМУ, І СЭРЦУ




*Марыя Скуратовіч «Табе, Хрысьце!». 1997, Limas*

Гэтае выданьне – зусім не камэрцыйны праект, а духовы. І акурат сярод людзей, для якіх клопат пра душу – не пустыя словы, яно карыстаецца заслужанай папулярнасьцю. А набыць гэтую касэту можна ў хрысьціянскіх храмах Беларусі.

Прызнацца, неаднойчы даводзілася мне чуць рэлігійныя сьпевы, дзе добрыя памкненьні душы суседнічаюць з наіўнасьцю, а часам і проста бяздарнасьцю музыкаў (аб прафэсіяналізме тут гаварыць не выпадае). І вось упершыню напаткаў твор, дзе добрыя памкненьні спалучаюцца з боскім дарам: тут і высокая паэзія, і чароўныя мэлёдыі, і безумоўны вакальны талент сьпявачкі.

Дзевятнаццаць узораў хрысьціянскіх сьпеваў, якія ўвайшлі ў праграму гэтае касэты, маюць рознае паходжаньне: тут і клясычныя праваслаўныя ды каталіцкія каноны, і рэлігійныя творы беларускіх бардаў (Галіны Смоляк, самой Марыі Скуратовіч), і беларускія пераклады твораў замежных аўтараў (Том і Робін Бруксы, Яцэк Сыкульскі, Л. Матвееў, Лінда Стасэн). Прычым пераклады зробленыя зноўку ж і самой Марыяй Скуратовіч, і самадзейнымі літаратарамі (І. Іваноў, М. Варонька ды іншыя), і нават ксяндзом Уладыславам Чарняўскім. Мова першакрыніцаў – лаціна, польская, расейская, літоўская, латыская, ангельская.

Трэба сказаць, што некалькі твораў гучыць на мове арыгінала – «Tu sei Re», «Chante Alleluia», «Deo gratias!», «Niech oblicze Twe», «Если Бог с нами», «Sh'ma Israel», «Dievs doma par mums», але пранікнёная манера сьпеву Марыі Скуратовіч робіць іх зразумелымі й блізкімі і для беларускага слухача.

З чым жа параўнаць гэтую манеру? Для масавага чытача дарэчным будзе параўнаньне з вядомымі зоркамі шоў-бізнэсу. Тут падышлі б такія асобы як Джоан Базз, Жана Бічэўская, але сьпявае Марыя Скуратовіч не пра «ізьменшчыкаў каварных» ці «валацугаў бадзяжных», а зусім пра іншае: «Хай міласьць будзе», «Духа Сьвятога спашлі», «Укрыжаваньне», «Хрыстос уваскрос».

Пяшчотныя гукі гітары і мяккі вакал ствараюць сапраўды чароўны настрой, залагоджваюць душу, дадаюць слухачу ўпэўненасьці і грунту пад нагамі на жыцьцёвай дарозе. Магчыма, камусьці падасца змрочнай мастацкая аздоба выданьня – магільны крыж у горнай цясьніне, але гэта толькі дадатковае сьведчаньне спакою, які ўрэшце чакае кожнага з нас. Якасьць гуказапісу выдатная. Ён быў зроблены лічбавым спосабам і тыражаваны з выкарыстаньнем найноўшай сыстэмы «Dolby HX Pro».

**Вітаўт Мартыненка**

# МЫ – ЦЭНТАР ЭЎРОПЫ




*Ліцьвіны. Ой, лузе-лузе... 998, Limas, MC i CD.*

Гэты альбом славутага гурта, які працуе ў жанры фальклёру, у красавіку-траўні красаваўся ў дзясятцы лепшых беларускіх музычных выданьняў апошняга часу. Між іншым, гэта ня першая вандроўка нашага фальклёру па гітлесьвіцах: тыя ж «Ліцьвіны» на пачатку 90-х высунулі ў гіт-парад радыё «Свабода» песьні «Туман ярам» і «Восень мая доўгая», а пазьней першая з названых стала гітом і ў выкананьні гурта «Крыві».

Але вернемся да «Ліцьвінаў», бо гэта ўсё ж ня поп-рок-апрацоўкі, а фальклёр у чыстым выглядзе, аўтэнтык. Новы альбом гэтага калектыву адкрывае зусім новыя грані нашай музычнай традыцыі. Любому зацікаўленаму рок-музыкай прафэсійна незвычайныя адкрыцьці прыносіць загалоўная песьня альбома – «Ой, у лузе-лузе…». Пасьля праслухоўваньня яе душа разгарнулася, а ў мазгах заварушылася музыкалёгія. Недатычныя да «Ліцьвінаў» думкі – аб памылковасьці тэрміну «фольк-рок» (гэта трэба называць ня модныя аранжаваньні архіўных скарбаў, а жывую народную творчасьць сучаснага рок-пакаленьня), а вось для творчасьці як у «Ліцьвінаў» – трэба ўводзіць новы тэрмін – арт-фольк. Што ж я вылучаю, як рысы арт-фольку? Па-першае, маштабнасьць выяўленчых сродкаў, багацьце мэлядычных ліній, іх віртуознае перакрыжаваньне. Па-другое, ёмістая структура драматургічнай канструкцыі, якая проста зацягвае ў вір падсьвядомых псыхадэлічных уражаньняў.

Мае калегі-радыёжурналісты акурат да песьні «Ой, у лузе-лузе…» ставяцца зь недаверам. «Гэта ж трэба, больш за восем хвілінаў. Нават жвавенькая папса за такі час занудзіла б слухача». Згодзен, папса занудзіла б. А вось арт-року гэтага было б нават мала. Ды й арт-фольк не зануджвае.

Калі гэтая песьня падароная калектыву Сяржуком Вітушкам, вядомым зьбіральнікам і захавальнікам нацыянальных скрабаў, дык іншыя мэлёдыі і тэксты («Як каравай нясуць», «Вальс Балкоўскага», «Шабасоўка», «Па вуліцы ды па шырокай», «Акуліна», «Ой, у полі стаіць два дубочкі») сталі вынікам асабістых этнаграфічных камандзіровак Уладзімера Бярберава, гурта «Ліцьвіны» або проста прыйшлі зь сем'яў ягоных удзельнікаў. Часам скарыстоўваюцца і зборы вядомых фальклярыстаў (Л. Салавей, З. Мажэйкі) – «Грозныя тучкі», «Перапёлка», «Стукнула-грукнула на двары», «Ой, кумухно ды голубухно».

Асабліва, сярэднеэўрапейскае гучаньне надаюць гэтаму альбому песьні і мэлёдыі, дзе стылёвы саўнд базуецца на гучаньні дуды («Грозныя тучкі», «Ой, у полі стаіць два дубочкі», «Перапёлка» ды іншыя). Дарэчы, дуда, від эўрапейскай валынкі, асацыюецца ў многіх з Шатляндыяй, Ірляндыяй. А між тым амэрыканскі дасьледнік Боб Коэн у буклеце да аб'ёмнага альбому «Unblocked: Music of Eastern and Central Europe» (3 CD, 1997, Elipsys Arts) заўважыў, што гэта акурат уласьцівасьць музычнага сьвету самога цэнтру Эўропы, і – уключыў для прыкладу ў тое дыхтоўнае выданьне дзьве песьні ў выкананьні «Ліцьвінаў».

Не прайшло і двух гадоў, як і беларусы, пасьля амэрыканцаў, змаглі адчуць свой эўрапейскі дух на кампакт-дыску свайго аўтэнтычнага фальклёру.

Трэба адзначыць і дыхтоўнае мастацкае аздобы выданьня: маляўнічы буклет, поўны інфармацыі і пра сам гурт «Ліцьвіны», і пра паходжаньне кожнай песьні, і пра скарыстаныя музычныя інструмэнты, маляўнічы і сам дыск, які ўпісваецца ў аздобу ўнутранай расфарбоўкі скрынкі.

Карацей кажучы, бліскучы шоў-прадукт. Вось толькі ніводная музычная крама яго не прадае – трэба тэлефанаваць самому кіраўніку ансамбля Уладзімеру Бярбераву: 239-01-66.

**Вітаўт Мартыненка**

# КУДЫ ТЫ, «ДАРОЖКА», МЯНЕ ПРЫВЯДЗЕШ?




*Палац. Дарожка. 1998, Пан Рэкардз.*

Новы альбом пачынаецца традыцыйнай для «Палацу» валачобнай песьняй «Борам» зь яе абавязковымі атрыбутамі – шматгалоснымі сьпевамі, спалучэньнем розных народных інструмэнтаў, баяна, зь сьмелым выкарыстаньнем магчымасьцяў сучасных сынтэзатараў. І калі валачобная «Борам», калядка «А ці дома», вялікодная песьня «Яркае сонца» – візытоўкі гурта, то песьня канадзкіх індзейцаў «Come Out the Wilderness» можа падасца «прыцягнутай за вушы» да канцэпцыі беларускамоўнага альбому. Але, прыгадаўшы гістарычныя паралелі з жыцьця нашых народаў, можна ўспомніць творы ў даўно забытым жанры – песьні пратэсту. Але што скажуць пра гэтую англамоўную вэрсію, напрыклад, правадыры індзейскага народа з возера Любікон у Канадзе – калектыўныя сябры Беларуска-Індзейскага таварыства? Ці ня ліюць беларускія браты з «Палацу» ваду на млын бледнатварых асыміляратараў?

Досьведам спалучэньня мэлядызму і моваў розных народаў адрозьніваюцца і беларуская народная песьня «Каліначка» і англамоўная «Freeze to Me Mama», зьяўленьнем якіх «Палац» абавязаны сваму альянсу з экс-«сузорцам» Аляксеем Казлоўскім. Увогуле, атрымалася добрая ілюстрацыя магчымасьцяў працы на інтэрнацыянальнага слухача.

Ёсьць на стужцы і патэнцыйныя гіты. «Ночы» – самы заўважны зь іх, з акцэнтаваным рытмічным малюнкам, дасканалымі аранжаваньнямі А. Хаменкі, хвалюючымі гітарнымі акордамі. У гэтым жа рэчышчы скампанаваная і беларуская народная песьня «Волы», да якой пасуе «архаічнага» тэмбру голас Алега Хаменкі.

Неяк асобна на «Дарожцы» стаіць легендарная кампазыцыя «Казачэнька», перад выкананьнем якой на адным з канцэртаў «палацаўцы» беспакарана прымусілі ўзьнясцца са свайго месца адну вельмі знакамітую асобу. Створаная яна паводле канонаў гукавога палатна: гучыць тут і настальгічнае танга, і запісы гітлераўскіх прамоваў і воклічаў. Усе гэтыя музычна-акустычныя складнікі ўплятаюцца ў мэлядычную канву гэтай народнай песьні, прысьвечанай музыкамі, як піша на вокладцы касэты, усім загіблым на нашай зямлі.

Ня так даўно ў рамках тэлецыклю «А музыка гучыць…» адбылася прэм'ера некаторых твораў з «Дарожкі». Здымкі праграмы нагадвалі шмат якія іншыя малабюджэтныя праекты БТ, але выступ «Палацу» атрымаўся ўнутрана напружаны, дынамічны. Музычны матэрыял гэтага альбому – добрая аснова для здымак паўнавартаснага відэафільму (пры ўмове зьмены састарэлага сцэнічнага выгляду ўдзельнікаў гурта).

У цэлым жа альбом «Дарожка» пакідае ўражаньне больш экспэрымэнтальнага, сапраўды стэрэафанічнага і ў той жа час пераходнага да нейкага новага гучаньня «Палацу».

**Анатоль Мяльгуй**



## БЕЛАРУСКІ ГІТ-ПАРАД

**ТРАВЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ**

| *гурт* | *альбом* | *выдавец* |
|---|---|---|
| **1. Народны альбом** | Супольны музычны праект | КОВЧЕГ |
| **2. Бонда** | CD (2 часткі) | КОВЧЕГ |
| **3. NRM** | «Пашпарт грамадзяніна НРМ» | КОВЧЕГ |
| **4. Зьніч** | «Дух Зямлі» | ЗЬНІЧ |
| **5. Троіца** | | TROITSA |
| **6. Нейро Дюбель** | «Охотнік і сайгак» | ПАН-РЭКАРДЗ |
| **7. CD «Вольныя танцы: слухай сваё»** | | БМА |
| **8. Крыві** | «За туманам» | КОВЧЕГ |
| **9. Мясцовы час** | «Наша Ўскраіна» | КОВЧЕГ |
| **10-11. Новае Неба** | «Выбранае» | ПАН-РЭКАРДЗ |
| **10-11. Камэлот** | «У краіне талераў» | Ton Records |

*Радыёварыянт беларускага гіт-параду можна пачуць у апошні чацьвер месяца з 10.00 і штонядзелі з 13.30 на хвалях «Радыё-2».*

Гіт-парад складзены паводле продажу касэт і CD: у Менску ў пераходзе ст.м. «Інстытут культуры», кіёску «Карона» (каля крамы «Музыка»), штočацьвер з 19.00 па Варвашэні 8; у Маладэчне ў кіёску ТБМ (на чыгуначным вакзале) і праз тэл.: (273) 53769 (Алесь); у Гомелі ў краме «Audio-box» (Першамайская 23); у Віцебску ў кіёсках фірмы «Саюз»; у Сьветлагорску ў кіёску 93 (р-н рэстарацыі «Пралеска»); у Воршы ў краме «Пілот» (Леніна 16, тэл.: 44893); у Магілёве праз тэл.: (0222) 255785; у Берасьці праз тэл.: (0162) 202087 і 264831; праз сыстэму «Касэты — поштай» (а/с 5, Менск, 220085, тэл.: (017) 249-08-88, Віталь. E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by).

У «НН» была надрукаваная рэцэнзія Слухача на касэту В.Шалкевіча «Правінцыя». На самой справе альбом «Правінцыя» — першая праграма гарадзенскага барда В.Шалкевіча, запісаная ў 1992 годзе. Асноўную частку накладу распаўсюдзілі на Беласточчыне. У запісе праграмы прынялі ўдзел Сяргей Ажаганец (арганы) і Андрэй Макарэвіч (гітара). У 1999 годзе са згоды В.Шалкевіча БМAgroup замовіла на студыі Top Records новы наклад касэтаў альбому «Правінцыя». На жаль, зь віны студыі частка касэт атрымалася бракаваная — большую частку песень замянілі на творы з альбомаў «Смутны беларускі блюз» (1996) і «Баляды і рамансы» (1999). Выдаўцы прыносяць свае прабачэньні тым, хто набыў бракаваную касэту. Абмяняць можна, зьвярнуўшыся па тэл.: (017) 249-08-88 ці на адрас: а/с 5, Менск, 220085.

**БМAgroup**

# ПЛАВІЛЬШЧЫКІ РАСЫ




**У Вільні выйшла кніга выбраных вершаў Славаміра Адамовіча. Кніга называецца «Плавільшчыкі расЫ» – або рАсы – тут сьведамае двоечытаньне. «Плавільшчыкі расы» – кніга, якая аб'ядноўвае ўсё лепшае з папярэдніх, як быццам зьбірае сьляды паэта, раскіданыя ў часе і прасторы. Адамовіч – тая постаць, безь якой не ўявіць сабе сёньняшняй Беларусі. Дастаткова згадаць створаны ім палітычны пэрфоманс – арганізацыю «Правы рэванш», 10-месяцовае зьняволеньне ў турме за верш «Убей прэзідента» альбо публічна ў знак пратэсту супраць прыгнёту зашыты сабе рот. А таксама вершы...**

*Даведкі праз тэл. (017) 227 78 92*

## ЮБІЛЕЙНЫ ТАЛЕР

Як гэта добра — падысьці да стойкі, і дзьвякнуць перад бармэнам вялікай рыфлёнай чыімсьці профілем манэтай: «Два півы, мне і сябру». Скіраваная вялікім пальцам рукі, манэта бліскане паўколам і трапіць акурат у сподачак. Гэта стыль.

Магчыма, з слова «стыль» варта пачынаць любы расповед пра Славаміра Адамовіча. Выява профіля Адамовіча можа ўпрыгожыць любы тытул, любы мэдаль, нават трыбуну. Інтэрвію палітычнага лідэра, прамова падсуднага, выступ паэта... Кажуць, стыль жыцьця аўтара «Забі прэзыдэнта» — гэта правакацыя.

Калі ўзяць панятак «жыцьцё» як штосьці, што застаецца па-за момантам стварэньня паэзіі, калі акрэсьліць яго як тое «лішняе», што ўвесь час трэба адсякаць, каб стварыць верш, дык ці для чытачоў прынцыпова, якое яно — жыцьцё паэта, стылёвае ці не стылёвае? Зрэшты, наступае момант, калі і сам стваральнік паэзіі адсякаецца ад пладоў сваёй творчасьці як «лішняе». Тады застаюцца вершы, і...

Ёсьць думка, што Адамовічу варта было б нарадзіцца ў 30-х гадох, у час шырокіх капелюшоў і каўнераў, срэбных парттабакаў і «кольтаў». Але я спрабую ўявіць сабе помнік паэту Славаміру Адамовічу, выкананы ў стылі зараджэньня клясыцызму ў росквіт напалеонаўскай эпохі. Эпалеты, батфорты, шпага, узьнятая наперад, у бок, дзе чакаюць новыя перамогі. Магчыма, можна абыйсьціся і без эпалетаў, але помнік мусіць быць грандыёзным, на велічэзным п'едэстале. П'едэстал аздобяць сцэны з жыцьця Славаміра Адамовіча. Кола замкнулася? Не. І ня толькі таму, што гэтыя сцэны мы ведаем зь ягоных рэпартажаў-дзёньнікаў. Праз сто гадоў сцэны зьменяцца на мітычныя.

Рэч у тым, што Адамовіч ня ёсьць паэтам, які ў самотнай паўцемры піша вершы ў спадзеве на сьветлы розум нашчадкаў. Ён творца РЭАЛЬНЫХ СЫТУАЦЫЯЎ. Калі жадаеце, ён актор-выканаўца ўласных п'есаў, у якіх гледачы, па сваёй волі ці не, бяруць удзел. Гэта мініятуры, якія складаюцца ў адзіную фээрыю любові да Бацькаўшчыны, Жанчыны і Зброі... Стоп.

Магчыма, гэта словы з энцыкляпэдычнага даведніка канца XXI-га ст., якія будуць напісаныя на сшытках беларускіх школьнікаў яшчэ пры жыцьці паэта... Гэта сапраўды сталася б колам, кшталту таго, па якім пайшло імя, напрыклад, Пушкіна. Адамовіч таксама «дуэлянт», «пазэр», «донжуан» і «скандаліст». Пры тым ён адзіны зь нямногіх паэтаў, да якіх немагчыма наляпіць ярлыкі «п'янства», «самагубства», «ня той арыентацыі», «сухотнасьці», альбо «не таго паходжаньня»... Ці значыць гэта, што яму пагражае лёс «вовачкі» — папулярнасьць навыварат?

Адамовічава прага выплеснуць уласны сусьвет гэткая ж моцная як прага зафіксаваць навакольную рэальнасьць. Ён стварае «дзёньнікі», «бытавухі», «справаздачы», «зборнікі дакумэнтаў»... Калі б ён здолеў, ён бы на кожнай рэчы паставіў уласны подпіс пад датай, калі ён спрычыніўся да гэтай рэчы — да жыцьця, якое штораз «толькі пачынаецца».

Адамовіч стварае вялікі раман, які «абарвецца на палове слова» і які чытач будзе прагнуць працягваць самастойна... Магчыма, адным зь сюжэтаў гэтага працягу будзе сцэна ў сталічным бары, дзе, дзьвякнуўшы манэтай з профілем беларускага героя, невядомы Вялікі Паэт прачытае сябру свой першы верш. Той самы, дзеля якога змагаецца Адамовіч.

**Севярын Квяткоўскі**

# МУЗЫЧНАЯ АДУКАЦЫЯ

*В.Скорабагатаў. Зайгралі спадчынныя куранты. — Менск.: Тэхналёгія, 1998. — 154 с. — ISBN 985-6234-59-X*




Беларусы – нацыя надзвычай музычная. Ледзьве ня чвэрць насельніцтва (уключаючы «вышэйшае далжнасное ліцо») можа пахваліцца пачатковай музычнай адукацыяй – гэтаму паспрыялі адкрытыя за савецкім часам музычныя школы, дзе за 16 рублёў у квартал яснавокія сялянскія (і гарадзкія) дзеткі авалодвалі першапачатковымі навыкамі граньня на чым-небудзь (стандартны набор – баян, акардэон, цымбалы). Кожны цэнтар сельсавету (прасьцей кажучы – «куст») лічыў справай гонару мець музычную школу, ня кажучы ўжо пра вялікія гарады: там што ні СШ, то ледзь табе ня хор Пятніцкага. Як і ўсялякая іншая адукацыйная ўстанова, музычная школа спалучала навучальныя задачы з задачамі выхаваўчымі – перш за ўсё зьвярталася ўвага на выхаваньне патрыятызму. Дзе-дзе, а тут запавет правадыра пра права нацыяў на самавызначэньне шанаваўся і выконваўся – навучальнай праграмай, акрамя спэцыяльнасьці, тэорыі музыкі, хору і г. д., была прадугледжаная такая экзатычная дысцыпліна, як беларуская музычная літаратура, адзнака за якую ішла ў «Пасьведчаньне аб сканчэньні...»

Таму, пабачыўшы кнігу В. Скорабагатава «Зайгралі спадчынныя куранты», якая, паводле рэмаркі, ёсьць дапаможнікам з гісторыі беларускай музыкі, кожны пачаткова-музычнаасьвечаны беларус – утаймаваўшы вадаспад асацыяцыяў, выкліканых словам «куранты», пачынае ліхаманкава рэстаўраваць свае веды ў гэтай галіне. У большасьці выпадкаў усе намаганьні аказваюцца марнымі. Часам – здараюцца і такія цуды – прыгадваюцца 2-3 прозьвішчы (Чуркін, Алоўнікаў, Аладаў), 1-2 опэры (пра немцаў і партызанаў або пра дрэннага пана і шчасьлівае жыцьцё калгасьнікаў у фінале). Таму кніга пра беларускую музычную спадчыну выклікае ў чытацкай аўдыторыі калі ня лёгкі шок, дык зьдзіўленьне – дакладна. Аднак усё па парадку.

Па-першае – аўтар В. Скорабагатаў. Тут многа казаць ня трэба – чалавек добра і заслужана вядомы: опэрны сьпявак, музычны крытык, ляўрэат шматлікіх прэміяў, які, плюс да ўсяго, як казаў адзін палкоўнік, шчэ й «сечёт па-беларусскі», – каму, як не яму, было напісаць такую працу?

Сутнаснае разуменьне фармальнай структуры кнігі – «спалучэньне». Так, яе будова ёсьць спалучэньнем некалькіх храналягічных прынцыпаў: эўрапейскае храналягічнае традыцыі (барока – клясыцызм – рамантызм), беларускае, «мясцовае» традыцыі («залаты век», «нашаніўскі пэрыяд») і, так бы мовіць, «храналёгіі асобаў», якія зь вялікай цяжкасьцю ўкладаюцца ў рамкі згаданых творчых мэтадаў (А. Радзівіл, М. К. Агінскі, С. Манюшка).

Адрозьненьне гэтага выданьня ад большасьці падручнікаў і навучальных дапаможнікаў у тым, што тут беларуская музычная культура не разглядаецца асобна ад грамадзка-палітычнага і агульнакультурнага кантэксту (як беларускага, так і сусьветнага), аднак аўтар ніколі не забываецца на фонавы характар такіх «агульных» зьвестак і, адпаведна, ня робіць на іх значных акцэнтаў. Праілюстраваць гэта можа кампазыцыя некаторых разьдзелаў, якая нагадвае рух ад краю сьпіралі да сярэдзіны: аўтар пачынае з найбольш агульных зьвестак, паступова сьціскаючы кола. Міргнуць не пасьпееш, як апынаесься ў гушчары музычнае тэрміналёгіі («гушчар» – гэта, бадай што, занадта – аўтар даволі стрымана ёй карыстаецца, дэманструючы рэдкае сярод навукоўцаў разуменьне таго, што кніга – яна на тое, каб яе чыталі).

Адзінае, што засталося па-за ўвагай – гэта ўласны ўнёсак аўтара ў разьвіцьцё беларускае музыкі, якому будучыя складальнікі такога кшталту выданьняў, безумоўна, прысьвецяць не адну старонку.

**Андрэй Скурко**

# ПАМЕЖНАЕ ПЫТАНЬНЕ

*В.Янин. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII-XV веков. — Масква: Выд-ва Маск. ун-та, 1998. — 216 с. Наклад 1500 ас. ISBN 5-211-03739-1*




Чамусьці так здараецца, што кнігі пра межы Беларусі ў даўнейшы час зьяўляюцца хутчэй у Польшчы ці Расеі. У Беларусі пра гэта пісаць, здаецца, амаль немагчыма. Вось і апошнім разам нас парадаваў нястомны дасьледнік, расейскі акадэмік В. Янін. Яго праца прысьвечаная сьветлай памяці Эгідыюса Банёніса, які заўчасу памёр і ня здолеў скончыць усе задуманыя дасьледаваньні па дыпляматычнай гісторыі Вялкага Княства Літоўскага.

Кніга В. Яніна шматплянавая, што і выклікала падзагаловак «Памежныя сытуацыі». Якіх толькі праблем не паўстае на памежжы! Адно з асноўных – вызначыць, дзе тое самае памежжа праходзіць, што для сярэднявечча зусім ня проста. Да таго – як узьнікла памежжа, у чым яго сутнасьць. Вось для вялізнай Наўгародзкай рэспублікі XV ст. памежжа з ВКЛ – ня проста лінія, гэтая яшчэ некалькі валасьцей, якія хоць і належаць адміністрацыйна Вялікаму Ноўгараду, але даніна зь іх, «чорная куна», ідзе ў скарб вялікіх князёў літоўскіх. В. Янін прапануе ўжо другі варыянт тлумачэньня, як зьявіўся такі дзіўны парадак. Разглядаюцца іншыя сюжэты: датаваньне комплексу дакумэнтаў XII ст. пра ўладкаваньне Смаленскай япархіі (таго самага, дзе ўпершыню ўпамінаюцца гарады Крычаў, Прупой, Лучын), датаваньне «Сьпісу гарадоў рускіх далёкіх і блізкіх» XIV ст. (таго, дзе ў першы і апошні раз прыгаданы горад Няміга), пра літоўскіх князёў на службе ў Наўгародзкай рэспубліцы ды інш. Няма дзе больш падрабязна даведацца пра пасьпяховы паход Вітаўта на пскоўскі горад Каложу ў 1406 г., жыхары якога былі выведзеныя ў палон і ўтварылі Калоскае прадмесьце ў Гародні (адсюль і Калоская царква). Упершыню адшуканы верагодныя гензалягічныя карані загадкавага князя Рамана Літоўскага, што ў XIV ст. служыў Ноўгараду. Здаецца, што гэта Раман Фёдаравіч, унук Альгерда, уладальнік Кобрыню. І што за дзіва? Вось быў жа пінскі князь Нарымонт першым служылым ліцьвінам у Вялікім Ноўгарадзе. Хаця стоп, ня першым. Першым быў усё ж знакаміты Давыд Гарадзенскі, які асталяваўся ў Ноўгарадзе ў 1322 г. Дарэчы, гэты эпізод у жыцьці знакамітага ваяра ніяк ня згадваюць айчынныя гісторыкі, а таксама і В. Янін. Аўтар прапануе цікавы погляд на ўзаемаадносіны наўгародцаў з ВКЛ: быццам, пакуль мір зь Літвой на поўдні падтрымліваецца выплатай ёй даніны з памежных валасьцей, на паўночным захадзе літоўскія служылыя князі, маючы там у трыманьні гарады, абараняюць Ноўгарад ад швэдзкай і нямецкай небясьпекі. Гэта называецца «сыстэма наўгародзка-літоўскага супрацоўніцтва» (да таго быў пэрыяд «літоўскай агрэсіі»).

В. Янін чамусьці мяркуе, што Полацкае і Віцебскае княствы павінны былі бараніць ад гэтай літоўскай агрэсіі Вялікі Ноўгарад ды іншыя вялікарускія землі. Павінны былі, але «не маглі супрацьдзейнічаць», прыкладам, наездам Літвы на Таропец. З такога гледзішча сапраўды выглядае дзіўным, што літоўцы не чапаюць полацкіх або віцебскіх зямель, праходзяць празь іх, як праз масла, рабуюць Таропец і спакойна вяртаюцца дахаты. Відавочна, была тут нейкая змова паміж тым жа Полацкам і Літвою, якая пазьней прывядзе да ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага. Погляд жа на падзьвінскія гарады як на ахвяру літоўцаў прыводзіць аўтара да катэгарычных высноваў: «Апошняе сьведчаньне пра незалежнасьць Віцебска ад Літвы адносіцца да 1245 г.». У гэты год там гасьцяваў князь Аляксандар Неўскі, пэўна, адведваў сваякоў. Але ж нават пазьнейшае зацьвярджэньне там літоўскага князя зусім ня сьведчыць пра страту «незалежнасьці ад Літвы». Князь Даўмонт зь Літвы 33 гады княжыў у «незалежным ад Літвы» Пскове, а больш дзясятка літоўскіх князёў сядзелі ў Вялікім Ноўгарадзе – ці гэта быў канец незалежнасьці?

Што забясьпечыць кнізе В. Яніна доўгае жыцьцё, дык гэта наяўнасьць шматлікіх мапаў памежных адміністрацыйных адзінак, на якіх пазначаныя сотні населеных пунктаў. Тут Ржэўская зямля – скрайні паўночна-ўсходні набытак Беларуска-Літоўскай дзяржавы, Тарапецкая зямля, гэта ўжо бліжэй да сучаснай беларускай граніцы, Вялікалуцкая і Пустаржэўская землі. Гэта яшчэ бліжэй да сучаснай мяжы, але нават тут нельга адзначыць гістарычнага супадзеньня межаў, што В. Янін неаднаразова робіць пры супастаўленьні, прыкладам, межаў Пскоўскай фэадальнай рэспублікі і сучаснай мяжы Расейскай Фэдэрацыі з Эстоніяй і Латвіяй. Там праз 500 гадоў яны супадаюць, а ў нас ніяк ня хочуць.

Ці можна было б напісаць такую кнігу ў Беларусі з тэхнічнага пункту гледжаньня? Асноўнымі крыніцамі аўтару паслужылі ўжо апублікаваныя дакумэнты XV–XVI ст. у спалучэньні з тапаграфічнымі 3-х і 10-вёрстнымі мапамі генэральнага штабу другой паловы XIX – пачатку XX ст., і сучаснымі 2-х і 3-кілямэтровымі мапамі расейскіх абласьцей. Апублікаваныя дакумэнты ў нас даступныя ў бібліятэках, мапы генэральнага штабу, нягледзячы на гераічныя высілкі, так у Беларусі і не сабраныя, а за карыстаньне сучаснымі мапамі без цырымоній могуць пасадзіць як шпіёна. Не, такая, кніга не магла зьявіцца ў Беларусі ніяк.

**Валеры Пазьнякоў**

# САМАЕ ДАРАГОЕ, ШТО Ў НАС ЁСЬЦЬ

Зьміцер БАРТОСІК

***У Вільні на днях адбылася выстава пад назваю «BelExpo». Матывы, якія прымусілі беларускае кіраўніцтва паказаць усё, чым мы багатыя, у Літве, што імкліва багацее, на жаль, добра вядомыя усім. А таму, матыў гордасьці не ўзьнікаў ад пачатку. Нашай савецкай дзяржаве няма чым плаціць суседзям за праедзеную электраэнэргію. Гадоў пяцьдзясят таму чырвонасьцяжная наладзіла б тут парад цяжкай вайсковай тэхнікі, і пытаньне было бы зьнятае. Зараз жа часіны пайшлі нерамантычныя. Танкі паедуць па Менску. На Вільню пайшлі трактары.***

Атмасфэра ў Палацы спорту панавала хутчэй жалобная, чым дзелавая. Нешматлікія наведнікі млява соўгаліся ўздоўж стэндаў. Па тэлевізары «Panasonic» дэманстраваўся фільм пра Эгіпэт. Загробны голас дыктара на ўсю залю распавядаў пра жыцьцё фараонаў. Што значна надавала выставе загадкавасьці. Паводле якога прынцыпу падбіралася прадукцыя, зразумець цяжка. Ад сузіраньня ствараліся ўражаньне, што арганізатары «па сусеках пашкраблі», каб запоўніць арэндаваныя плошчы. Хоць зрэшты, можа літоўскую публіку й зацікавілі плястмасавыя тазікі, электрычныя лямпачкі ды гомельскія парасоны. Ці можа каму ў якасьці сувэніра спатрэбяцца кірзовыя боты ўзору другой сусьветнай, што непараўнальна суседнічалі з ажурнай жаночаю бялізнаю фірмы «Мілавіца».

Вельмі забаўляльны рэклямны ролік я меў шчасьце пабачыць ля стэнду фірмы «Амкадор». На экране дэманстраваўся сьнегаўборачны камбайн. На тле раскошнай менскай зеляніны езьдзіла чуда-машына. Паліраваныя лопасьці працавіта заграбалі сьпякотнае чэрвеньскае паветра. «Але чаму ролік нельга было зьняць зімою?» — зьдзівіўся адзін літовец. «У нашай краіне няма зімы, —растлумачыў я яму, — толькі сонца круглы год, бананы на градках і сьнегаўборачныя камбайны на вуліцах».

Я баяўся, што не знайду на прамысловай выставе нацыянальнага калярыту. І жорстка памыляўся. Я знайшоў яго на стэндзе сувэніраў. Сярод саламяных конікаў ды гліняных алькаголікаў узвышаўся таксама гліняны міліцыянт. Дакладней, судзячы па амуніцыі й выразе твару, амонавец. З кабурою, рацыяй, толькі бяз палкі. Аўтар гэтага сувэніру, напэўна, чалавек не бяз гумару. А можа, як у тым анэкдоце, ён ляпіў пажарніка, ды ўсё роўна атрымаўся мент. «І колькі каштуе ваш менцік?» — запытаўся я ў жанчыны за столікам. «Прасьціце, не поняла?» «Сколько стоіт эта прэлесть?» — паўтарыўся я. «Гэта самае дарагое, што ў нас ёсьць, бязь ценю іроніі адказала кабета, —цэлых сем долараў».

У мяне былі гэтыя грошы, але купляць «самае дарагое што ў нас ёсьць» рука не паднялася. Выставаю я застаўся цалкам задаволены. У тым пляне, што лішні раз упэўніўся — лепш за ўсё ў гэтай дзяржавы атрымліваюцца вайсковыя парады і рэфэрэндумы. Таму за дзяржаву мне ня крыўдна. А ў магчымасьцях краіны я сумлеваў пакуль ня маю.

P.S. Мой знаёмы бізнэсмэн, які наведаў выставу не ў якасьці пасквілянта, цьвёрда вырашыў набыць два менскія экскаватары. Матывы — у Літве й таго няма. Значыць, праврвемся.




Хульё КАРТАСАР

# НЕХТА ЛУКАС І ЯГО ЗАСМУЧЭНЬНІ

У цяперашніх кватэрах, як вядома, калі хто з гасьцей ідзе ў прыбіральню, то астатнія працягваюць далей сваю гутарку пра Біяфру ды Мішэля Фуко; аднак, у паветры ўсё ж завісае пачуцьцё, нібы ўсе прысутныя хочуць забыцца на тое, што ў іх ёсьць вушы, але адначасова гэныя ж іхныя вушы выцягваюцца ў накірунку сакральнага месца, якое, натуральна, ва ўмовах нашага сьціснутага грамадзтва, знаходзіцца траха ня ў трох мэтрах ад таго месца, дзе вядуцца размовы аб высокіх матэрыях, і няма сумневу ў тым, што, нягледзячы на высілкі адсутнага госьця прыхаваць праявы сваёй дзейнасьці ды той імпэт, зь якім суразмоўцы падвышаюць голаснасьць сваёй гутаркі, у пэўны момант даляціць-такі адзін з тых прыглушаных гукаў, якія абіраюць для сябе самыя неспадзяваныя абставіны, або, у лепшым выпадку, пачуецца хвалюючае драньне гігіенічнае паперы звычайнай якасьці, калі нехта аддзірае сабе шматок ад ружовае ці зялёнае рулькі.

Калі ж у прыбіральню выпадае ісьці Лукасу, ягоны жах можна параўнаць толькі з нацыскам колікаў, якія й прымушаюць яго засесьці ў адыёзным рэдуце. У гэтым жаху няма ні нэўрозу, ні комплексаў, ёсьць толькі ўсьведамленьне рэцыдыўных паводзінаў кішак, гэта значыць, што пачнецца ўсё добра, мякка-ціхенька, але ж пад канец, быццам порах сутыкаецца са шротам у паляўнічай стрэльбе, нешта жудасна выбухне, аж здрыгануцца зубныя шчоткі у падстаўках ды скалыхнецца занавесіна душа.

Нічога ня можа зрабіць Лукас, каб гэтага пазьбегнуць; як ён толькі ні вычвараўся: нахінаўся, каб дапяць галавою падлогі, адкідваўся назад так, што кранаўся ступакамі супрацьлеглае сьцяны, садзіўся наўзбоч і нават спрабаваў ужыць найвярнейшы спосаб: хапаўся за клубы і як мага шырэй расьцягваў іх дзеля павелічэньня дыямэтру бурлівага трубаправоду. Марна ён памнажаў колькасьць глушыльнікаў, накідваючы на сьцёгны ўсе спадручныя ручнікі і нават купальны чугаі гаспадароў: практычна заўсёды пры канцы таго, што магло б стацца прыемным баўленьнем часу, возьме ды бабахне гучнае фінальнае — пярдзель!

Лукас пакутуе, і калі ў прыбіральню даводзіцца ісьці камусьці іншаму, бо ён упэўнены, што першы ганебны покліч можа даляцець з імгненьня на імгненьне; яго трохі зьдзіўляюць людзі, якія на выгляд быццам бы ня дужа клапоцяцца з-за такіх рэчаў, аднак, не пакідаючы па-за ўвагай тое, што дзеецца, і нават перакрываючы гэта пагрукваньнем лыжачак у кубках ды беспрычынным перасоўваньнем крэслаў. Калі ж нічога не адбываецца, Лукас адчувае сябе шчасьлівым і адразу просіць яшчэ каньяку, чым сябе ж і выдае: усе прысутныя адзначаюць ягоную напружанасьць і непакой пад час таго, як сэньёра Броджы спраўляла свае патрэбы. Як гэта адрозна, разважае Лукас, ад беспасярэднасьці дзяцей, калі яны набліжаюцца да найвыбітнай кампаніі і заяўляюць: «Мама, хачу ка-ка». Якім шчасьлівым чалавекам, працягвае свой роздум Лукас, мусіў быць невядомы паэт, які склаў наступнае чатырохрадкоўе: «Што можа быць прыемным болей / чым серацй дзесь сабе паволі / лепш не бывае адчуваньня / чым пачуваньне па пасраньні». Каб узьняцца да такіх вышыняў, гэны сэньёр меў пачуваць сябе вольным ад небясьпекі няўчаснага ці ўчаснага выпусканьня газаў, калі толькі прыбіральня ягоная не знаходзілася на іншым паверсе або ўяўляла сабой будан з цынкавых пласьцінаў, які стаіць на добрай адлегласьці ад ранча.

Падсеўшы гэтак на паэтычную хвалю, Лукас прыпамінае верш Дантэ, у якім грэшнікі avevan dal cul fatto trombetta, і гэтай разумовай спасылкай на культуру найвышэйшага ўзроўню ён пэўным чынам прабачае сябе за разважаньні, якія мала маюць агульнага з тым, што кажа доктар Бэрэнштайн наконт закону аб камунальных плацяжах.

*1979*

**Пераклаў з гішпанскай Анатоль Прасаловіч**

Слоўнік паняцьцяў

# 7. ПРА МЭНТАЛІТЭТ БЕЛАРУСАЎ.

Валерка БУЛГАКАЎ



Ёсьць словы і выразы, якія дзесяцігодзьдзямі займаюць розумы беларускіх публіцыстаў. Калі раней такімі былі «рэвалюцыя», «еднасьць», «мерапрыемства», «ветразі надзеі», то цяпер, на чарговым вітку гістарычнага разьвіцьця, мы ўсё часьцей чуем – «нацыя», «тоеснасьць», «мэнталітэт».

Разважаць пра мэнталітэт беларусаў бярэцца кожны – і крайні нацыяналіст, і ўмераны лібэрал, і імпэрскі рэваншыст. Цікава, што, як правіла, вынік гэткіх разважаньняў бывае адзін і той жа: аказваецца, што беларусы – гэта *рахманы, памяркоўны* (апошнія два словы ў менскіх расейскамоўных мас-мэдыях ужо даўно пішуцца безь перакладу), талерантны народ.

Відавочна, што перад намі тыповы постімпэрскі міт, які творыцца і выкарыстоўваецца пэўнымі сіламі ў сваіх карысьлівых мэтах – каб белае зрабіць чорным, а чорнае белым. Сама тэма імпэрскіх («сапраўднай беларускай мовы ўжо няма», «беларуская мова калхозная, грубая» etc.) і постімпэрскіх («Пазьняк хоча прылучыць Беларусь да Польшчы», «Савецкі Саюз развалілі цёмныя сілы» etc.) паводле часу ўзьнікненьня мітаў заслугоўвае асобнай грунтоўнай гутаркі, таму мы пакінем яе ў баку.

Дык усё-такі, дзе сёньня шукаць рахманых, памяркоўных і талерантных беларусаў? У гарадзкіх агляямерацыях, дзе баль спраўляе выгараная за савецкім часам сярэдняя кляса – з усярэднёнымі здольнасьцямі і патрэбамі, галоўнай жыцьцёвай задачай якой стаецца дасягненьне і ўтрыманьне элемэнтарных цывілізацыйных дабротаў плюс бесьперабойнае харчаваньне, а ўсё астатняе выклікае агрэсіўнае непрыняцьцё? У Богам забытых вёсках, дзе свой век у самоце дажываюць *тутэйшыя*, якія, гэтулькі разоў здраджаныя гісторыяй, так і не ўзумелі з галавой акунуцца ў каламутны вір сучаснасьці, а таму асуджаныя на паступовае выміраньне? Сярод беларускай інтэлігенцыі, якую знутра разрываюць дзікія жарсьці? Іншых маргінальных праслоек?

Мэнталітэт цэлага народу можна з доляй умоўнасьці параўнаць з мэнталітэтам асобнага чалавека: гэта ня нейкая пастаянная якасьць, а няўстойлівы плынны стан, які, нягледзячы на сваю абумоўленасьць пэўнымі канстантамі, ніколі не стаіць на месцы, змушаны рэагаваць, даваць адказы, на ўсе новыя выклікі быцьця. Азначэньнямі «рахманы» (якое ў жывой мове ўжываецца пераважна ў дачыненьні да свойскай жывёлы, напрыклад, да парсюка - «рахманы парсюк»), «памяркоўны», «талерантны» насамрэч апісваецца не мэнталітэт беларусаў (у лепшым выпадку гэтым падкрэсьліваецца іх «нерасейскасьць», тое, што пазьпыўна адрозьнівае іх ад расейцаў), а робіцца цынічнае апраўданьне здаўна заведзенага парадку рэчаў, бо такі ж самы «мэнталітэт» цялушкі на разьніцы, якую забіваюць электратокам, сьвіньні на падворку, якую гукаюць, каб закалоць, драўлянай калоды, у якую з усяго маху заходзіць тапор.

Вызнаўцы гэтага міту жывуць у дзіўным вычварным сьвеце, які канструюецца іх уласнай пазагістарычнай сьвядомасьцю. Гэтая сьвядомасьць апэлюе не да рэальнага гістарычнага чалавека, а да бесьцялесных фантомаў – жывапісных жанчынак у хвартушках і мужчынак у кажушках. У кожным разе, беларускае грамадзтва канца XX ст. і прысутныя ў ім сацыяльныя групы застаюцца па-за ўвагай.

## 100 ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ

Сяргей ХАРЭЎСКІ

# МІХАІЛ САВІЦКІ. ХЛЯБЫ



Роля Міхаіла Савіцкага ў гісторыі савецкага мастацтва выключная. Ніводзін з беларускіх мастакоў не дасягнуў гэткіх недасяжных вышыняў і зіхаткога зьзяньня дзяржаўных рэгаліяў. Адно званьне народнага мастака СССР чаго вартае...

...Асоба Савіцкага будзе даваць спажыву для многіх тэмаў. Савіцкі — культуртрэгер, вясковы хлапец, які па вайне патрапіў вучыцца ў Маскву й вярнуўся з перакананьнем сваё выключнасьці па-над беларускімі калегамі. Савіцкі — нэкрамант, які добрую палову сваё творчасьці прысьвяціў сьмерці ў розных яе праявах, асабліва вылучаючы матывы сьмерці дзяцей і маладых жанчынаў. Савіцкі і Ленін — асобная тэма, бо менавіта ягоныя палотны й габэлены склалі гэтак званы «залаты фонд беларускае ленініяны», у тым ліку дзякуючы абсалютным памерам тых твораў. Савіцкі і Шагал — адна з найбольш красамоўных тэмаў у гісторыі нашае культуры. Менавіта Савіцкі, паслугоўваючыся абсалютным даверам савецкіх уладаў, прыклаў нямала высілкаў, каб імя ягонага геніяльнага калегі і земляка было «сьцёртае» са скрыжаляў беларускага мастацтва...

...Міхаілу Савіцкаму належаць і колькі пачэсных старонак у беларускай культуры. Некалькі ягоных палотнаў застануцца і пасьля таго, як за нашымі сьпінамі зьнікне далягляд сёньняшняга стагодзьдзя. Натуральна, гэта будзе ня «Песьня» 1958 году, хадульная па кампазыцыі й анэмічная па жывапісе. Гэтае першае буйное палатно будучага маэстра болей нагадвае афішу да тагачасных фільмаў пра краіну, «дзе так вольна дыхае чалавек». Ня будуць гэта і палотны на тэмы партызаншчыны, то лубковыя, то відавочна фальшывыя па пачуцьцях. Ды й «Лічбы на сэрцы» ня знойдуць сабе лепшага месца за тое, дзе яны цяпер — у Музэі вайны...

Самым значным з Савіцкага стала тое, дзе ён вычувае сваю зьнітаванасьць з краямі свайго дзяцінства. Кажучы йнакш, тое, што сьведчыць за ягоную прыроду, генэтычную повязь зь людам простым. Невыпадкова, дэбютуючы «Песьняю», ён напружана шукаў повязі, больш адпаведнай ягонаму ego, чымся кампіляцыі з мэксыканскіх *муралістаў*.

Жыцьцё хлебаробаў ды ільнаводаў родных палеткаў Віцебшчыны, куды больш знаёмае мастаку, чым штучны патас «ярасных атак», лягала на ягоныя палотны, нібы адхланьнем, пачуцьцём ціхае й рацыянальнае згоды з Жыцьцём. Жыцьцём, што несувымерна большае, чым проста кола пакутаў. Дзясяткі пазьнейшых палотнаў, прысьвечаных вясковаму жыцьцю канца 60-х — пачатку 70-х гадоў, зьвяртаюць на сябе ўвагу найперш адной акалічнасьцю — рэлігійнай сэмантыкай, шчодра ў іх упісанай.

Напрыклад, «Ураджай», напісаны ў 1966 годзе, выклікае міжвольныя асацыяцыі з сюжэтам «Тройцы». Гэтая асацыяцыя тым мацнейшая, што мастак запабег нейкіх калгасных рэаліяў. Постаці трох мужчын, што ў задуменьні перабіраюць зярняты збажыны, наводзяць згадкі і на «хлеб надзённы», што даецца нам. Засяроджанае замілаваньне хлебам, ня маннаю зь нябёсаў, зводзіць гледача ўбок ад сацыялягізацыі сюжэту. Што дзіўна, зважаючы і на год напісаньня, і на паралельныя з гэтай карціны Савіцкага, напісаныя ў тыя ж гады, але напісаныя ў нейкім угары бруталізму, шэрымі, невыразнымі фарбамі, палотны, якія па інэрцыі эксплюатавалі модную тады тэму партызаншчыны.

Блізкай па духу да гэтага палатна стала карціна «Селянін у чырвонай кашулі». Аднак у ёй перад тэмаю бясконцага звароту жыцьця, наперад выступае матыў жыцьцядайнасьці самой зямлі, жалобнай і ўрачыстай, зямлі, якая дорыць усё жыцьцём і ў якую жыцьцё сыходзіць... У «Селяніне...» Савіцкі паспрабаваў ускладніць сваю жывапісную задачу, падтрымаць яе традыцыяй усходніх абразоў. З гэтага экспэрымэнту, праўда, атрымалася хутчэй перайманьне Пятрова-Водкіна.

Наступныя ягоныя работы, нібы набліжаныя да канкрэтных пабытовых рэаліяў, таксама шыфруюць у сабе тэму эўхарыстыі. Людзі дзеляць хлябы, людзі схіляюцца над хлебам, людзі багомяць хлеб. «Хлеб», «Хлеб новага ўраджаю» і «Хлябы».

«Хлябы» напісаныя крыху пазьней, у 1968 годзе. Паводле сваёй кампазыцыі гэта таксама незвычайная рэч. Паўтор матыву траістасьці нагадвае будову іканастасу. Але статыка чыннага шэсьця парушаецца... позіркам. Менавіта суворы позірк трэцяе жанчыны, што замыкае шэсьце ў межах палатна, які нібы скрозь ягоную роўнядзь, стаў цэнтрам кампазыцыі. Ён прачытваецца беспамылкова. Як не адразу злоўлены спакойны й дакорлівы позірк кабеты ў бажніцы, што сунімае ім чыйсьці недарэчны шэпт пад час літургіі. Гэтая сур'ёзная ўзьнёсласьць характарызуе ўвесь эмацыйны лад карціны.

Тры кабеты. Адна маладзейшая, але ў яе сьцятых вуснах таксама прачытваецца незвычайнасьць ды адказнасьць моманту. Сваёй уласнай работы цяжкія сялянскія хлябы яны нясуць у бажніцу. Напярэдадні вялікага сьвята, у прадчуваньні вялікае таямніцы. Хлябы нясуць сьвяціць. Размераная, нібы у такт музыцы, упэўнена крочаць яны да мэты. Рыхтык як ў тых шэсьцях сьвятых жанок-міраносіц, якія крочаць да прастолу Хрыстовага.

Калярыстычнае вырашэньне гэтага твору, складанае й насычанае, не падобнае на пазьнейшага Савіцкага. Складаныя, жаўтавата-шэраватыя адценьні сьнегу ўзбагачаюцца рытмам кантрасных, халодных і шчыльных адценьняў дрэваў і людзей. Дакладней, іх жорсткіх абрысаў. Гэты прыём, спалучэньне ўмоўнае прасторы і аб'ёмных элемэнтаў нагадвае прыёмы эпохі мадэрну. Але гама... заснаваная на набліжаных нюансах, уводзіць нас у знаёмы, блізкі сьвет, штодзённы, як хлеб. Разнастайныя пераліvы вохрыстых, умбрыстых пісягоў, колераў хлеба, адценены суворым і графітнымі блікамі дрэваў ды цёплай сінечай спадніцаў. Маладзейшая кабета вылучана чыстым чырвоным абрысам хусткі... Чырвоны — колер жыцьця і волі. Гэткі ж абрыс падхоплены плямаю рукавіцы, што ўпэўнена трымае бохан. Гэтыя таны беспамылкова ўказваюць на час і на месца дзеяньня — Беларусь...

Рэлігійнасьць Савіцкага стала відавочнаю апошнімі гадамі. Ён піша сьвятых, анёлаў, п'еты... Нарэшце... І ў адной са сваіх работаў, напісанай ў 1994-м, «Цудзе пра хлябы», ён гатовы сказаць тое, чаго не адважваўся сказаць адкрыта раней. Хрыстос, нібы падзяліўшы між людзей свой німб, адарыў кожнага круглым боханам — сымбалем сьвятасьці й неўміручасьці зямлі. Для мастака — зямлі роднай... Аднак нешта ўсё ж ня так. Ці то ўжо цяжка паверыць... «Хлябы», напісаныя ў недасяжна, неўяўляльна далёкім 1968-м, гэтак і засталіся неперавершанымі самім мастаком. «Хлябы» засталіся самым беларускі ягоным творам... які зьберагаецца цяпер у Маскве.



**Міхаіл Савіцкі** (1922, Зьвянячы, Талачынскі раён), жывапісец, пэдагог. У 1951 скончыў Менскую мастацкую вучэльню. У Маскве ў 1957 г. скончыў мастацкі інстытут імя Сурыкава. Народны мастак СССР, народны мастак БССР, акадэмік. З 1980 г. ачольвае творчыя акадэмічныя майстэрні пры Міністэрстве культуры.

Віктар ШНІП

# ТЫ

Ты створаны Богам, як Ноем каўчэг,
Дзе ўсё ён зьмясьціў, нібы ты ў сабе грэх,
Зь якім ты паўстанеш прад Крыжам сваім,
Як Ноеў каўчэг перад шляхам марскім.
І ты ўжо ідзеш па дарозе зямной,
Забыты і Богам, і вернай жаной.
І ногі твае растрывожваюць пыл,
Які асядае на травы магіл,
Дзе нашы надзеі на будучы час,
Дзе будзе наш Храм, але будзе бяз нас...
І ты ўжо ідзеш і ня помніш, хто ты,
І ты за сабою ня бачыш сьляды...
Ты створаны Богам, як Ноем каўчэг,
Ты створаны Богам, і ты — Божы грэх...

***

На вуліцы цемра, як соннае ў пляшцы віно,
І поўня, як костачка вішні, што ўпасьці на дно
Ніколі ня зможа, бо дна ў гэтай цемры няма,
І мне адзінока, нібыта ў пустэльні вадзе,
Нібыта манаху, які ў сваю Мэкку ідзе
І знае, што сёньня, ён, грэшны, сышоў не дарма
Ад шэрых дамоў, ад глыбокай, як яма, начы,
Дзе сьвет не пачуе цябе, хоць ты крыкма крычы,
Бо цемра навокал, як соннае ў пляшцы віно,



Як попел, якім замятаецца наша жыцьцё,
Як чорнае-чорнае з дрэваў счарнелых лісьцё,
І я, нібы костачка вішні, што ўпала на дно...
І сьмерць мая вып'е са мною віно.

***

Гэты сьвет мы прыдумалі самі...
Ён, як сон, што прысьніў пад кустамі
Валацуга, што выгнаны з раю.
Гэты сьвет, як свой лёс, я ня знаю,
Як ня знаю навокал нікога.
Гэты сьвет, як дарога да Бога,
Што травой зарасла і крыжамі.
Я іду, і ў мяне за плячамі
Сьвет, дзе я ўжо ня буду ніколі,
Як ня будзе ў памерлага долі...
Гэты сьвет мы прыдумалі самі.
Ён стаіць, як туман, прад вачамі,
І ня бачым за ім мы нічога...

***

Гэта лета таксама міне,
Быццам зьнічка ў сусьвеце, мільгне
У жыцьці, што табою пражыта,
Як вада нежывая адпіта
З чашы той, што належыць табе.
І глядзіш ты на лета ў журбе,
Як на хуткі цягнік, што зьнікае,
На які тут білетаў ня мае
Аніхто, бо цягнік не спыніць,
Ён у ноч, як у прорву, ляціць.
А зь яго яшчэ чуецца сьмех,
Яшчэ ў ім сатвараецца грэх,
І табе яшчэ хочацца сьледам
Бегчы, як за спакусай, за летам,
Ды ня ўсьпець, не дагнаць, не спыніць.
Лета можна, як кветкі, любіць,
Толькі тыя, што не на магіле...
Дзень прайшоў незаўважна, як хваля.
Гэтак лета таксама міне
І, як восень, ты зноў да мяне
Зойдзеш ціха, каб толькі сказаць:
«Як ня хочацца мне паміраць...»

Адам ГЛЁБУС

# Рацыянальнае

Не сумнявайся, народ заліччыць тырана ў вялікія дабрадзеі, калі той выпусьціць з турмы цябе, якога сам жа пасадзіў ні за што ні пра што.

***

Тыран раздае ўзнагароды й пасады найгнюсьнейшым зь лісьліўцаў, каб хоць на нейкі час пазбавіцца ад іх.

***

Дэспат хавае злыя дзеяньні за добрымі словамі.



Вясна. Каля Вайсковае вучэльні. 5.04.1993

***

Апісаньні сьмерці збольшага наіўныя, як апісаньні несьмяротнасьці й бясконцасьці.

***

Калі ты разумны, цябе досыць проста папракнуць за бессардэчнасьць і маладухоўнасьць.

***

Розум — гэта ўменьне выходзіць з дурных акалічнасьцяў.

***

Мець — не азначае ўмець карыстацца.

***

Каб перамовы мелі посьпех, табе давядзецца ахвяраваць інтарэсамі хаўрусьнікаў.

***

Любую абстрактную параду варта перацягнуць у параду самому сабе, каб убачыць яе сапраўдныя вартасьці.

***

Самы дасканалы данос можна напісаць толькі на самога сябе, а мець з гэтага будуць усё адно інквізытары.

***

З дакладнымі ведамі сваіх жаданьняў жывецца лягчэй; наведаньне, як цемра, поўніцца небясьпекаю.

***

Захапляцца ўласнай працаю лепей за ўсё ў замкнёнай цішыні ўласнага кабінэту, сам-насам.

***

Бедныя бачаць у багацьці праяву лёсу, заможныя — плён уласнай працы.

***

Не гавары пра сяброў кепскае — гэта, хутчэй за ўсё, праўда.

***

Няма мяжы паміж недахопамі й набыткамі.

***

Калі з табою пагадзіліся, гэта не азначае, што ты знайшоў разумнага паплечніка.

***

Разумнага немагчыма пакрыўдзіць; крыўдуеш роўна настолькі, наколькі пачуцьці пераўзыходзяць розум.

***

Быць шчодрым вельмі хутка надакучвае, як і хутка абрыдае цьвярозасьць і разважлівасьць.

***

Вакол вар'ята жывуць адны вар'яты, ва ўсялякім разе, ён так сьцьвярджае.

***

Калі Француа дэ Ляроўфуко разважае пра пашырэньне розуму да межаў магчымага, міжвольна ўзьнікаюць думкі пра вар'яцтва.

***

Пабытовыя дробязі складаюць вялікія жыцьцёвыя праблемы.

***

Заўтрашнія прыбыткі грунтуюцца на сягоньняшніх стратах.

***

Развагі селяніна часам больш рацыянальныя за часопісную эсэістыку навукоўцаў.



Малюнкі Уладзімера Адамчыка.

Ускраіна. Х.04.1993



Падглядванне. 21.05.1993

***

Калі перастаеш злавацца, робісься добры... Запэўнівае Ляроўфуко. Зусім неабавязкова, можаш стаць і абыякавым.

***

Сапраўднае сяброўства выдумалі ў XVII ст. маралісты кшталту Ляроўфуко.

***

Вялікая бяда вылупліваецца з маленечкага няшчасьця, як зьмяя зь яйка.

***

Аднавіць страчанае сяброўства немагчыма, яно разьбіваецца аб зайздрасьць на дробныя пырскі, як хваля аб скалу.

***

Не заўсёды зможаш сабе дазволіць раскошу — быць разумным.

Паўліна КАЧАТКОВА

# КАВАЛАК ЖЫЦЬЦЯ

*АПАВЯДАНЬНЕ*

Двухпавярховы дом у стылі «мадэрн» адрэстаўравалі і зрабілі ў ім музэй.

Зімою, калі падае сьнег, музэй нагадвае калядную паштоўку. Вечарам аранжавае сьвятло ў музэйных вокнах вабіць да сябе. Хочацца зазірнуць у дамок праз вакно ці зайсьці. Зайсьці можна праз цэнтральны ўваход, а можна — і праз службовы, націснуць кнопку званка, пачакаць крыху — і нехта адчыніць, тады трэба сказаць, да каго ты ідзеш... Вось і ўсё. Патрапілі на калядную паштоўку.

Людзі, якія працуюць тут — добрыя і ветлівыя, шмат гадоў аддалі яны музэйнай справе. Усіх нас, хто працуе тут, яднае любоў да літаратуры, да падзеяў мінулага і адно забойства, якое адбылося ў гэтым доме паўстагодзьдзя таму. Тут забілі клясыка нашай літаратуры.

Забойцу так і не знайшлі. Засталіся здагадкі, вэрсіі ды меркаваньні — спажытак для дасьледчыкаў. У тым ліку і для мяне.

Можна сказаць, што ў мяне ўсё добра, але часам розныя сны і прадчуваньні не даюць спакою. Я ня зьвязваю іх са сваёй працай, хутчэй, гэта праблемы майго характару. Вось і сёньня зранку, калі выйшла з кватэры, кнопка ў ліфце так здрадліва мігцела, так пульсавала і палохала сваім ненатуральна памаранчавым колерам... Кнопка ў ліфце папярэджвала пра нядобрае. Таму я пайшла па прыступках. Пакуль ішла, мне не спадабаўся пад'езд. У пад'езьдзе ўсё — сьцены, вокны, сьвятло такое — не разабраць, што там на вуліцы — лета ці зіма, вясна ці восень. Толькі часам сьнежны сьлед, занесены на падэшве чаравіка, жоўты кляновы ліст ці зьмятая кветка паказваюць, што там — на дварэ.

Калі я хвалююся, дык вельмі часта падыходжу да вакна свайго кабінэту — гляджу, што там? У мяне часам пытаюць: каго ты чакаеш. А я нікога не чакаю, проста думаю, што прыйдзе дзень, калі ўсё зьменіцца.

Цяпер на вуліцы падае сьнег. Падае і растае на бруку. Толькі на дахах сьнег не растае. Белы сьнег на чырвоных дахах абяцае зьмены ў жыцьці. Я вяртаюся да стала, дзе стаяць вельмі тонкія парцалянавыя кубак і сподачак. З гэтага кубка піў каву ды яшчэ што-небудзь клясык нашай літаратуры. Я вымяраю дыямэтар донца. На фондавым блянку запісваю: «Філіжанка. Белая, з залатой аблямоўкай. На донцы выява галавы лася. Знак брунатнага колеру». Пахне старымі кнігамі і крышку — кавай. У кабінэце ціха, але гэтая цішыня нядоўгая — у дзьвярах зьяўляецца наш супрацоўнік Алесь, ён запрашае мяне пайсьці папаліць. І я адстаўляю кубак з залатой аблямоўкай і галавой лася і выходжу ў цёмны калідор. Гэты калідор вядзе ў мэмарыяльны пакой, дзе адбылося забойства клясыка нашай літаратуры. Забойства адбылося ноччу, таму на калідоры заўсёды ноч, дакладней, імітацыя ночы, каб найлепш перадаць атмасфэру падзеі. Але мы цяпер не ідзем у памятнае месца. Спускаемся ў сутарэньне музэя, там можна папаліць. Старыя сьцены доўга захоўваюць тытунёвы дым ды рэшткі размоваў.

— Ты ведаеш, — кажа Алесь, — я апошнім часам нічога не магу рабіць, толькі думаю. Ты толькі не шукай у маіх словах ніякага сэнсу, але я цяпер узгадаў Ларысу Геніюш. Яна пісала пра тое, што ўдзячны француз робіць з прастытуткі каралеву, а расеец з каралевы — прастытутку.

— Хочаш сказаць, што ты не француз?

— Так, — уздыхае Алесь, — але і не расеец.

— Значыць, ты ня ведаеш, што табе рабіць?

— Так.

— Табе можна толькі пазайздросьціць, што ты думаеш пра гэта. Значыць, моц тваіх захапленьняў слабне.

Так кажу я. А што тут яшчэ скажаш, калі добра ведаеш: хто і што стаіць за гэтымі словамі пра каралеву і прастытутку.

— Стань сама сабою! Адкінь усе комплексы! Паводзь сябе натуральна! — раіць мне Алесь.

А хто ведае, што будзе, калі кожны стане сабою?

А што, калі ня хочацца «рабіцца сабою»?

«Гэты пакой — самае дарагое, што ёсьць у нас, — зь лесьвіцы даносіцца тупат ног і голас Тані, маёй сяброўкі. — Мы з вамі падыходзім да месца, дзе былі напісаныя непаўтызденыя ўзоры нашай літаратуры. І ў гэтым жа месцы быў забіты іх творца. Тут створаная атмасфэра ночы, бо ноч была часам для творчасьці. Удзень клясык нашай літаратуры ахвяраваў сябе грамадзкай дзейнасьці, і толькі ноччу надыходзіў час для дзейнасьці творчай».

У сутарэньні я добра ўяўляю, як экскурсанты падымаюцца наверх да кабінэта клясыка нашай літаратуры. Падымаюцца па прыступках, якія памятаюць іншыя крокі — крокі забойцы. Я чую, як Таня зьвяртае ўвагу наведнікаў на музэйныя рэліквіі: «На стале вы бачыце гадзіньнік, які адлічыў апошнія хвіліны жыцьця клясыка нашай літаратуры і пачаў адлік яго несьмяротнай славы». Роўным, глыбокім голасам Таня гіпнатызуе тых, хто яе слухае: «Паглядзіце, фатэль ад стала крыху адсунуты. Здаецца, творца толькі што ўстаў з-за стала і вернецца праз некалькі хвілінаў. Вы памятаеце? У яго асобе было шмат прыцягальнага і загадкавага. Шчырым быў ён у жыцьці, непрадказальнай і пакутніцкай была яго сьмерць».

Для большага эфэкту і ўзьдзеяньня варта было б казаць іншае: «Уявіце сябе забойцам, які заходзіць у кабінэт, каб назаўсёды спыніць творчы працэс...» альбо «Уявіце сабе, як вы сядзіце і пішаце, у коле сьвятла настольнай лямпы зьяўлецца цень. І гэта ня змрочныя цені вашых фантазіяў, а цень рэальнага чалавека — забойцы. Вы не заўважаеце нічога да апошняга імгненьня, а пасьля — сьмяротны жах і пасьмяротная слава». Але так нельга казаць, мы мусім выклікаць у людзей станоўчыя эмоцыі. І нагул, прафэсійнае правіла кожнага экскурсавода — казаць ня больш адной трэці ад таго, што ведаеш.

Пасьля экскурсіі Таня заходзіць да мяне.

— Цікавая філіжанка, — яна бярэ ў рукі кубак з выявай галавы лася.

— Што ў ёй цікавага. Такая самая стаіць у мэмарыяльным пакоі каля лямпы. Ты яе кожны дзень паказваеш людзям. Гэта ўсё адзін сэрвіз, дарэчы.

— Цікавае ў гэтай філіжанцы тое, што зь яе мы можам зараз выпіць кавы. А тая — прымацаваная да стала. Зь яе ўжо ніхто нічога піць ня будзе.

— Ня будзем гэтага рабіць, — кажу я. — Бо нельга.

— А чаму нельга? Раней у гэтым доме зь яе пілі каву. І мы паўторым.

— Раней у гэтым доме шмат чаго рабілі. Гэта ня значыць, што мы ўсё мусім паўтараць. Ты ніколі ня думала пра тое, чаму людзі ходзяць да нас? Ты можаш зараз сказаць, што гэта чытачы і аматары гісторыі. А раптам ня так? Ты заўважыла, як дзеці любяць глядзець на пахаваньні? Зразумела, што ня ўсе. Некаторыя баяцца. А большасьці — падабаецца. Таму што міжволі цягнуцца да ўсяго жудаснага, незразумелага. З той самай прычыны людзі ходзяць у музэй. Таму мы тут. А ты падумай, чым мы тут займаемся цэлымі днямі? Па сутнасьці, выклікаем духаў. Ведаеш, выклікаць духа вельмі проста. Варта толькі ўявіць яго і надаць ягонаму абліччу моц сваёй душы. І вось ужо прывід зьявіўся, як зьяўляецца адбітак у люстэрку. Таня, што ты адчуваеш кожны раз, калі заходзіш у мэмарыяльны пакой і расказваеш пра забойства? Паміраеш ці забіваеш?

— Нічога такога. А што, трэба кожны раз паміраць самой? Можа раней такое і было... Калі мы толькі пачыналі працаваць. Але ты сказала, што дзецям падабаюцца пахаваньні? Дзе ты такое бачыла? — гаворыць Таня.

— Калі памерла наша суседка. Дзеці беглі з усяго раёну глядзець, як яе будуць выносіць. Беглі і крычалі. А яе дачка ішла за труной са жвачкай у роце і выдувала пузыры. Дачцэ восем гадоў.

— Пра што ты гаворыш?

— Я табе расказвала пра гэтую суседку шмат разоў. Яна казала, што пераможа сьмерць.

— Рак?

— Так. Яна марыла спачатку пра трохпакаёвую кватэру і дзіцёнка — дачку. А пасьля ў яе была іншая мара — перамагчы сьмерць. Яна змагалася за жыцьцё да апошняга дня.

— А пра што марыла ты? — пытаецца Таня.

— Спачатку — працаваць у музэі. Мне здавалася, што тут я знайду супакой. Прыходзіш, звоніш. Дзьверы адчыняюцца... Кнігі — маўклівыя сябры. Лямпа гарыць. Больш нічога ня трэба. А цяпер я не магу, я не знаходжу супакою, мне здаецца, мы ўсе тут займаемся ня тым.

— Ты думаеш, што ты сыдзеш, і нешта зьменіцца?

— Зьменіцца. Прыйдзе дзень, і ўсё зьменіцца, але дзень гэты прыйдзе незалежна ад нас.

А цяпер трэба ісьці зачыняць музэй. Яшчэ раз прайсьці па пакоях і праверыць, ці ўсё на месцы, пагасіць сьвятло, зачыніць форткі, запячатаць дзьверы, уключыць сыгналізацыю і здаць ключы вартаўніку.




*25 чэрвеня 1909 году*

КАЛІ ПАЧЫНАЦЬ КАСЬБУ? Хто хоча мець сытнае пахучае сена добрага гатунку — мурог, павінен прыступаць да касьбы ў тым часе, калі сенажаць красуе (цьвіце), бо ў гэтым часе трава ўсяго больш мае ў сабе пажывы для жывёлы. Ня трэба чакаць, пакуль трава адкрасуе, бо як краскі абсыпяцца, то сена вельмі траціць сваю сытнасьць, робіцца цьвёрдым, лыкаватым і больш падобным да саломы, чым да сена, як на погляд, так і з сваёй сытнасьці для жывёлы.

Касіць трэба як можна гладзей, бо чым гладзей скосім сенажаць, тым больш зьбярэм сена, а з другога боку трава, гладка скошаная, лепей адрастае.

Сушачы сена, трэба глядзець, каб не астаўляць яго пад расу, бо раса яшчэ больш чым дождж шкодна на сена: выпаласківае пажыўныя часьціны зь сена і адбірае вядомы ўсім пах сьвежага, добрага сена. Ня можна астаўляць пад дождж падсушанага і перавернутага сена ў пракосах; лепей сырое злажыць у кучы добра ўтаптаўшы, каб магло яно ўгрэцца, а як сонейка прагляне — растрэсьці і хутка зьвязьці ў пуню. Ня трэба баяцца таго, быццам сена папсуецца ў кучах зложанае сырым, бо ў краях, дзе летка бывае кароткае і дажджлівае, заўсягды такім парадкам прыгатаўляюць сена; мае яно колер цямнейшы, а бывае, што і саўсім цёмны; але добра прыгатоўленае, такое сена, мае пах мядовы, і жывёла яго есьць ласа.

*Лішні*

*Сардэчнае віншаваньне з узяцьцём шлюбу*
**СЬВЯТЛАНЕ МАЛЫШАВАЙ ды МІКОЛУ КУЗЬМІЧУ!**
Няхай мацнее й будзе вечным вашае каханьне!
*Мікола Дзямід*







# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Яну В.** зь Менску. *Янка Купала. А тады немцы прыйшлі.*
**Алесю М.** зь Менску. *«Спсп. гавіным мала» або «заслугаваў Сьвёнтак свой ордэн» — гэта сапраўды ў стылі Казлоўскага або Зімоўскага.*
**Антону П.** з Горадні. *Кажуць, што лібэрал — гэта чалавек, які для вырашэньня таго, каго памілаваць, Хрыста ці разбойніка, прапануе склікаць парлямэнцкую камісію. А кансэрватар — чалавек занадта тоўсты, каб уцякаць, і занадта тонкі, каб біць.*

# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Суайчыньнікі зь Менску! Дзякуй за падтрымку! Мы — з вамі. Чакайце нашых наступных акцыяў. Гарадзенскія хлопцы

Віктар Яголда шчыра дзякуе ўсім, хто дапамог у вызваленьні з-за кратаў

Куплю часопісы «Спадчына» 1/98, 1/99. Тэл.: 262-67-02, Валянцін Іванавіч

Прэзэнтую добрым людзям двух файных кацянятаў — шэрую котку й белага коціка. Няхай прынясуць камусьці радасьць. Тэл.: 237-40-20, Тацяна

Пазнаёмлюся з прыхільнікамі творчасьці Адама Міцкевіча і яго сяброў. А/с 264, Менск, 220024

Мясаед наш скончан. Шчыльней шчэмім вусны! Зьвіснуць хаму на вяроўцы Селядцом запусным. Ладымар Жылка

Прывітаньне ўсім аматарам беларускай рок-музыкі. Жыве Беларусь!!! Жыве піва! Жыве беларускі рок! Вашаніўцы

Віця! На табе «вісіць» 60 у.а. Памятаеш? Адамовіч

Мельнікаў, касэту на базу! Калі ласка. Адамовіч

Надта хочацца ў вырай... Юрась Станкевіч! Мы з табой абавязкова паляцім. Няхай нават ува сьне... З днём народзінаў! Алена

Шаноўны Юры Андрэевіч! Мае самыя шчырыя віншаваньні з днём народзінаў! Дзякуй за тое, што Вы ёсьць. Зорка-зьнічка Алена

Асмыковіча М., аўтара самых моцных напояў, віншуем з днём народзінаў. Жадаем моцнага здароўя і шчасьлівага каханьня. Заставайся такім жа вясёлым і прывабным. Сябры-аднадумцы зь Нясьвіжу

Годзе дэм.смаркатасьці — чытайма бескампраміснае слова рашучае Правае Беларусі — «Слова Нацыі»

Берасьцейскія радыкалы, адгукніцеся! Ваш горад патрэбны нам! 220086, Менск, а/с 121, «Слова Нацыі»

Другі выпуск весьніку Беларускае Ультра-Правіцы, газэты «Слова Нацыі». Замаўляйма: 220086, Менск, а/с 121 (ад Вас — чыстая капэрта)

Твой распаўсюд «Слова Нацыі» — Твой унёсак у справу Нацыянальнае Рэвалюцыі. Кантактуй: 220086, Менск, а/с 121

Беларусы, купляйце піва з этыкеткамі на роднай мове. Гэта найлепшы напой! Ангеліна

Травеньскія выбары не зьдзівілі. Зьдзівіла тое, што іншыя журналісты іх не зразумелі. Вячаслаў Мілкоўскі

Калі б журналісты ня мелі дачыненьня да друку, мала хто зь іх змог бы публікавацца. Вячаслаў Мілкоўскі

Ахвочыя атрымоўваць нацянал-дэмакратычную газэту, орган «Народнага Сакратарыяту БНР» — «Радавую Беларусь», дашлеце капэрту з маркай і купон б/а. Выйшла 6 нумароў. «Радавая Беларусь», а/с 169, 220030, Менск

Выйшаў новы праект «Радавае Беларусі» — літаратурна-спэцыфічная газэта «Наша Ніва Ісьцінная». У першым нумары: творчая бягунка Дзеда Карнея, праўда пра канец сьвету, інтэрвію (з фотаздымкам) жывое вядзьмаркі і інш. Каб атрымаць, дашлеце капэрту з маркай і купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

Па-над намі зноў зьзяе Перунова кола, вялікая спадчына продкаў чакае цябе! Алесь

Прапануем в/а працу ў хаце (250 у.а.). Гэта Вы можаце! Укладзіце 2 кап. са зв/а + купон б/а. А/с 122, 220089, Менск

Беларусы, балтарусы! Вы пазбавіліся мовы сваёй, быдлам быць заўжды гатовы. Віктар Саламаеў

То засушыць, то заліе, то вымарозіць... Бог спрабуе давесьці да ўсьведамленьня людзей, што земляробства — справа ня ўсіх, а толькі спэцыялістаў, якія ўсё маюць і ўсё ўмеюць, — фэрмэраў. Вячаслаў Мілкоўскі

Адзін і той жа народ за таталітарызмам іншы, чым за дэмакратыяй. Вячаслаў Мілкоўскі

**Мы друкуем таксама абвесткі большым шрыфтам і ў аформленым выглядзе, але за невялікую плату:**
*– да 20 словаў – 40 000 руб., звыш 20 словаў – 60 000 руб.;*
*– па-мастацку аформленая аб'ява (мінімальны памер рэклямнага модулю 18 кв. см) – 180 000 руб.;*
*– па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету – ад 25 000 руб. за 1 кв. см.*
***За аб'яву пра сямейныя падзеі – зьніжка.***

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г. Менску, код 763.*

На зваротным баку бланка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

**КУПОН** БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________



«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Набор Аляксандры Макавік. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2835. 8 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18[00], 27.06.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N3195

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі перыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12